УДК [821.161.3+821.161.1(476)](082)
ББК 84(4Беи)
И94

Укладальнікі: Л.Л. Бутурля, Г.І. Завадская, І.Б. Жышко.

Выданне падрыхтавана супрацоўнікамі аддзела бібліятэчнага маркетынгу Іўеўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі пры фінансавай падтрымцы Іўеўскага райвыканкама.

И94 **Іўеўшчына** літаратурная: зборнік прозы і паэзіі / уклад. : Л.Л. Бутурля, Г.І. Завадская, І.Б. Жышко. – Гродна : Гродзенская друкарня, 2013. – 112 с. : іл.

ISBN 978-985-7037-39-1

У зборніку змешчаны празаічныя і паэтычныя творы прафесіянальных і самабытных майстроў слова, якія пражываюць ці пражывалі на тэрыторыі Іўеўшчыны. Зборнік аздоблены карцінамі мясцовых мастакоў І.Струкава, І.Васюкевіча, Г.Козела, фотаздымкамі С.Зянкевіча, С.Міранчык.

Творы раскрываюць прыгажосць роднай зямлі, хараство і багацце чалавечых характараў, любоў да малой Радзімы.

Кніга будзе цікавай і карыснай для ўсіх, хто цікавіцца літаратурнай спадчынай Іўеўскага краю.

**УДК [821.161.3+821.161.1(476)](082)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7037-39-1**

# Слова да чытача

*Каб зразумець паэта, пісьменніка, журналіста, мастака, трэба ведаць тую зямлю, дзе ён нарадзіўся і ўзгадаваўся. Менавіта родныя мясціны, іх непаўторная прыгажосць жывяць сапраўднага творцу, надаюць яго вершам, радкам, тварэнням пэндзаля і алоўка незвычайнае хараство і прывабнасць.*

*Колькі самабытных паэтаў, кампазітараў натхніла іўеўская зямля з яе маленькай, але такой жывой і гаючай рэчкай Івенкай, старым млынам ля возера і празрыстай крынічкай, маляўнічымі краявідамі і старажытнымі пабудовамі, працавітымі і натхнёнымі людзьмі.*

*Творчасць – гэта стан душы, гэта магчымасць сказаць тое, аб чым думаў, мабыць, кожны, аднак не знайшоў тых слоў і выразаў, тых фарбаў і адценняў, а на небе ўбачыў проста воблакі, а не карагод прыгажунь, што танцуюць вальс...*

*Творчы чалавек інакш бачыць, інакш адчувае, інакш выказвае сваё бачанне і ўчынкі.*

*Нездарма ж кажуць, што вершы піша кожны закаханы. А каханне, як вядома, абуджае да жыцця найлепшае, што ідзе з самых патаемных і чыстых куткоў душы.*

*Атрымліваецца, што творчыя людзі – гэта хранічна закаханыя людзі. Закаханыя ў жанчыну ці мужчыну, у сваю Айчыну, у гэты светлы сонечны дзень, у чалавека – творцу, працаўніка, побач з якім жывуць, учынкамі і працай якога захапляюцца.*

*На нашай зямлі, у нашым горадзе і раёне немагчыма абыякава ўспрымаць рэчаіснасць і жыць “як набяжыць”. Агляніцеся наўкол — і вам таксама захочацца напісаць пра гэты горад, пра яго людзей, пра цэрквы і касцёлы, пра мячэць, якая так надзейна адчувае сябе ў хрысціянскім горадзе і краіне.*

*Яшчэ чакае свайго паэта-летапісца і мастака наша асабістае “цуда свету” – мемарыяльны знак еднасці і згоды іўеўчан розных веравызнанняў і нацыянальнасцей. Мы хоць у камені, але зрабілі тое, аб чым мараць людзі добрай волі ва ўсім свеце – аб’ядналі рэлігіі і нацыі.*

*Мы талерантныя, мы – творчыя, мы – патрыёты малой Бацькаўшчыны і Айчыны, мы працуем і жывём дзеля росквіту краіны і свайго горада.*

*Таму і не дзіўна што пішуцца вершы, рыфмуюцца радкі, выказваюцца найлепшыя словы і выразы, а на палотнах з’яўляецца палітра вясёлкавых фарб надзеі.*

*У гэтым зборніку – вершы, проза, жывапіс. Тое, што ўсе яны сабраны разам, яскрава сведчыць аб тым, што мы аднолькава ганарымся і прафесійным паэтам, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Расіі, палітычным і грамадскім дзеячам Іванам Карэнда і нашымі самабытнымі паэтамі, і нашымі мастакамі, літаратарамі...*

*Вазьміце ў рукі гэтую кніжку, адчуйце цяпло душ і сэрцаў тых, хто штодня закаханы ў гэты свет, у чалавека, у мінулае, у дзень сённяшні і тую будучыню, якую мы ствараем разам.*

*В. Гулідава*



# Іван Карэнда

*Іван Арсеньевіч Карэнда нарадзіўся 17 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна. Скончыў там васьмігадовую школу, затым Морынскую сярэднюю школу, Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Янкі Купалы, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Ракавіцкай сярэдняй школы Шчучынскага раёна. Затым – камсамольская і партыйная работа.*

*У 1991 годзе перайшоў на працу ў Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку. З 1992 года – намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь, з 1994 года – намеснік міністра культуры і друку.*

*Працаваў ў Маскве – начальнікам Галоўнага сацыяльнага ўпраўлення апарата Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі, начальнікам Дэпартамента сацыяльнай палітыкі Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы. У лістападзе 2001 года стаў памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, начальнікам галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, затым – на дыпламатычнай рабоце.*

*Зараз у адстаўцы. Займаецца творчай работай. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў, Саюза пісьменнікаў Расіі. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў, кніг для дзяцей, п'есаў, празаічных твораў.*

## Вытокі

Родны край, прыехаў зноў я
Прывітаць твой светлы дзень.
Тут жыцця майго высноўе,
Скрыжаванне ўсіх надзей.
На прынёманскай сцяжыне
Тут зрабіў свой першы крок,
Першы след тут свой пакінуў,
Першы вывучыў урок.

Дыхаў тут сваім паветрам,
Рваў на полі васількі
І навыперадкі з ветрам
Бегаў босы да ракі.
Тут юнацтва росным ранкем
У пракосы палягло.
З ім і першае каханне
Адцвіло і адышло.

Колькі восеняў і вёснаў
Прамінула з той пары,
А прыеду – шматгалоссем
Адгукаюцца ў бары.

Тчэ ўспаміны летні вечар,
Водар траў духмяны п'ю,
І салоўка – лепшы фельчар –
Лечыць тут душу маю,
Школьных вёснаў адгалоскі,
Як бальзам жывой вады.
...Ад' язджаю з роднай вёскі,
Каб прыехаць зноў сюды.

# Вочап

Не абудзяць на світанні пеўні
Гэты ціхі, амярцвелы кут,
Іхнія пабуткі – перапевы
Не пачуеш, падарожнік, тут.

І не скрыпне вочап каля студні:
Журавель ужо даўно струхнеў.
Дзень святочны ці звычайны, будны –
Вёска спіць у непрабудным сне.

Не пачуеш, як вядуць гамонку
Маладзіцы на мяжы двароў,
Як крычаць штораніцы спрасонку
Пастухі, збіраючы кароў.

І сабачых звыклых перабрэхаў
Не пачуеш, колькі тут не стой,
А гукнеш – дык адгукнецца рэхам
Дзесці толькі ўласны голас твой.

Больш ніколі не пачуеш, мусіць,
Як мурлычуць сонныя каты,
Як гагочуць каля рэчкі гусі, –
Не пачуеш, не пачуеш ты.

Не пачуеш стук сякеры ў лесе,
Паланез засмоленай пілы.
На дрывотнях крапіва і плесня,
Без патрэбы дровы пагнілі.

Не пачуеш, як клякочуць косы
Спрытным рухам стомленай рукі,
Як яны цвіркочуць у пакосах
Летнім росным ранкам ля ракі.

Не пачуеш, чалавек вандроўны,
За сталом бяседным галасы,
Смех дзяцей – вясёлы, непадробны,
Што звінеў тут доўгія часы.

І званок у школе не пачуеш,
Што склікаў дзяцей на кожны ўрок.
Тут цяпер і днюе, і начуе
Павуціннем апавіты змрок.

Тут не ўбачыш, як ідзе араты!
Баразною ўследкі за канём,
Ні аратых тут, ні памагатых
Не шукай – не знойдзеш днём з агнём.

Не пабачыш з сумкай паштальёна:
Ні пасылкі ў вёску, ні пісьма,
І таму ў прафесіі ягонай
Сэнсу аніякага няма.

Не пабачыш – не прыжмурвай вока,
Як вяргіня ў прысадку гарыць.
Тут цяпер няма з кім пагалёкаць,
Ці душа ў душу пагаварыць.

Не ўзірайся пільна ў наваколле –
Што тут зловіць мудры той пагляд?
Здзірванела бульбяное поле,
Хмызняком зарос калгасны сад.

Позірк твой – куды яго ні кінеш –
Не сустрэне вабнасці, цяпла.
Сумная, самотная карціна.
Вёска ціха на той свет сышла.

Тут даўно не пахне сырадоем,
Свежым, з роснай градкі, агурком.
Дзікім шчаўем, мохам, лебядою
Зарасло, збуяла ўсё наўкол.

Не ўчастуе вёска караваем,
Мёдам, пальцам пханай каўбасой.
Тут нішто душу не сагравае –
Студзіць, нібы жнівеньскай расой.

Не спяшайся толькі, падарожнік,
Гэты край пакінуць найхутчэй,
Абтрасеш пазней свой пыл дарожны,
Сум з душы і стомленасць з плячэй.

Прыпыніся каля хат струхнелых,
Ля абвіслых веснічак пастой
І паслухай росказ пра знямелы
Гэты кут – куточак мой.

Я з тутэйшых. Раскажу ўсю праўду.
Выбачай, што шмат у ёй тугі...
Мо, дасі якую мне параду...
Слухай, дружа, слухай, дарагі...

****

Акраец хлеба і глыток вады,
Святло кахання і букет рамонкаў
Дала ў дарогу мне на шчасце ты,
Мая Айчына, родная старонка.
Ці ўдзячны я за шчодры мой надзел,
За спадчыну багатую такую,
Ці радуе пражыты мною дзень
Тваю душу, што рэдка не смуткуе?
Твой сын, я мушу шчырым быць заўжды,
Аплачваць працай твой крэдыт даверу
І засланяць сабою ад бяды
Цябе ў часіны непагадзі шэрай.

## Радзіме

Шмат бачыў прыгожых краін я на свеце,
Дзе мне рассцілалі гасцінна абрус,
А ты мне адна яркай зоркаю свеціш,
Любімая, родная Белая Русь.
Ты – радасць мая і надзейны прытулак
У непагадзь-слоту і сонечны дзень.
Тут цёплыя рукі самотнай матулі
Мне грэюць душу, як нішто і нідзе.
... Стаю ў задуменні на родным падворку.
На стрэмку-пытанне шукаю адказ:
Чаму ты так доўга была на задворках,
Чаму ад цябе адварочваўся час?
Цябе не любілі, насуперак Богу,
Эпохі, стагоддзі, цары і паны.
А ты церабіла, шукала дарогу,
Ішла да сваёй запаветнай вясны.
Цябе скрыжаваць цемрашалам карцела,
Сцякала крывёю ў пакутах не раз.
Не раз крумкачы тваё турзалі цела,
А ты, як магла, ратавала ўсіх нас.
Зямля мая родная! Быў бы я сонцам –
Штодня пасылаў бы праменні свае.
А быў бы дажджом – паліваў бы, да донца,
У летнюю спёку палеткі твае.
А быў бы асілкам – чужынец ніколі
Цябе б не таптаў, твае сокі б не піў,
Ніхто не пазбавіў бы долі і волі,
І пальцам злачынным цябе б не чапіў.
Так хочацца верыць, што час памякчэе,
Што шлях твой – насустрач шчаслівым гадам.
Каб сэрцу твайму хоць крыху палягчэла,
Апошнюю кроплю крыві я аддам.

# Тост "За вёску!"

Выбачайце, гарадскія людзі:
Я за Вёску прапаную тост,
Бо яна была, і ёсць, і будзе
Нашай славы і надзеі пост.
Кожны горад пачынаўся з вёскі,
Да яе туліўся ў час бяды.
Тут эпох далёкіх адгалоскі
І вайны пачварныя сляды.
Вёска наша – сэрца, пульс краіны,
І дарэмна горад нос задраў,
На яе глядзіць, як на руіны, –
Будзе ў вёскі светлая пара!
Прамаўляю з гонарам: "За Вёску!
За яе святыя мазалі!
За руплІўцаў, спадкаемцаў лёсу
Нашай роднай, спадчыннай зямлі! –
Патрыётаў бацькаўшчыны нашай,
Да канца адданых ёй людзей!
П'ю, вяскоўцы, за здароўе ваша,
І за ваш шчаслівы новы дзень!"

****

Я ў хату родную ўвайшоў –
Цяплом дыхнула печ старая.
А дзед з партрэта пазірае:
"Глядзіце, госць які прыйшоў!"
Я ў хату родную ўвайшоў –
З вачэй матуліных злятае
Сляза шчымлівая, святая:
"Сынок, як сцежку ты знайшоў?"
Я ў хату родную ўвайшоў –
Ніба нанова нарадзіўся.
Чаму і як лёс распарадзіўся,
Што госцем я сюды прыйшоў?
Я ў хату родную ўвайшоў –
Які ж я госць? – я сёння дома!
Тут мне з маленства ўсё знаёма,
Хоць і даўно адсюль сышоў.
Я ў хату родную ўвайшоў –
Нібыта ў боскі храм на споведзь.
Ды хто мае грахі тут помніць? –
Анёлам я сюды ўвайшоў.
Я ў хату родную ўвайшоў –
Цяпер няма куды спяшацца.
Не трэба мне чужых палацаў.
...Я ў хату родную ўвайшоў.



# Марыя Бакуновіч

*Марыя Валяр'янаўна Бакуновіч нарадзілася ў 1928 годзе ў г. Іўе. Закончыла Іўеўскую сярэднюю школу, затым Маладзечанскі ўлікова-планавы тэхнікум. Усё жыццё працавала бухгалтарам у розных установах і арганізацыях горада. Пасля выхаду на пенсію ў 1993 годзе пачала пісаць вершы, якія з ахвотай чытае на пасяджэннях літаратурна-музычнай гасцёўні "Спадчына" пры Іўеўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы, членам якой яна з'яўляецца многія гады. У 2004 годзе пры дапамозе сусветнага таварыства "Суполка польская" у Квіджыне выйшаў зборнік вершаў на польскай мове.*

## Попутчик

Поезд, вечер, дальний вагон,
Парень, окно и гармошка,
«Помню, братцы, – начал он –
Эти из-за окошка,
Помню, помню эти места...»
Парень задумчивый стал.

«Роща эта немцев была,
В ней мы учились рубать их,
В роще этой жизнь мне спасла
Девушка в ситцевом платье.
Помню пулей грудь обожгло...
Много денёчков прошло...»

Поезд мчится, скрипнула дверь,
Кто-то спросил потихоньку:
«Слушай, парень, где же теперь?
Где она эта девчонка?»
Парень нежно взглянул в окно:
«Стала женой она мне давно».

## Ты прыйдзі

Ты прыйдзі, як засвеціцца зорка
Ды заззяе ў цемры нябёс,
Сядзем і пагаворым з табою
Пра жыццё, пра каханне, пра лёс.

Будзем слухаць пад пакровам ночы
Таямнічых істот галасы,
Буду пяшчотна глядзець у вочы,
Буду гладзіць твае валасы.

Абдыму я цябе, прыхінуся,
Пачую сэрца твайго стук
І забуду пра ўсе свае беды,
Пачуўшы раптам цяпло тваіх рук.

Месяц на нас з-за хмаркі пагляне,
Як мы разам тут марым без сну,
І сустрэнем з табою світанне,
І яшчэ раз адчуем вясну...

Ты прыйдзі, майго сэрца жаданне,
Без цябе я жыць не магу.
Ты прыйдзі, я ўсю сілу кахання
Для цябе аднаго берагу.

Ты прыйдзі, няхай сэрца не плача,
І сваім я цябе назаву.
Ты прыйдзі, няхай людзі пабачаць,
Што шчаслівая я наяву.

# Быль

Жыў ды быў дзед Яўген
Ды з бабай Параскай.
Ён злы, вурчыць, бурчыць,
А яна ўсё з ласкай.

Мо яешні зрабіць,
Мо кваску ты хочаш?
Ён пысак надуўшы
Толькі нос вароча.

Так і жылі б яны далей,
Сорак год мінула,
Але ж маладуха
Дзеду падмігнула.

Як ашалеў стары
Ды кінуў Параску,
З хаты ўсё забраў
І карову Ласку.

І хату ён прадаў,
З маладой гуляе,
Гасцей часта склікаў,
Усё прапівае.

І жонка разам п’е,
А есці не варыць,
Старога ў краму шле,
Вот так гаспадараць.

Хутка ўсё прапіла
Вон Яўгена гоніць,
Маладога прывяла,
За сталом гамоняць.

Да Парaскі йдзе Яўген
Ды няма яе тут.
Дзесьці дзяцей няньчыць
За яду і  кут.

Эх, мужыкі, дуракі,
Што сваіх кідаюць.
Усё роўна там яны
Шчасцяйка не маюць.

# Тэрэза Барташ



Тэрэза Іосіфаўна Барташ нарадзілася ў 1968 годзе. Іўеўшчына – яе малая радзіма. Тут закончыла сярэднюю школу, сюды вярнулася працаваць. Пасля заканчэння філфака БДУ настаўнічала ў Іўеўскай дапаможнай школе-інтэрнаце. З 2007 года з'яўляецца галоўным рэдактарам установы "Рэдакцыя газеты "Іўеўскі край".

## Из цикла «Пилигрим»

Простор тебе и благое словенье,
Любимый, но далекий Пилигрим!

Когда следы сотрутся и слова,
Заблудшие и грешные мои,
Когда сотрется молодости грим,
Когда-нибудь, в одно из воскресений
Дождливых, ты останешься один...
Тогда я возвращусь желанней, чем теперь.
Чем все, кто был с тобою и кто будет.
Меня, тебя хранящую, присудит,
Как талисман на ищущую руку,
Бог или демон – справедливы судьи –
Я душу обещала им обоим.
– По очереди! – за твою любовь,
Готовая к молитве и к разбою,
Мне было все равно, какой ценою
Я возвращусь – и это неизбежно! –
Ни голоса, ни плоти, ни инстинктов,
Ни ревности, ни жалоб, ни наград...

Дорогами из солнца и луны
Истоптанными каблуками,
Как безднами из птичьего полета,
Мы бродим беззащитны и темны.
С расщелинами, с тонкостью струны,
Как путь молочный в сути неизменны,
Под горсткою запрета и измены
Моим дорогам метры сочтены.
Моя любовь, как младшая сестра,
С протянутыми вслед руками,
Коснется лишь угрюмой ткани
Остекленевшего пера.

Я помню твои руки –
Палец – жизнь,
Другой – мизинец –
Это жизнь моя,
А между ними мятная струя,
Сосредоточенно стекающая вниз.
А между нами – сон ночных огней,
Несвоевременность садовых улиц
Без блеска глаз зеленых умниц,
Без вздернутости их ветвей.
А между нами – суматоха дней,
Измятые по-белому кровати,
Неубранные комом платья,
Напоминающие королей...

Толкни меня – у нас еще попытка,
Отрекшись дважды, будет третий раз!
Я им жива! Не в бровь, а верно в глаз!
Мне все равно потом, какая пытка,
Мне все равно потом, какая я.
И мне потом совсем не будет надо –
Три ровно три, последняя награда:
Раз не твоя, тогда совсем ничья...

Наотмашь – вяленой весне
За растерзания, за муки,
Прощальных реквиемов звуки
Компрачикоссам, ждущим смех!

****

У очагов древнейшего огня,
На шкуре терпко пахнущего зверя,
Сидела женщина, красивее меня,
В удачу дня и силу мужа веря.

Рождался день, пропахнувший грозой,
Гасил огонь, дышавший среди пепла,
Умылась женщина древнейшею росой,
Согрелась в пойме солнечного света.

...Чтоб пилигриму обозначить путь
И стать строкою нотного листа,
В футляр пещеры, в отношений суть
Бесценным жемчугом ложилась доброта.

****

На высоких скамейках сугробы сидят,
Распушив свои белые бороды.
А с далекого неба снежинки летят,
И кружит Королева над городом.
Из февральских метелей родится хрусталь,
Остроногой слезой закапает...
В каждом мальчике видится царственный Кай,
В каждом зеркале – Герда гордая.

## Двойные ножницы

От пресыщения до голода,
От голода до сказочности.
Для кого-то приход,
Для кого-то уход:
И жестокий, больной!
Праздник сильный,
Искрящийся блеском!
Беспредельный черед:
Старый год, новый год...
Для кого-то приход,
Для кого-то уход...

## Стена

*(у памятника
воинам-интернационалистам в г. Ивье)*

К этой стене прислонясь,
Двадцатилетние парни
Падали в красную грязь
Сотнями, квинтами, парами...

К этой стене прислонясь,
Распластывались немея,
Чтобы увидеть мать
И нежно обняться с нею.

К этой стене прислонясь,
Вижу последний полет:
Падает в твердую грязь
Беспомощный вертолет...

К этой стене прислонясь,
Далекой от той стены,
Падаю в черную грязь
Под тяжестью чьей-то вины...

К этой стене прислонясь,
Я вспоминаю день,
Когда Конопелько Вася
Случайно упал в тень...
Я вспоминаю вас,
Ребята с Машеровки, семь...
Медали горящий глаз,
Падающий в купель...

К этой стене прислонясь,
Мой город печально молчит,
Ветер февральский сейчас
В колоколах скорбит...

# Уздоўж Сусвету — трохгалоссе лета...

*Чэрвень*

Чырвонай дамай
Расквітнеўшых дзён
Уставала сонца над зямлёй ў паветра
Ўзвышанна, павольна, нечакана,
Як быццам падымалася вуаль
Рукой звычайнаю,
Але такой жаданай...
Над шэрагам начных прывідаў, сноў,
Што ў будучую чэрвеньскую ноч
Дарогай вечнасці сакраментальнай,
Як падарунак вернуцца ізноў...

*Ліпень*

У кожным гуку і ў кожнай ноце,
Што ў ліпеньскі эфір
Злятала — пах цудоўных дрэў,
Каторыя ўжо сто год
Вядуць мазурку, карагод
Бліз нашай школы...
Ліповы пах — сярэдзіна дугі
Паміж пачаткам і канцом падзення!
Яшчэ пялёсткі кветак не ляглі
Прадцечай снежнага адзення...

*Жнівень*

На адыход — у шчодрыя далоні —
Адлюстраваннем шчодрасці зямлі —
Як зорны шлях, калоссе залатое
Ператварае ў золата палі...
І прыйдзе трыццаць першы дзень у час,
Як і ўсё, што нарадзіцца мела,
І прыйдзе — і пакіне ціха нас,
І гэта знак, што лета адзвінела...

# Последние сны

Сегодня мне снился сон. У меня в руках оказался какой-то рисунок. Я всматривалась в портрет человека при свете звездного неба. Бросилось в глаза выражение этого лица. Много чувства, жизненной силы...

...Это был мой портрет! Той, прежней...

Вдруг налетел ветер, вырвал портрет из моих больных рук.

С этим беззвучным и диким порывом растаял и звездный свет. Меня окружила ночь, черная и беспредельная. «Наверное, как там...» — подумала я во сне.

...Я и во сне больна. С некоторых пор я перестала видеть во сне день.

Все очень внимательны ко мне. Ведь им известно, что я обречена. И я знаю, что должна умереть, и знаю, что это случится не когда-нибудь, а совсем скоро.

Как все изменилось! Как давно я была такой, как все. А мир... Мир стал необыкновенно дорогим и привлекательным. Как хочется жить!

С какой остротой чувствую боль прощания — эту беспредельную горечь обреченных.

Мой дом стоит тих и печален. Моя мамочка ходит с красными припухшими глазами, похудела. Последнее время я почти не сплю ночами. Хочется встать и идти навстречу спасению: не зная куда, не зная к кому. Но я не встаю — лежу смирно, чтобы не расстраивать маму. Она приходит ко мне ночью, наклоняется надо мной, не дыша. Какая пощада. Она — меня, я — ее; и все молча, а в душе — с криком!

На прощание — прощенье всем и прощения у всех...

А все-таки я очень смела! Надежда даже не заглядывает в мое сердце и разум. Я вижу край...

Моя Пальма, моя бесхвостая собака, воет по ночам. Она поет гимн моей смерти, а ведь я еще жива...

Каждый день меня навещает моя подруга. Она живет на соседней улице. Всего десять минут ходьбы — для нее и более получаса — для меня.

Кругом бабье лето. Еще все ярко и светло. Листва только-только приобретает позолоту.

Уходит день, другой, третий... уходит жизнь... Мне все больнее и мучительнее...

С трудом пишу, лежа в постели. Мама только что унесла чашку из-под чая. Есть мне не хочется, но жажда жесточайшая. Да, что-то совсем плохо... А мамочке улыбалась, она вроде бы ничего не заметила. Но спустя несколько минут с бледным лицом почти влетела в комнату, спросить как я. Что это, неужели сильный приступ боли в моем теле передался ей? Мне хорошо, ответила, а так хотелось крикнуть: «Мамочка, спаси меня! Я умираю!»

...Сегодня я ждала Ее...

Меня оставили одну. Я сидела у приоткрытого окна, выходящего в сад. Моя мудрая осень вдохнула и в него мысль о прощании с чем-то привычным и поэтому очень дорогим...

Она вошла так тихо, что ни шорох ее одеяний, ни шаги босых ног не потревожили моих грустных мыслей. Я не услышала, как Она встала рядом. Костлявыми пальцами Она притронулась к моему плечу — я обернулась.

В ней нет ничего уродливого и безобразного... Зазеркалье жизни, закономерность, закон, за-...

Кажется мне пора...

— Да! Тебе пора! — голос у Нее был на удивление звонким. — Боишься покинуть мир?

— Нет! Не боюсь. Я не хочу уходить в неизвестность.

— А ведь я могу помочь тебе.

— Чем же? Ты поможешь мне умереть? — удивилась я.

— Да, я избавлю тебя от страха уйти.

— Я не боюсь, я не хочу,— повторила я раздраженно.

Она продолжала:

— Я расскажу тебе, что случилось с тобой. Ты не нужна мне была сейчас, если бы не одно обстоятельство...

Я слушала Смерть, не отрывая глаз от ее лба — огромного и бледного.

— Это произошло в августе. Вспомни 11 августа, твой день рождения.

И, о чудо, в ее глубоко посаженных огромных глазах я увидела, как в зеркале, отражение того дня.

Все было именно так! Но ничего особенного я не припоминала. Вот я иду с подругами по вечернему городу. На мне белый сарафан. Мы смеемся, нам весело. Я недоумевала, что особенного случилось в этот день?

И тут, словно оборвалась кинолента, все пропало. Я опустила глаза, потому что устала смотреть на Нее.

— Смотри дальше, это не все, — приглушенным шепотом сказала Она и вдруг нервно захохотала.

Я содрогнулась, услышав этот смех. Сделав усилие над собой, я посмотрела Ей в глаза.

...Незнакомый парень лет двадцати пяти заходил в вагон поезда. Его взгляд скользил по пассажирам, не останавливаясь ни на ком. Но вдруг задержался и стал более пристальным. О боже, его взгляд остановился на мне.

— Я вспомнила, — выдохнула я. Ту поездку в соседний город, ту странную встречу я вспомнила.

— Вот и хорошо! Он красив. Ты смотришь на него с нежностью. Он нравится тебе? Ну, хватит!

Смерть опустила глаза на секунду, а когда подняла, то в них была ледяная ненависть. Она с издевкой улыбалась мне…

— А ведь Он виновник твоей болезни. Спустя год после вашей встречи Он должен был умереть…

— Что ты с Ним сделала, ведь Он молод? — спросила я.

— Неосторожность привела Его ко мне. Он попал в аварию.

— Кто Он? Расскажи мне о Нем.

— Художник. Талантливый. Ха-ха-ха! — она судорожно окольцевала своими пальцами мою руку. — Когда Он увидел тебя, решил, что ты его идеал. Он рисовал тебя. Какое-то ошеломляющее чувство любви проснулось в нем, как только был нанесен первый штрих к твоему портрету. За этим последовали еще картины — и на каждой из них была ты. Но больше всего Он любил смотреть на портрет, написанный в день вашей встречи…

Он умирал, Он уходил за мной, но и тогда думал о тебе. Может и не о тебе, может о своем идеале, им же придуманном. И этот образ стал гранью между мной и Жизнью.

Но сил у Него оставалось все меньше, и уже не Жизнь, а его Любовь боролась со мной. Художнику не хотелось покидать землю, где у него был шанс встретить тебя.

Но была ПОРА. Я схватила Его за руку и мы ушли с этой земли. Но Он нес с собой твой образ. Особенно, он восхищался твоими глазами. Покажи мне их!

Она прикоснулась к моему подбородку, приподняла голову, приблизилась и стала пристально смотреть мне в глаза. Я почувствовала невыносимую боль и заплакала.

— Ах, что с тобой? — прозвучало с издевкой.— Слушай дальше!

Чтобы прийти к моему дому, надо находиться семь дней там, где нет ни времени, ни пространства. Мы шли, молча и торжественно, рядом и врозь. За это время, — Она запнулась и тихим шепотом выдохнула — слышишь, я полюбила Его.

Я содрогнулась: страшной и нереальной показалось мне любовь Смерти. Разве может Она любить? И что такое эта любовь?

— Ты не веришь мне? Не смей! Я умею любить так же, как и вы, люди. Да! Я любила Его, а Он не оставлял твой портрет и думал только о тебе. Он простился с землей, со всеми на этой земле, но не прощался со своей Любовью.

Смерть прервала свой рассказ. И уже с ненавистью посмотрела на меня.

— Ты забрала мои права над Ним. Любовь сильнее меня, кажется, так говорил мудрый Соломон. Ну что ж, я решила вернуть его Жизни, а значит… вернуть Ему надежду повстречать когда-нибудь на земле тебя…

Запрокинув голову с прямыми и бесцветными волосами, Она громко захохотала:

— Ты же знаешь, что такое ревность? Ха-ха-ха!.. Я решила забрать тебя! Ха-ха-ха!

— Ты мне мстишь, потому что Он любит меня? К сожалению, мы виделись всего один раз.

— Очень жаль, — повторила я.

— Нет! Я мщу Ему! К тому же, Он любит вовсе не тебя, а свое творение, — Смерть замолчала, и я увидела, как скатилась слеза по ее впалой, смертельно бледной щеке.

Вдруг Ветер что-то зашептал в желтой, с кровавыми пятнами листве сада.

— Что же, не ПОРА ли ко мне приходит? — тихо спросила я Ветра.

— Да! Пора… Ты покидаешь этот мир, — прошептал Ветер. — Но я помню о тебе, ты любила мои страстные игры. А образ твой сохранят те, кто любил тебя на этой земле. Ведь ты была счастлива?

— Да! Да! Я только теперь это понимаю…

Смерть зловеще посмотрела на меня. Это длилось секунду. Но вдруг ненависть провалилась куда-то в глубину черных бездонных глаз, и они потеряли всякую выразительность — опустошились.

— Пора, — произнесла Она и грубо повлекла меня за собой в приоткрывшуюся само собой дверь.

Я охватила взглядом весь дом…

Силы иссякли, тело онемело.

Меня уже никто из этого мира не видит, меня — нет, потому что Смерть уносит меня, ослабевшую, в небытие.

— Прощай! — я шепчу этому миру. — Я ухожу в небытие…



## Алена Бондар

*Алена Барысаўна Бондар нарадзілася ў 1960 годзе ў г. Іўе. У 1977 годзе закончыла Іўеўскую сярэднюю школу, затым — Мінскі педагагічны інстытут імя А.М.Горкага. Працавала ў Іўеўскім СПТВ -197. Эмігрыравала ў Ізраіль.*

### Реквием

Лежат во рву Ревеки, Сары, Хоны,
Несостоявшиеся гении лежат.
И сосны, наклонив седые кроны,
Покой их вечный молча сторожат.

Они грешили, каялись, любили,
Детей рожали, строили дома,
А вот теперь лежат в одной могиле,
И матерью им стала тишина.

Их прах оплакивают молча камни,
Их души тенью бродят по земле.
Они стучатся ночью в мои ставни,
Я открываю им, я их зову к себе,

Я узнаю в них бабушку Нехаму,
И всю свою погибшую семью.
Я вечно им обязана за маму,
За то, что я живу, смеюсь, пою.

Они незаживающею раной
В моей душе остались навсегда,
И в этой жизни, призрачной и странной,
С их смерти счёт ведут мои года.

И по наследству передам я сыну,
Когда придётся в мир уйти иной,
Святую эту светлую могилу,
И память их, их души, их покой.

### Молитва

Господи, дай терпения,
Терпения хоть немного.
Дни преврати в мгновения
И сократи дороги.

Дай мне благоразумия,
Господи! Не отвернись!
И отведи от безумия,
И сам за меня помолись.

Дай мне, о Боже, мудрости
Вынести одиночество.
Не дай мне наделать глупостей
И ниспошли пророчество.

Прости, Боже, душу грешную
Просто, без покаяния.
Вдохни в неё силу свежую
И огради от страдания.

Сложу к твоим стопам праведным
Гордыню и жажду мщения.
Направь меня на путь правильный,
Пошли мне, Господь, прощения.

****

Нагрешила я с три короба,
Заплатила я втридорога
За забавы свои вешние,
Да за думушки за грешные.

Я запру грехи в коробушки,
Повяжу платком головушку.
Вскину короба на плеченьки,
Отнесу их к быстрой реченьке.

Брошу с берега высокого
В воды омута глубокого.
Пред тобой предстану чистая,
Как росиночка лучистая.

****

Поцелуешь, приголубишь —
Хорошо.
Отругаешь и прогонишь —
Ну и что.
Проклинать тебя не буду.
Боль уйму.
Навсегда тебя забуду
И уйду.

****

Я была весёлой и насмешливой,
Жизнь была прекрасна и светла.
А теперь я стала молчаливой,
И тоска улыбку унесла.

Я всегда любила без оглядки,
Отдаваясь чувству своему,
А любовь со мной играла в прятки,
Не могу понять я почему?

Может быть любовь меня забыла
И обходит дом, где я живу?
Может быть она мне не простила,
Что сама её я не зову.

Я не верю, что любовь, возможно,
Вдруг заставит сердце застучать
Радостно и счастливо-тревожно
И тоске придётся замолчать.

И она, тихонько скрипнув дверью,
Растворится в сумраке ночном,
А любовь шепнёт: ты только верь мне,
Не забуду больше я твой дом.

# Память

Это, наверное, очень не просто
Вернуться туда, где родился на свет,
Вновь боль и потери почувствовать остро
Сквозь толщу прожитых, промчавшихся лет.

И больно, и страшно вернуться в былое,
Но требует, плачет и молит душа...
А люди другие и время иное
Живут здесь, и жизнь их течёт не спеша.

И только кирпичные старые стены
Хранят в себе память прошедших времён,
Но тихо молчат, говорить не умеют,
Глядят на приезжих глазами окон.

Обидно и больно глядеть мне на лица
Седых, переживших войну стариков.
Ведь это их жизни прошедшей страница
И каждый прожить её снова готов.

И каждому кажется: выйдет навстречу,
Протянет к ним руки взволнованно мать...
Над городом тихо спускается вечер,
И сына никто не выходит встречать.

Года пролетели, промчались их вёсны,
И каждому в жизни дорога дана.
От прошлого их отделяют не вёрсты,
Их с прошлым навек разделила война.

У каждого жизнь, разделённая на две, на части,
На до и на после войны...
Глаза их светились и болью, и счастьем,
А память прибавила им седины.

# Разреши

Разреши мне тебя обласкать,
Твою душу целебным бальзамом
Залечить. Твоим воздухом стать,
Не горит ведь без воздуха пламя.

Я не буду тебя утешать,
Уговорами сладкими мучить,
Разреши мне с тобой помолчать,
Ведь молчать нам не может наскучить.

Разреши твоё сердце согреть
Мне в горячих и нежных ладонях,
Дай в глаза мне твои поглядеть,
Как в два озера тёмных, бездонных.

Разреши твою боль расплескать
На холодный песок под ногами.
Разреши твоим воздухом стать,
Ведь угаснет без воздуха пламя.

****

Отзвенело, отцвело моё лето.
Юность светлая моя, где ты, где ты?
Побелила сединой осень косы,
Осушила, унесла счастья росы.
И умолкли соловья песни-трели,
Колокольчики любви отзвенели.
Мне зима грозит суровой метелью,
Снегом, вьюгами, холодной постелью.
Не вернётся уж весна, не вернётся,
И на зорьке о любви не споётся.

****

Делятся люди на умных и на глупцов.
Ещё на порядочных делятся и на подлецов.
Бывают грустные люди, бывают весёлые,
Бывают неграмотные и бывают учёные.
Есть тучные люди и есть худые,
Есть люди старые и молодые.
Одним Бог роста не дал, другие — высокие,
Одни очень близкие нам, другие — далёкие.
Бывают влюблённые и бывают несчастные,
Добрые, злые, святые — удивительно разные.
И только одно я понять никогда не сумею:
Зачем делить людей на евреев и не евреев?

****

Разве можно обвинять леса и реки
В том, что люди не умеют жить?
Человек стреляет в человека
И пытается над ним свой суд вершить.
Разве так придумано природой,
Чтобы люди жили как враги?
Чтоб народ глумился над народом
И друг другу не подал руки?
Разве мало в жизни было муки,
Войн, разрухи, голода, беды?
Чем отмоет убивавший руки?
В мире нет ещё такой воды.
Даже солнце, и оно не в силах
Иссушить потоки слёз горячих,
Воскресить оставшихся в могилах,
Блеск зажечь в глазах, от бед незрячих.

****

У храма святого зажёг свои свечи
В зелёной сутане красавец каштан.
И тополь-старик свои мощные плечи
Расправил, как будто моложе он стал.
Бледно-лиловые кисти сирени
Раскрылись навстречу лазоревой дали,
И облака белого лёгкие тени
На небе подобны прозрачной вуали.
Гордые клёны в зелёных папахах
На изумрудном ковре отдыхают.
И в розово-белых кисейных нарядах
Красавицы яблони томно вздыхают.
Младшие братья дневного светила
В траве золотистыми шапками блещут.
И в душах царица-весна пробудила
Надежды и чувства. И сердце трепещет.

****

Отшумело лето красное,
Закатилось солнце ясное.
Отцвели цветы и травушки,
Листья сбросили дубравушки.
Песня дождика печальная,
Словно музыка прощальная.
Осень, буйная головушка,
Остудила в жилах кровушку.
Наступили долги ноченьки,
Проливают слёзы оченьки.



# Анатоль Гарачоў

*Анатоль Генадзьевіч Гарачоў нарадзіўся ў вёсцы Куправічы Іўеўскага раёна ў 1964 годзе. Закончыў Даўнарскую СШ, курсы вадзіцеляў-электрыкаў. Пасля службы ў арміі працаваў электрыкам у калгасе "Іскра" Іўеўскага раёна.*

*Гумар і сатыра – даўнія і надзейныя таварышы Анатоля. Але на гэтым не замыкаецца круг захапленняў і інтарэсаў маладога чалавека. Анатоль любіць музыку. Нядрэнна грае на гармоніку, гітары. Але большую частку вольнага часу ён аддае вершам. Большасць з іх прысвечана тэме вёскі, яе людзям, праблемам. Друкаваўся ў раённай газеце "Іўеўскі край", часопісе "Вожык".*

## Трактарыст

Пыркін Вова
Трактар новы
Атрымаў, як мае быць.
Але сёння бедны Вова
Пачынае воўкам выць:
"Вось папаўся, дык папаўся,
Што ж рабіць я буду з ім?
Запусціць усяк стараўся,
Ды не запусціў зусім.
І акумулятар новы,
Ды і старцер неблагі...".
У суседа просіць Вова:
"Працягні са два кругі,
Мо, з буксіру завядзецца,
Угаворым, мо, яго?..."
Ды нічога не ўдаецца
Нават пасля трох кругоў.
"Ну якая ж тут халера?"—
Вова з гора дзверцай бразь,
І пайшоў да інжынера:
Можа той параду дасць.
Інжынер нахмурыў бровы:
"Новы трактар, як жа так?
А скажы мне, браце Вова,
Ты салярку ліў у бак?".
Стала сорамна Валодзю,
Хоць хавайся ў кусты.
Заспяшаўся, адыходзіць:
Непаладка – бак пусты.

# Лясныя гаспадары

На бульбянішчы
І на льнянішчы,
Дзе ні глянь ты, куды ні зірні –
Жыхары балот
І лясны народ
Там пасуцца ў гэтыя дні.
Тут і птушачкі-шчабятушачкі,
Тут якія ты хочаш звяры
І красуюцца,
І ласуюцца,
Бо няма корму ў лесе-бары,
А на полі тым
Хопіць корму ім,
Застанецца яшчэ пра запас.
І цяпер яны
Да вясны-красны
Яшчэ прыйдуць сюды не раз.
Усе здзіўляюцца,
Што валяецца
Зерне, бульбачка, буракі...
Не маўчу – крычу
І спытаць хачу:
“Ад чыёй гэта лёгкай рукі?”.

# Як паехаў мой міленькі

Як паехаў мой міленькі
Летась на “шабашку”,
Цалаваў ён сына Сеньку
І дачку Наташку.
— Ты не плач, мая Ганулья, —
Гаварыў мне Гоша, —
Прывязу табе адтуль я
Вельмі многа грошай.
Буду пісьма вам пісаць,
Пасылаць паштоўкі,
А на свята прысылаць
Буду вам абноўкі.
Я тых грошай не прап’ю
І не прагуляю,
А вярнуся – дык куплю
Усё, што пажадаю.
Як паехаў мой міленькі
Летась на “шабашку”...
Дык забыў і сына Сеньку,
І дачку Наташку...
Год мне пісем ён не слаў,
Я па ім бядую..
Ну, а потым напісаў,
Што знайшоў другую...
Я хачу, жанкі, сказаць:
Ні ў цяпло, ні ў сцюжу...
Не. Не трэба адпускаць
На “шабашку” мужа.

## Скарачэнне штатаў

Зазвінеў авадзень:
— Справядлівасць, праўда дзе?
Вы звальняеце за тое,
Што жыву чужой крывёю?
Але ж кожны з вас вось так
Харчавацца быў мастак...

Ды ніхто яго не слухаў:
Ні камар, сляпень, ні муха.
Бо загад жа ёсць загад...
Радаваўся ад таго,
Што не звольнілі яго.

## Цяжкі мех улады

Мо й не лепшым часам:
Якраз з зімы
Старшыню калгаса
Выбіралі мы.
Ранняю вясною..
Верце вы ці не,
Але старшынёю
Выбралі мяне.
Людзі віншавалі,
Зычылі дабра:
(Добра, што абралі,
Бо даўно пара).
Муж быў вельмі рады,
Ледзьве не скакаў.
Прынесла турботы
Гэтая вясна.
І ў мяне работы
З ранку да цямна.
Там і тут – усюды
Трэба мне паспець...
Цярпеў-цярпеў любы,
Ды не стаў цярпець.
Я прыйду галодная, —
Кажа мой Змітрок:
Прывітанне, родная,
Трасца табе ў бок. —
— Любы ты мой Міценька...
Што тут гаварыць...
Ды такое жыцейка
Лепш няхай згарыць!

* * * *

Не хачу я ўлады
Цяжкага мяха,
А каб муж быў рады
І мяне кахаў.

# Адпомсціў

(Гумарэска)

Сусед Міцька вельмі моцна мяне пакрыўдзіў. А адбылося вось што. Механізатары, занятыя на рамонце тэхнікі, збіраліся ехаць на абед. Я ж рашыў застацца. Хацелася давесці трактар да ладу. Вось і папрасіў Міцьку: — Слухай, сусед. Я тут папрацаваць крыху хачу, а ты кінь, калі ласка, сена маёй карове. Міцька згадзіўся. А я заняўся работай. Нават не заўважыў як абедзенны перапынак скончыўся. Раптам нехта мяне турзануў. Падняў галаву, бачу — Міцька ўжо тут.

— Ну як, — пытаю, — даў сена карове?

А ён загадкава так адказвае:

— Няма ў цябе каровы...

Я ажно падскочыў:

— Як гэта няма?! З раніцы ж была...

— З раніцы была, а цяпер няма. Здохла твая карова...

Я ледзь не згубіў прытомнасць. Забыўшы пра работу, пабег дамоў. Зайшоў у хлеў... Карова мая, як ні ў чым не бывала, ела сена, якое Міцька нядаўна ёй укінуў.

Вельмі я пакрыўдзіўся на Міцьку. Перастаў з ім вітацца і размаўляць, а сам усё думаў: як жа падманшчыку адпомсціць?

Аднойчы наш магазін зачынілі на рэвізію. Для курыльшчыкаў наступіла нялёгкая часіна. Прыходжу раніцай у майстэрню, а там заядлыя курыльшчыкі сядзяць, у тым ліку і Міцька, і маленькі акурачак з рук у рукі перадаюць. А ў мяне ажно дзве паўнюткія пачкі “Прымы”: жонка ўчора з райцэнтра прывезла. Ну, вядома ж, я ўсіх частаваць пачаў. А Міцьку не даў...

У той дзень я быў героем дня. Усе ў майстэрні, нават механік, прасілі ў мяне закурыць. Падыходзіў некалькі разоў і Міцька, але я адварочваў галаву ў бок, нібыта і не чуў ягонай просьбы. Міцька адыходзіў, апусціўшы нос, а я толькі пасміхаўся пра сябе, як-ніяк, ды адпомсціў.

А праз пару тыдняў, якраз у нядзелю, выйшла наступнае. Заходзіць да мяне Міцька, ветліва вітаецца і ставіць на стол... пляшку гарэлкі.

— Ну што, Мікола, прапусцім па маленькай?

— Не буду я з табой піць, — злосна адказаў я.

— Эх, дзівак. Ты напэўна не здагадваешся, за што я табе стаўлю?

— Як гэта не здагадваюся? Мірыцца прыйшоў, — прамармытаў я ў адказ.

Міцька зарагатаў:

— Не, суседзе, не. Памятаеш, ты мне курыць не даў?

— Ну, памятаю... Як жа не памятаць...

— Дык вось слухай. Я курыць кінуў. І кінуў курыць, дзякуючы табе, разумееш? Ну, як тут не радавацца такому шчасцю!

Шчыра кажучы, я зусім не радаваўся.



# Васіль Гарбач

*Васіль Паўлавіч Гарбач нарадзіўся 2 студзеня 1948 года ў в. Нягрымава Навагрудскага раёна, у сям'і калгаснікаў. У 1963 годзе закончыў 8 класаў Нягрымаўскай васьмігадовай школы і паступіў у Навагрудскае СПТВ-26. Затым праца ў сельгастэхніцы, служба ў арміі, работа у Смаргонскай раённай газеце "Светлый путь". У 1975 годзе закончыў Гродзенскі педінстытут. Затым – работа ў камсамольскіх і партыйных органах, органах унутраных спраў. Пасля выхаду на пенсію за выслугу гадоў у 1995 годзе да 2003 года працаваў у раённай газеце "Іўеўскі край".*

*Пісаць пачаў яшчэ ў гады службы ў арміі. Яго гумарэскі, гумарыстычныя замалёўкі, апавяданні друкаваліся ў рэспубліканскіх, абласных, раённых сродках інфармацыі.*

*Памёр у 2004 годзе.*

## Вопрос на засыпку

*(юмореска)*

В спортивно-техническом клубе очередная группа сдавала экзамены по правилам дорожного движения. Слушатели курсов один за другим бойко и в основном правильно отвечали на вопросы экзаменационных билетов. Председатель комиссии майор милиции Рубцов был доволен: завтрашние шофёры-профессионалы и любители подготовлены хорошо.

Двадцатым в класс зашел здоровый парень Степан Дорошка с покрасневшим кончиком носа. На удивление комиссии, он начал отвечать неуверенно, путался, тянул, как говорят учителя в школе, на слабенькую троечку.

Чтобы окончательно увериться в багаже знаний экзаменуемого, майор Рубцов решил подбросить Степану спасательный круг и, задумавшись, начал подбирать нужный вопрос.

Пока он над ним думал, второй член комиссии, который, наверное, имел запас юмора, рискнул козырнуть своим красноречием и эрудированностью.

— Скажите, товарищ Дорошка, — начал он, — каким основным пищевым продуктом торгует с нашей страной Бразилия?

Степан недоуменно пожал плечами.

— Значит, ты газет не читаешь, не расширяешь диапазон своих знаний, — вставил свое «я» третий член комиссии.

Потом он задал Степану наводящий вопрос:

— Ну скажи, что ты пьешь утром?

— Огуречный и капустный рассол, — облизал сухие губы Дорошка. — Когда голова трещит, хоть ты одевай на нее железный обруч, то это самое лучшее средство.

— Все ясно, — нахмурил брови председатель комиссии. — Нам с вами придется встретиться в другой раз. А Бразилия с нами торгует растворимым кофе. Это надо знать, — и показал рукой на дверь.

## Девушка с косой

*(маленький рассказ)*

В районном Доме культуры громко играла музыка, кружились пары. Радости, веселью, кажется, тесно было в просторном зале. Девушки – залюбуешься. Блондинки и брюнетки в перерыве между танцами теснились в углу зала. Неожиданно в зал, стуча каблуками, вошла синеглазая молоденькая

девушка. Через плечо, до самого пояса у нее свисала толстая пшеничная коса. Она стала возле стены, озорным взглядом посмотрела на присутствующих.

На половине ребят оживление. Несколько кавалеров срываются с места. Повезло Юзику, который имел длинные ноги. Девушки, шепчась, не скрывая зависти, любуются подружкой, ее пшеничной косой. Где-то в душе у них появляется щемящая жалость. Когда-то и у них всех также были длинные, как канат, косы.

О них осталось только вспоминать. Погоня за модой укоротила их прически чуть ли не до «ежика».

А Коса не имела в этот вечер отбоя от ребят. Они чуть не выстраивались в очередь, чтобы пригласить ее на танец.

# Ход канём

*(гумарэска)*

Вось і абласная база “Сельгастэхніка”. Выкочваюся з кабіны і куляй лячу ў кабінет загадчыка. Насустрач сунуцца такія ж, як і я, забеспячэнцы. Гляджу на іх і, быццам, чытаю на сумных тварах:”Куды прэш стрымгалоў? Запчасткі шыш палучыш”.

Мужчыны па чарзе заходзяць за дзерманцінавыя дзверы і, удвая хутчэй, нібы кіпеню хапіўшы, выскокваюць адтуль. Злосныя, размаўляць не хочуць.

Дайшла і да мяне чарга. Пераступіў парог і знiякавеў... Перад сталом загадчыка, амаль не на каленях, вымольвае тыя ж, што патрэбны і мне, запчасткі знаёмы выбівала дэфіцыту.

— Такіх у нас даўно няма, фонды выбраны, — не міргнуўшы вокам, даводзіць гаспадар базы. — Калі хочаш, бяры да “Кіраўца”.

— У нас яшчэ такой машыны няма, — і, прыбіты няўдачай, забеспячэнец вывальваецца з кабінета.

— Усё, — думаю сабе,— як стаялі карчом пяць маіх трактароў, так і будуць стаяць. — А вясна ў вокны заглядвае, праз дзень — два ў поле можна выходзіць.

Ад такой невясёлай думкі сэрца адрываецца, халадзее і, быццам, ляціць некуды ў бездань. Уявіў яшчэ ўдабавак злосны твар старшыні. І заяўка ў руцэ, што асінавы ліст, затрапятала. Эх, было ні было!

— Прывітанне вам, Лявон Спірыдонавіч, ад Івана Сафронавіча, — так спакойна кажу я і кладу заяўку на стол. — Сябар прасіў спытаць, чаму не звоніце яму, у госці, хоць сёння, запрашае.

— Дзякую! Ну, а як ён там маецца?

— Лепш жадаць не трэба. — Кватэру новую атрымаў, машыну “Жыгулі” агораў, пчолкамі абзавёўся. Восенню свежы мядок будзе.

— Шанцуе чалавеку... А я вось марнею ў гэтым кабінеце, ворагаў нажываю... Сябру паклон, браток, вязі, жонцы таксама...

І, людзі добрыя, цуд! — ён чыркнуў на паперцы “выдаць”. Неяк так весела глянуў на мяне, відаць, пагаварыць захацелася. Ашалелы ад шчасця, выхопліваю з рук заяўку і хутчэй за дзверы. Галоўнае, каб не скора адумаўся загадчык, не спытаў адрас выдуманага мной Івана Сафронавіча.

# Вяселле

*(апавяданне)*

У нас сёння вяселле. Гасцей сабралася поўная хата. Сваякі, суседзі, моладзь ледзь-ледзь умясціліся за сталамі. На відным месцы сядзіць мой сярэдні брат Юзік, а поруч з ім Жанна, яго нявеста. Я цікую за ёй употайкі, а ў вачах стаіць Зінка, дачка цёткі Ганны. І мне здаецца: гэта яна, а не Жанна выходзіць замуж за майго брата.

— Горка! — гукае на ўсю хату дзядзька Іван, стрыечны матчын брат.

— Горка! Маладым горка! — дружна падхопліваюць за сталамі.

Маладыя сарамліва падымаюцца і нехаця, асабліва Юзік, быццам адбываючы павіннасць, у каторы раз дэманструюць тое, што не раз, магчыма, рабілі ў далёкім украінскім гарадку, дзе Юзік служыў тэрміновую.

— І што ён знайшоў у гэтай Жанне? — у каторы раз губляюся я ў здагадках. — Мімоза нейкая, есці зварыць і то не ўмее. Толькі і ведае, што цалавацца. За два тыдні, што прабыла ў нас да вяселля, палена дроў у печ не прынесла. Не, яна не раўня Анюце – маёй першай братавай. Тая таксама гарадская, але любая работа ажно гарыць у яе руках. Увосень бульбу на матчыных сотках, лічы, адна выбрала. Косцік толькі паспяваў адвозіць на веласіпедзе да ямы. Далёка ёй да Зінкі. Нездарма ж партрэт Зіны быў нядаўна на першай старонцы ў раённай газеце: “Лепшая даярка, камсамолка!”.

— Вася, прынясі капусты, — гукае з кухні маці. Іду ў камору, але і тут не пакідаюць мяне ранейшыя думкі. Зноў перад вачыма стаіць Зінка. Дзе яна зараз, што робіць? Можа зашылася дзе-небудзь у куточку і плача. Можа сціснулася пякучым, нудным болем яе маладое сэрца.

Мне шкода яе, добрую, чулую. Нават капусту неахвота несці ў хату. Крыўдна за маці, якая зрабіла такое пышнае вяселле, і на Юзіка, які здрадзіў дзяўчыне.

...Я добра памятаю, як да службы ў арміі брат сябраваў з Зінкай. Пачалося ўсё гэта між імі недзе з восьмага класа. Летам мы перабраліся спаць на сенавал. Цяпер яго познія блуканкі за вёскай заставаліся для мамы менш вядомымі.

Восенню Юзіка прызвалі на службу ў армію. На провады сабралася многа моладзі. Была сярод іх і Зінка. Паводзіла яна ў той вечар сябе так, быццам паміж імі нічога і не існавала. Толькі ў вачах, я добра заўважыў, быў затоены тужлівы сум.

— Ты, братуха, тут паглядвай, — падвыпіўшы, павучаў мяне Юзік. — Калі што, сам ведаеш, напішы, я ўмомант прыеду.

Разбірацца яму так ні ў чым і не прыйшлося. Ніхто ў вёсцы не мог сказаць, што дзяўчына парушыла змову. Праўда, нашы і навакольных вёсак хлопцы спрабавалі не раз да яе заляцацца, толькі з гэтага ў іх нічога не атрымалася.

Зіма на другім годзе службы Юзіка была марозная, з завірухамі. Якраз у самыя ліхія сцюжы захварэла маці. Дома ж у нас, апроч мяне, нікога. Бацькі не стала, калі я быў яшчэ малым.

Аднаго разу на змярканні заходзіць у хату Зінка. Пераступіла парог і быццам прымерзла на месцы, запунцавела, нібы спелая вішня. З таго вечара часта карміла і даглядала нас, упраўлялася па гаспадарцы, пакуль маці не стала на ногі.

А восенню вярнуўся Юзік.

“Ну, хутка загудзе наша Альхоўка, — гаманілі жанкі, сартуючы ў гумне лён. — Аленін сын з Ганнінай дачкой заяву падаваць будуць. Дачакалася, нарэшце, свайго шчасця дзеўка”.

Так думалі і мы з мамай, нават тое-сёе рыхтаваць пачалі. Юзік, як вярнуўся, амаль штовечар абіваў парогі цёткі Ганны. Пасля стаў заходзіць да Зінкі радзей і затрымліваўся не так доўга, як гэта бывала раней. Дома лажыўся ў ложак, ляжаў ціха, нешта думаў, гледзячы ў столь. Ні я, ні мама тады не ведалі, што ў кішэні яго пінжака ляжалі пісьмы ад Жанны. На іх ён не даваў адказу. А на трэцім месяцы на наш адрас прыйшла тэлеграма: “Юзік, сустракай, еду без твайго дазволу. Жанна”.

І вось у нас вяселле. Яно, як снег у маі, звалілася на нашы галовы. Пажурыла мама жаніха і змірылася з гэтым. Нічога нельга было змяніць, так ужо выйшла. А выйшла не так, як планавалася і хацелася: Жанна рыхтавалася сама стаць маці.

Шуміць, бурліць людскім гоманам вяселле. Я сяджу за сталом і не зводжу вачэй з брата. Ён за апошнія дні змарнеў, зблажэў тварам. Сёння сам раз за разам п’е і ўсіх прымушае. Жанна сядзіць чырвоная, нервуецца і просіць Юзіка, каб не ўпіўся.

Песню зацягнулі за канцавым сталом. Яе дружна падхапілі і старэйшыя, і маладыя. Пачуўшы знаёмыя словы, Юзік устрапянуўся і адразу сцішыўся, нібы здранцвеў. Спявалі любімую Зініну песню. Калі аціхлі ў застольным гомане апошнія гукі, Юзік устаў:

— Вася, падыдзіце з мамаю, — папрасіў ён. Голас яго дрыжэў. Сват чамусьці паспешна напоўніў пустыя кілішкі. Мне здалося, што вось у гэтую хвіліну павінна нешта здарыцца, што Юзік надумаў выкінуць нейкую штуку. Ад думкі аж халадок прабег па спіне.

Юзік стаяў і маўчаў, кусаючы да крыві губы. У яго вочы закраўся небывалы сум. Потым абняў за плечы Жанну і лёгка прыціснуў да сябе.

— Будзьце шчаслівыя, дзеці, — працягнула ў іх бок руку з кілішкам маці, і слёзы градам сыпануліся па яе маршчыністым твары.

— Даруйце мне за ўсё, мама, — ціха толькі і змог адказаць Юзік.

— Горка! — грымнуў басам дзядзька Іван. Вяселле працягвалася.



# Міхаіл Грыбаў

*Міхаіл Міхайлавіч Грыбаў нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Чаркасы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння вясковай сямігодкі вучыўся ў Мінскім тэхнікуме сувязі. Вайна перарвала ўсе планы, і М.М.Грыбаў апынуўся ў нямецкім палоне, спазнаўшы горкі лёс остарбайтэра. Пасля вайны закончыў завочна Гродзенскі пэдінстытут, працаваў настаўнікам, інспектарам школ у Іўеўскім, Бераставіцкім раёнах. Друкаваўся ў часопісе "Маладосць", рэспубліканскіх, абласных і раённых газетах. У 1999 годзе Гродзенскае аб'яднанне "Ратуша" выдала зборнік апавяданняў М. Грыбава "Былое ў сучасным". У 2005 годзе прыватным выдавецтвам "Акадэмія" у г.Брэсце была выдадзена кніга "Запіскі остарбайтэра".*

*Памёр у 2007 годзе.*

## Песня хваль

*(верш у прозе)*

Пеністыя хвалі ўздымае лавінай раз'юшаны Нёман. Б'е ў высокі пясчаны бераг, размывае прыбярэжны лес. Падаюць векавыя хвоі ў ваду.

І пеняцца, і бурляць крутыя віры.

Хвалі стогнуць у тузе і бягуць за ветрам па рачным перакаце.

Слухаю песню рачных хваль, чую іх голас і напеў – то суровы, то таямнічы, то лагодны і блізкі сэрцу.

Хвалі стогнуць і плачуць.

Мне здаецца, што, нібы праз туман, усміхаюцца яе блакітныя вочы.

Кіпіць сэрца ў трывозе, пылае агнём.

...Ад чайкі разыходзяцца ціхія хвалі.

Я вяслую, любуюся русымі косамі, закінутымі за спіну, лашчу вачыма яе шыю і плечы. Яна адчувае мой погляд, адварочваецца.

- Замарыўся?

Мне свецяць агеньчыкі яе вачэй. Сяброўскай ласкаю, пяшчотнай любоўю глядзяць на мяне.

А хваля гуляе па рачным прасторы, бурліць і ўсхліпвае за кармой чайка.

Я слухаю гэту песню хваль, люблю яе ўсім сэрцам.

Слухай і ты, мая каханая, слухай!

Гэта і мой далёкі голас.

Гэта песня поўна і тваёй дзявочай пяшчоты.

Яна чаруе, як і ты.

У дзявочай прыгажосці заўсёды ёсць мана – даверышся ёй, яна аблытае.

Ды вабіць дзявочая нявіннасць.

Адведаеш плод яе кахання, паверыш, што шчаслівы з ёй – назаўтра мажаш праклясці яе.

Ты не адзіная, адзінай няма на Зямлі.

Але я назаву цябе жанчынай і атулю мужчынскай ласкаю. І ты мне паверыш, каханая, і ўсё мне аддасі без слоў: і прыгажосць сваю, і крылы, і вернасць, і любоў.

А хвалі стогнуць і плачуць...

# Васілёк

*(эсэ)*

Помню, першы раз убачыў гэту чароўную кветачку ў жыце, калі зусім яшчэ малы адважыўся выйсці за ваколіцу вёскі ў поле. Сінія. Як неба, пялёсткі, нібы вочы дзяўчынкі, заваражылі, загіпнатызавалі сваёй патаемнай сілай, дзіўнай энергіяй красы. Падалося, што гэта жывая істота, з якой можна паразмаўляць, спытаць, хто яна. Я нарваў букет, колькі змяшчала дзіцячая далонь, і нёс паказаць маме свой дарагі скарб...

Праз усё жыццё я пранёс успамін аб першым спатканні з сіняй зорачкай жытнёвага поля. І дагэтуль мяне чаруе колер дзіўнай сінявы, сакрэт цудадзейнай сілы.

Хто ён, гэты васілёк?

Гаспадар поля скажа: “Пустазелле. Ён псуе ўраджай”. У гады вайны я, вывезены ў Германію, працаваў у баўэра. Вясною хадзіў па жытнёвай руні і выкалупваў спецыяльным кіем з металічным наканечнікам вось гэтае “блаўблюме”. А ў вачах стаялі ўжо спелымі васількі майго дзяцінства. Я ў душы праклінаў немца, які прымусіў мяне нішчыць чароўную красу збожжавага палетка. Яшчэ раз прыходзіла думка аб лютасці і бязлітаснасці гэтых людзей.

Якія ж адносіны да гэтай кветкі ў людзей мастацтва?

Для паэта васілёк – сімвал зямной красы, якая дорыць асалоду шчасця, паэтычнага натхнення, узвышае палёт фантазіі. “І тчэ, забыўшыся, рука заміж персідскага ўзору цвяток радзімы васілька”. (М.Багдановіч). “Ах, васількі, васількі, многа сінее вас у полі” (народная песня) і г.д.

Дык дзе ж захавана магічная сіла ў гэтай маленькай цудоўнай кветачцы?

А сіла гэта, напэўна, у барацьбе за існаванне, у барацьбе за права жыць. Так, сапраўды, васілёк у ежу не ўжываецца. Ён – пустазелле, горкая трава. Але чалавеку для паўнацэннага ладу жыцця патрэбна яшчэ і духоўная сіла. Вось гэту духоўную асалоду і дорыць маленькая палявая кветачка селяніну сваёй цудоўнай сілай красы. Не падымуцца рукі знішчыць назаўсёды гэты магутны дар прыроды. Крапіва абараняе сябе пякучасцю, асот – калючкамі, лебяда – незвычайнай пладавітасцю. Адзіная зброя для самаабароны ў гэтай сіняй зорачкі – яе непаўторны блакіт, які выпраменьвае сілу самаабароны, абязбройвае чалавека, які паквапіцца на яе знішчэнне.

І вякамі жыве васілёк, ён не загінуў, ён выжыў. Дзяўчаткі і сёння плятуць з яго вяночкі, якія так пасуюць да русай галоўкі, і маладая красуня адчувае сябе ў гэтай кароне казачнай каралевай.

Васілёк – сімвал шчасця, сімвал дабрыні, сімвал мар і летуценняў. Ён – не пустазелле, ён скарбніца эстэтычнай асалоды, ён – натхненне для рамантыкаў, ён – цуд прыроды.

# Багатэлька

*(апавяданне)*

Я не магу ўтрымацца ад асалоды сустрэчы са сваім дзяцінствам: з мясцінамі, дзе нарадзіўся, пайшоў у жыццё, са сваякамі, блізкімі суседзямі, сябрамі. Калі прыязджаю ў родную вёску, спачатку бягу, зразумела, на могілкі, кланяюся бацьку, маці, затым спускаюся ўніз, да рэчкі, тут ёсць крынічка, з яе чэрпала халодную празрыстую ваду ўся вёска. Мы, дзеці, у летнюю гарачыню беглі сюды напіцца. Лажыліся жыватом на пачарнелы зруб, мачылі ў ваду лоб і нос і прагна глыталі гаючы элексір жыцця. Пасля падымаюся на абрыў, з якога ўзімку, паказваючы адзін аднаму сваю адвагу і смеласць, з’язджалі на самаробных лыжах, рызыкуючы зваліцца ў рэчку. Улетку абавязкова мушу пасядзець на беразе рачулкі ў тым месцы, дзе купаліся ў глыбокай яме, якую называлі вір. Адгэтуль адкрываўся цудоўны від на ўзгорак. Назву меў – Багатэлька. Кожны куточак роднай прыроды мне блізкі, дарагі, нібы жывая разумная істота, з якой можна ўспомніць былое, пасумаваць, заплакаць, нават пагаварыць. Багатэлька ж – гэта не толькі ўспамін, а першая школа пазнання ісціны, новы дзіўны свет, які прыйшлося адкрыць і пазнаць дзіцяці, і ад якога роздум застаўся на ўсё жыццё. Гэта ўніверсітэт майго дзяцінства, не збаюся такога параўнання.

Аднойчы паехалі з малодшым стрэчным братам па сена, я акінуў позіркам знаёмы ўзлесак, пытаюся:

– А што там цяпер на Багатэльцы?

– Якой Багатэльцы?

Зразумеў: памяць аб гэтай мясціне сыходзіць у нябыт, маладое пакаленне ўжо нічога не ведае пра цікавы і павучальны факт жыцця свайго краю.

Вёска мая стаіць на своеасаблівай геаграфічнай мяжы – адразу за рэчкай пачынаецца Мінскае Узвышша. Над сялом узнімаецца панарама жывапісных узгоркаў, адзін прыгажэй за другі. Калі красуе жыта, каласы ад ветру хвалямі то апускаюцца, то падымаюцца, і хмаркі, кідаючы цень, прабягаюць над нівай, тады я, ашаломлены незвычайным загадкавым відовішчам, бег да мацеры і пытаўся:

– Што гэта?

– Бог авечкі пасе, – тлумачыла.

Крыху вышэй, убаку, поле заставалася пустым, яго не засявалі, бо хадзіць па крутых схілах – нялёгкая справа і каню, і аратаму. Пагорак гэты ля лесу называлі – Лысая горка.

Пасля грамадзянскай вайны паводле дэкрэта 1917 года аб зямлі, малазямельныя сяляне атрымоўвалі дадатковыя дзесяціны з фонду экспрапрыяванай панскай зямлі. Забудоўваліся новыя хутарныя сядзібы. Але па-ранейшаму Лысая горка нікому не спатрэбілася. Гаспадар на яе знайшоўся ў 20-я гады ў перыяд НЭПа. Прыехаў з Мінска паважны высокі мужчына з дзіўным прозвішчам Варaславан, агледзеў нікім не занятае месца, звярнуў, напэўна, увагу на тую акалічнасць, што схіл пагорка скіраваны на поўдзень, да сонца, паўночны і ўсходнія бакі пакрыты старым яловым лесам. Ля падножжа – рэчка і густы алешнік. Прыродныя ўмовы самі стварылі тут зацішак, натуральны цёплы мікраклімат.

Незадоўга на пагорку з’явілася невялікая часовая забудова, закіпела работа. Вараславан на саматробным варштаце выгаблёўваў і звязваў рамы пад парнікі. Вясной схіл гары зазіхацеў ужо ўсімі колерамі вясёлкі ад сонечных промняў, што адбіваліся на парніковым шкле. Забабонныя на той час людзі маёй вёскі ўгледжвалі ў дзеяннях суседа ледзь не нейкую вядзьмарскую тайну. Але калі ў хуткім часе гаспадар пачаў адвозіць на сваім коніку ў Мінск цяжка гружаныя вазы ранніх духмяных агуркоў, цыбулі, кропу, морквы, калі з горада пачалі прыязджаць сюды купцы-нэпманы, калі завязаўся тут бойкі гандаль, – аднавяскоўцы мае кідалі ў бок хутара ўжо не вельмі прыязныя рэплікі:”Асьмінаю грошы мерыць”.

Шкляныя шыбіны парніковых рам ужо не свяцілі ў бок вёскі колерам вясёлкі, але зайздрасцю калолі вочы.

А хутар за рэчкай багацеў. Па межах яго набіралі рост высаджаныя руплівым гаспадаром вішні, слівы, чарэшні, між парнікоў пышна кусціліся агрэст, парэчкі, падрасталі яблыні і грушы. Запахла мёдам і воскам ад пчалінай пасекі. Сядзібу аперазаў высокі плот з яловых прутоў. І ўжо да 1930 года аб вяршыні заможнасці сведчыць дом на два канцы, з ганкам, маляванымі аканіцамі, чарапічнай страхой. Ахоўвалі ўсё гэта багацце два злосныя сабакі.

Вяскоўцы забыліся, што месца гэтае калісь называлася Лысай горкай. Пагорак атрымаў новую назву – Багатэлька. Хто першы прыдумаў – невядома, як і невядома, хто першы ўляпіў каму-небудзь дасціпную мянушку. Толькі Багатэльку ўжо ўсе ведалі і ў акрузе і, нават, у Мінску.

Не забываецца, як мы, малыя, падкрадаліся да плоту і праз шчыліны стараліся падгледзець загадкі і таямнічы для нас свет іншага, чым дома, жыцця.

Няцяжка здагадацца, што сталася з хутарам у 30-я гады. Гаспадара раскулачылі: сям’ю вывезлі, як у нас тады казалі, на Салаўкі, маёмасць часткова забралі ў калгас, адзенне, хатнія рэчы раздалі беднякам.

Маці мая на тое раскулачванне прыбегла апошняя. Прынесла дахаты шырокія драўляныя начоўкі, расколатыя папалам. Бацька палавінкі сцягнуў на чатыры клямры, падсмаліў дно, і мы шмат гадоў у іх мыліся. Начоўкі гэтыя мне не забываюцца. Чамусьці я сваім дзіцячым розумам інтуітыўна адчуваў, што маці зрабіла нешта нядобрае, і сама маці пазбягала гаворкі пра тое раскулачванне.

Багатэлька апусцела.

Як жа мясцовыя ўлады вырашылі скарыстаць прасторны дом, багаты сад і агарод? Зусім у духу таго часу: стварыць на былым кулацкім хутары дзіцячую камуну.

Прывезлі з Мінска дзяцей 6-15 год, сілюся ўспомніць, чалавек можа так пад трыццаць, у асноўным яўрэйскай нацыянальнасці, можа і гэтулькі сабралі па вёсках. Прывяла сюды за руку і мяне мая маці. Што мне запомнілася?

Як гарадскія дзеці кінуліся трасці яблыкі і грушы, ламалі галлё. Уся зямля была закідана агрызкамі, надкусанымі яблыкамі і грушамі. Маці мая бачыла ўсё гэта, абуралася: “Як з галоднага краю вырваліся. Паглумілі колькі!”

А хутка ўсе мы былі ўжо ў пакоі, прыстасаваным пад сталоўку. Дзеці сядзелі на лаўках за доўгімі самаробнымі сталамі з ножкамі ў выглядзе літары Х.

Бацькі і старэйшыя стоўпіліся ў парозе, уважліва сачылі, што будзе далей. І тут перад намі пачалі выступаць адзін за адным з бясконцымі прамовамі дзядзькі ў гарадскім адзенні. Я нічога не разумеў, што нам гавораць, адно толькі ўцяміў, што мы – юныя камунары. Затым спявалі песні. Словы і цяпер помню, бо і пасля гэту песню чуў. Спачатку запявала задаваў тон:

Солнце встает из-за темного леса,
Родные поля освещает луна...
І ўсе мы падхоплівалі прыпеў:
Грянем "ура", лихие коммунары,
За новые колхозы, машины, трактора!

Было весела. Словы прыпеву я адразу запомніў, і на ўсё горла роў: "грянем ура". Не мог толькі зразумець, хто гэта такія – "лихие коммунары"? Чаму – "лихие"?

Абед, аднак, аказаўся цікавейшым, чым усе гэтыя прамовы і, нават, песня з "лихими коммунарами". Я апетытна вымалаціў цэлы чарпак баршчу, а за ім порцыю тлустай ячнай кашы, упершыню ў жыцці адкрыўшы для сябе, што абед бывае з двух страў – падаюць на першае і на другое. Найвялікшым жа панствам і гонарам для мяне было тое, што еў я сам – адзін! – са сваёй міскі, а не чэрпаў з агульнай. Паглядаў украдкам на маці, як яна там, стоячы ля парога, рэагуе на маё шчасце...

Чорныя хмары пачалі навісаць над нашай камунай пад вечар, калі разышліся і раз'ехаліся бацькі. Спачатку аднекуль пачулася румзанне, за ім плач, нарэшце ледзь не ўсе нядаўнія актыўныя спевакі справілі такі гармідар, такое масавае плаканне, што нашы шкрабы не ведалі, дзе падзецца.

Слова "шкрабы" я не выдумаў. Так называлі тады настаўнікаў. Школьныя работнікі, а скарочана – дык шкрабы, бо слова педагог, настаўнік, выкладчык, дырэктар – атрыбуты царскай школы, капіталістычнага, эксплуататарскага грамадства. Вось і пусцілі яшчэ тыя самыя першыя нашы "словатворцы" ў шырокі абыход новае слоўца.

Спаць нас паклалі ў другой палове хаты. На падлозе ляжалі сяннікі, накрыцца кожны ўзяў з дому дзяружку, а ў гарадскіх  дык былі нават фабрычныя коўдры.

Аднак заснуць было няпроста. Маленькі яўрэйскі хлопчык непадалёк ад мяне так расплакаўся, што не маглі яго нічым суцешыць. І цяпер яшчэ, больш як праз паўвека, стаіць у мяне ў вушах яго распачлівы і бездапаможны, поўны страху плач-енк:

-Уй, таці, мамі! Уй, таці, мамі!

Назаўтра заплакаў і я. Зрабілася млосна, ахапіў жаль, невыносна захацелася дадому. Выглядаў, як тут латвей і лепей уцячы. Але, на шчасце, прыйшла маці, прадчувала, відаць, яе мацярынскае сэрца, яе мне тут самотна. Як убачыў я, так ад спадніцы і не адарваўся.

Камуна не пратрымалася і месяца. Чаму? Зразумела, сёння ўжо няцяжка адказаць на гэта пытанне. Таму не пратрымалася, што бяздумна і паспешна яе арганізоўвалі, што не мела яна ні адпаведнай педагагічнай праграмы, ні, калі на тое пайшло, і адпаведнай матэрыяльнай базы, хоць і былі ў "лихих коммунаров" і былая кулацкая хата, і сад з агародам.

Каб стварыць дзіцячую камуну на апусцелым хутары, трэба было спачатку сто разоў узважыць і падлічыць, колькі ўсё гэта будзе каштаваць, і, галоўнае, дзе тыя грошы ўзяць. А тут рабілася ўсё наскокам, толькі на "ліхім" энтузіязме, на голай ідэі.

Багатэлька зноў засталася без гаспадара. Людзі з навакольных вёсак паступова расцягвалі ўсё: каму спатрэбілася чарапіца са страхі, каму – вокны і дзверы, каму – плашкі са сцен. Сад яшчэ некаторы час прадаўжаў жыць. Помню, лазілі мы, дзетвара, на высокія старыя дрэвы, трэслі салодкія маліна́ўкі і вінёўкі. З гадамі ўсё знікла.

Цяпер, калі прыязджаю я дахаты, не магу не прайсці па-над рэчкай, каб хоць здалёк глянуць на Багатэльку, гэты сумны сімвал неразумнага рашэння нашай аграрнай праблемы, ды і сялянскага пытання ўвогуле. Нават і слядоў не засталося ўжо ад былой добрай сядзібы. Зарасло ўсё ялінамі, праўда, "лысіна" ўсё ж засталася. Балота ўнізе ля падножжа Лысай горкі асушылі, высахла разам і рэчка, ледзь бруіцца ціхі струменьчык. Алешнік выкарчавалі, на яго месцысухі груд.

Мала хто ўжо і ведае, што месца гэта калісь называлі Багатэлькай – ад слова – "багаты"...

Мілая і блізкая майму сэрцу Багатэлька! Ты нарадзілася на пустой Лысай горцы, тут і памерла. Не ўваскрэсла, як казачная птушка Фенікс. Цябе загубілі чалавечая зайздрасць, недалёкі розум, лянівае нежаданне прагназаваць будучыню.

Твой вобраз у маёй памяці ўвасабляе і гімн чалавеку-стваральніку і хаўтурную песню наступнікам Герастрата.

# Вера Гулідава



*Вера Віктараўна Гулідава нарадзілася ў вёсцы Барава Іўеўскага раёна ў сям'і сельскіх інтэлігентаў. Маці – настаўніца, бацька – настаўнік, стваральнік і кіраўнік Бараўскага народнага хору, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.*

*Скончыла Бараўскую сярэднюю школу і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.*

*З 18 гадоў працуе ў раённай газеце: карэктар, карэспандэнт, рэдактар раённага радыё, загадчык аддзела.*

*Неаднаразова станавілася пераможцай творчых журналісцкіх конкурсаў розных узроўнеў.*

*Па выніках творчай работы за 2010 год стала лаурэатам прэміі аблвыканкама імя А. Дубко ў намінацыі "Журналіст года". Друкуецца на працягу творчай дзейнасці ў перыядычных выданнях вобласці, краіны, на старонках газеты "Саюз: Беларусь – Расія".*

## Сказ о матери, или Еще раз про любовь...

Анна умирала. Она чувствовала и понимала это и поэтому, лежа на широкой деревянной кровати молча и терпеливо переносила боль, не обращая внимания на собравшихся соседок. Да, наверное, надо было бы хоть что-то сказать им, убрать немой вопрос из сострадательных глаз, но она не могла позволить себе этого: она берегла силы для главного. Все ее существо желало и ждало одного: приезда сыновей, ее мальчиков.

Лучи заходящего солнца проскользнули сквозь оконные стекла и осветили большую комнату деревенской избы: угол с иконами, покрытыми вышитыми ею рушниками, большой стол и деревянную скамью со спинкой, старый комод, большой запыленный фикус в кадке. Затем, потихоньку осваивая дом, они переместились к кровати и , словно найдя то, что искали, заискрились на волосах цвета начищенной меди, высветили зеленые глаза, которые на первый взгляд казались тоже медными... И вот уже солнце осветило всю ее.

— Ишь! Словно засияла Рыжая-то наша, — шепотом констатировала одна из соседок.

— Золотая! — дрожащим голосом поддержала ее другая.

Рыжая... Этого цвета в семье родителей Анны было в избытке. Но если братья и сестры были хоть капельку разбавлены иной краской, то Анну природа раскрашивала исключительно желто-медным колером. Веснушки сливались в рыжие пятна, а зеленые глаза были словно посыпаны золотинками. Это были удивительные золотисто-зеленые озера, да никто не видел их за рыжими шторками ресниц. Поражали и волосы: огненные, густые. Их то она и считала основной причиной всех своих несчастий. Как ни прятала, до глаз повязываясь платком, все ж непокорные огненные пряди выбивались наружу.

Только мать звала ее Анюткой, вся деревня — Рыжей. Девки-подруги заводили ухажеров, выходили замуж. Опустел и родительский дом. А к Анне сватов не засылали.

Она смирилась со своей некрасивостью, нескладностью. Маленькая светлая полоска в ее жизни была очень непродолжительной.

Было начало марта. Были синие, щемящие душу сумерки. Еще не совсем весна, еще не видно птиц, но в воздухе уже слышался их полет. Высоко-высоко, далеко целыми тучами летели на родину скворцы, жаворонки, ласточки, аисты. Она чувствовала это, ждала.

Она набирала воду в ведра, когда раздалось вдруг фырканье лошади, скрип колес, на пологом берегу появился водовоз из ближнего леса. Там уже второй год стояла часть красноармейцев. Из Немана возили воду. Анна заспешила, вешая ведра на коромысло: «Опять этот озорник начнет подсолнухом называть и смеяться.»

— Не убегай. Ну погоди! — он снял коромысло с плеч Анны. — Не со зла я тебя задеваю. От страха. Больно серьезная ты. Как зовут-то тебя?

— Анна.

— Анюта. Приходи к нам в клуб в воскресенье. Кино привезут. Ваши деревенские приходят.

— Придешь?

Она смутилась и только что смогла — кивнуть головой.

Была удивительная весна. Короткие встречи у реки. И каждое воскресенье кино в армейском клубе. Он провожал ее до самого дома. Строгий отец было ругаться стал, да увидев, как разневестилась и похорошела дочь, замолчал. А мать принесла с рынка первые в жизни Анюты наряды: белую, фабричную, а не грубого домашнего полотна, блузку и голубые ленты, которыми она повязывала свои огненные волосы. И вдруг пропала куда-то рыжая нескладеха.

Притаившаяся и ждавшая своего часа любовь сделала свое великое дело, ибо нет некрасивых женщин, если они любимы.

Несколько месяцев счастья, ожидание июля. Именно тогда ее суженый должен быть демобилизоваться, именно в июле собирались сыграть свадьбу. А пока... Пока она жила ожиданием каждого воскресенья. Одно из них — воскресенье 22 июня 1941 года было последним днем ее любви. Ночью от небольшого леса, где размещалась воинская часть, бомбардировщики фашистов не оставили живого места. Среди живых ее Петеньки не оказалось...

Когда закончилась война, ей уже было 27 лет... И когда посватался к Анне намного старше ее, израненный и искалеченный фронтовик, вдовец с двумя детьми, мать, отведя глаза в сторону, сказала:

— Выходи замуж, Анютка, девичьего села нет. Мы старые. Да и ждать тебе нечего и некого... Прости, дочка.

Муж ее не обижал, но и не любил. Все чаще и чаще, захватив чекушку самогона, он с трудом передвигаясь с помощью костыля, уходил на кладбище, чтобы поплакать на могиле бывшей жены. Не любили Анну и мальчишки: 10-ти и 11-ти лет. Их нелюбовь была детской.

А она особо ранит. Чтобы высказать ее, мальчишки изощрялись во вредности: сыпали полынь в горшок с варевом, песок в корыто, где она стирала... Анна молчала, терпела. А вечером, когда дом засыпал, спускалась к Неману, к мостку у брода. И там плакала: горько, навзрыд, обещая сама себе уйти, куда глаза глядят. А когда возвращалась домой и видела спящих ребят, их больного, стонущего во сне отца, понимала, что идти некуда и не от кого. Пропадут детишки. Да и родители ее умерли. Очень скоро физические и душевные раны свели в могилу и ее мужа.

Все свои невостребованные лучшие чувства — любовь, доброту, жалость — перенесла она на мальчишек. Час за часом, день за днем отвоевывала она их у памяти о матери, о голоде и войне. Они пошли учиться, и она, закончившая только начальную школу, сидела рядом, когда они делали домашние задания. Помочь не могла, но контролировала все, ходила в школу. Было тяжело, но она старалась, работала, чтобы прокормить, одеть. И с постоянным упорством отказывалась от помощи, которую в те годы оказывала отдельным семьям школа.

Мальчишки учились хорошо. Она гордилась ими, вся светлела, когда на родительских собраниях выслушивала добрые слова. В уголке, за иконой хранила Анна перевязанные льняной нитью их похвальные грамоты.

Она боялась за них. Часами простаивала под окнами клуба, куда они, повзрослев, уходили на танцы, боясь, как бы не обидели их в драках, которые были нередкими на сельских вечеринках. И боялась, чтобы ребята не заметили ее. Они стали спокойными, послушными.

Но мамой Анну не называли. Она, кажется и не ждала этого. Для нее они были смыслом жизни, были сыновьями. И она была счастлива.

Перед выпускным вечером она из-под отвалившегося кирпичика печи вынула маленькую жестяную коробочку, открыла ее и развернула холщовую тряпицу. Там лежала небольшая золотая монета, которую перед смертью отдала ей мать. Рано утром Анна ушла в Новогрудок. Путь был нелегким — 15 километров. Вернулась ближе к вечеру: сияющая, довольная, с большим пакетом в руках. В нем были два самых дорогих по тем временам костюма, две пары туфель. Когда ребята вышли на сцену, чтобы получить свои золотые медали, весь зал ахнул. Анна сидела так, как сидят на троне, гордо взирая на свои владения. Ее сияющий взгляд как будто говорил: «Посмотрите на моих мальчиков! Самых красивых, самых умных, самых лучших!» Это была гордость творца за свое произведение. И вдруг она заплакала. Ребята вмиг оказались рядом, и один из них сказал: «Не плачь, мама, стыдно, смотрят все...» Он сам как будто испугался этого слова «мама», когда увидел, как вздрогнула Анна. Но старший брат (а учились они вместе) поддержал: «Возьми, мамочка, лучше медали наши. Спрячешь за свой кирпичик». И Анна тихо засмеялась.

... Она вернулась домой. Долго сидела за столом, разглядывая аттестаты. Потом поднялась, закрыла за собой дверь и пошла к Неману. Она сидела на мостке у брода. Сладко, до головокружения пахло запоздавшей с цветением черемухой. В волнах реки плыли звезды и луна. Анна завороженно смотрела в воду и вдруг, вечно молчавшая, заговорила. Она рассказывала своему Петеньке о том, как ей тяжело без него, о том, какие чудесные сыновья выросли у них. Два, как они и мечтали. И наговорившись с тишиной, счастливая и умиротворенная, ушла домой.

Мальчишки поступили вместе в военно-морское училище. Они писали ей письма. Она отвечала, как могла. И исправно собирала посылки: домашнюю колбасу, сало, сушеные яблоки, груши, боясь, что мальчики голодны.

Шли годы, а она все также приходила на почту, посылала посылки и, сияя, рассказывала о своих детях, невестках, внуках. Они приезжали в отпуска по очереди. И она хвасталась гостинцами, новым телевизором, смотреть который собирались все соседки. Она угощала их удивительно вкусной рыбой: «Вот эту Колюшка с Севера своего привез, а эту Павлик из Латвии». Она не уставала показывать фотографии, щедро делясь с соседками своим материнским счастьем. А те поддакивали: «Счастливая ты, Анюта».

Болезнь пришла нежданно: тяжелая, непобедимая. Но она не писала об этом Николаю и Павлу. И только, почувствовав свой последний час, попросила послать телеграмму.

... Старые часы пробили десять раз. И женщины с удивлением заметили, что бесстрастное лицо Анны вдруг изменилось, словно сняли с него какое-то напряжение. Она, слабо махнув рукой, подозвала их к себе. И, немало удивив, попросила посадить ее, причесать и повязать платок. Они вдруг вспомнили: в половине одиннадцатого приходит автобус из Новогрудка. И возможно, возможно... Дверь стремительно распахнулась, впустив в дом поток свежего, напоенного весной воздуха. Два высоких силуэта метнулись к кровати больной и, опустившись на колени, упали головами в ее руки.

— Сыночки! Мальчики мои! Приехали! — она гладила слабыми руками их лица, дотрагиваясь к золотым пуговицам офицерских шинелей...

А потом рассказывала, как боялась не успеть сказать им все, сказать, что она — счастливейшая из матерей, что она... Анна, неизвестно откуда взявшая силы, говорила о деньгах, которые из пенсии откладывала в свой тайник в печке, о корове Пеструхе, которую хорошо бы продать доброму человеку, о том, чтобы они не тратились ей на памятник. Мол, кузнец Емельян знатные железные кресты всего за поллитровку мастерит. И не косятся они, и дождь не размоет. А кошку Василису пускай с собой увезут. Хорошая кошка, мышей ловит, не ленивая, ласковая...

Через год на могиле Анны появился памятник, на который долго ходили смотреть сельчане. Мужчины, поглаживая блестящий черный камень, восхищенно говорили: «Мрамор!» Женщины рукавом утирали глаза, не сводя их с надписи: «Память от сыновей»...

## Сустрэўшы аднойчы

У жыцці чалавека шмат падзей, сустрэч, шмат ураджанняў. Усё гэта адлюстроўваецца дзесьці ў глыбіні чалавечай істоты, а аднойчы раптам нястрымна наплывуць успаміны, якія ў адначассе ці навядуць смутак, ці наадварот, настрой уздымуць.

Я – журналіст, таму ў такія хвіліны бяруся за пяро. І калі ўдасца тым часам выказаць, што на душы, то і сабе лягчэй робіцца, і мо ў кагосьці самыя патаемныя струны загучаць...

Сёння гэтыя расказы пра людзей, падобныя якім, пэўна, жывуць у кожнай вёсцы, разам з тым, якіх памятаеш заўжды, калі хоць аднойчы звядзе з імі лёс....

## Баравік

Меў рацыю той, хто даў прашчурам гэтага чалавека трапнае прозвішча – Баравік. Ён і сапраўды нагадваў вялікі, магутны грыб, ля якога не прайшоў бы ні адзін аматар ціхага палявання:моцнае тулава, шырэзныя плечы.

...Ён ішоў вясковай вуліцай, перавальваючыся з нагі на нагу, а жанкі, бяззлобна ўсміхаючыся, казалі ўслед: ”Вунь Баравік пайшоў уладкоўвацца.”.

Самае галоўнае,– любіў ён паўтараць,– уладкавацца, прыстасавацца ў гэтым жыцці. З маладу вырашыў жаніцца на доктарцы ці аптэкарцы. Маўляў, з гарэлкай ніякай праблемы не будзе, бо жонка казённы спірт прынясе. І жаніўся, прывёў у дом фармацэўта. Невядома, ці насіла яна той спірт, але з цягам часу жанчына і сапраўды пазнала смак гарэлкі. І замест прыстасавання ці ўладкавання, “цягнуў” Баравік усю гаспадарку на сабе, выхоўваў трох дачушак, выконваючы ролю і бацькі, і маці.

Быў ён чалавекам цікаўным, начытаным. Асаблівую асалоду дастаўлялі яму радыё- і тэлеперадачы, дзе трансліраваліся справаздачы аб з’ездах, пленумах. У такія дні на вуліцы бачна яго не было. Потым ён выходзіў важны, задуменны.

– Што робіцца, – казала бабка Адэля, – вінаград мой лісце скідвае!.

А Баравік рэзюміраваў:”Як капіталізм ва ўсім свеце ўступае дарогу сацыялізму, так і старое лісце вызваляе месца для маладога”.

– Ат, – адмахвалася старая і ішла прэч, не даючы яму пагаварыць, паразумнічаць.

Затое была “аўдыторыя”, якая ўважліва слухала кожнае слова вясковага філосафа. Гэта была дзетвара. Восеньскімі і зімовымі вечарамі хата Баравіка напаўнялася біткам хлапчукамі і дзяўчынкамі. З імі ён гаварыў не пра палітыку. Яны, бы ручайкі ў адну раку, збягаліся, каб паслухаць казкі і байкі Баравіка. Тое, што ён расказваў, нідзе ні прачытаць, ні пачуць было немагчыма. Якія словы, якая мова гучалі пад страхой той хаты!. А заканчваліся тыя вячоркі абавязковым конкурсам на лепшага чытача баек. Пераможцы Баравік уручаў прыз – вялікую лусту хлеба з кавалкам бела-ружовага сала і гурком. І здавалася, што нічога ў свеце няма смачнейшага.

Ён памятаў кожнае дзіця, кожнага пераможцу сваіх вячорак. І аднойчы, сустрэўшы ўжо дарослую жанчыну, выпускніцу ўніверсітэта, сказаў: ”Што з тваёй мовай у тым Мінску зрабілі? Ты ж размаўляць не ўмееш. А якая баечніца была!”.

З цягам часу ён застаўся адзін. Новае пакаленне дзетвары замест чароўных баравіковых вячорак прысела ля відыкаў, камп’ютэраў. А ён неяк згас, прыціх, а потым паехаў у горад, да дачкі. Вокны яго хаты яшчэ раз вечарам палыхнулі святлом тады, калі сабраліся вяскоўцы на трызну пасля пахавання. І кожны раптам адчуў: асірацела вёска без Баравіка, які “ўладкаваўся” ўжо назаўсёды...

Сярод жалобных гасцей моўчкі, не дакранаючыся да ежы, сядзела старая жанчына. У вёсцы толькі Баравік называў яе Шурачкай, астатнія ўсе – Цыліндрай...

## Цыліндра

...Ён быў такім прыгожым, вясёлым, незвычайным, што маладая бібліятэкарка закахалася адразу. А вяскоўцы называлі яе абранніка баламутам ды яшчэ пакручвалі пальцам ля скроняў. Шурачка ж бачыла яго сваімі вачыма і адчувала сэрцам, не зважаючы на плёткі. Яны пажаніліся. Малады муж ніяк не мог вызначыцца ў жыцці, знайсці працу па душы. Урэшце ўладкаваўся ў райцэнтры і ў вёску з’явіўся ў надта ж ужо гарадскім выглядзе: чорнае скуранoе паліто амаль закрывала хромавыя боты, а на галаве красаваўся сапраўдны цыліндр: чорны, бліскучы. Дзе ён дастаў, маладая жонка не пытала. У першыя пасляваенныя гады можна было купіць шмат чаго неверагоднага. Вёска ахнула, прыляпіўшы яму назаўжды мянушку – Цыліндр. А жонка, адпаведна, стала Цыліндрай.

Гэты галаўны ўбор стаў трагедыяй сям’і. Бо дзіўным, калі не сказаць, дзікунскім, быў не толькі галаўны ўбор, але і норавы таго часу. У 1953 годзе Цыліндра арыштавалі. Ён стаў “ворагам народа”, які не толькі шпіёніць на Амерыку, але і адкрыта прапагандуе капіталістычна-буржуазныя звычкі і прыхільнасці”.

Цыліндра засталася адна, носячы пад сэрцам свайго першынца. Прыезджая, чужая ў вёсцы, яна не імкнулася ні з кім зблізіцца. Толькі Баравік спыняў яе на вуліцы, каб паспачуваць, падтрымаць і паразмаўляць, бо яна ўмела слухаць, не адмахваючыся ад вясковага філосафа.

...Восенню 54-га вярнуўся Цыліндр. Моцнай радасці ад сустрэчы з жонкай і 4-гадовым сынам ён не выказаў, а потым, сказаўшы, што “жыццё ў дзярэўні не для яго”, з’ехаў. Цыліндра прамаўчала зноў. Яна доўга глядзела яму ўслед, гладзячы па галоўцы сына, які ўчапіўся за яе ногі.

... Хлапчук рос вельмі падобным на бацьку. Але яна любіла яго і не зважала на асобныя яго выхадкі. Толькі аднойчы, калі ён выцягнуў з куфэрка схаваны ёю цыліндр і надзеў на галаву, Цыліндра закрычала і кінула злашчасны капялюш у грубку, дзе трашчала ў агні бярозавае паленне...

Сын вельмі добра вучыўся, паступіў у ваеннае вучылішча. Ужо афіцэрам служыў на Далёкім Усходзе. Аднак гадоў праз колькі прыехаў да маці і сказаў, што са службай кончана. Маўляў, крыху адпачну і буду ўладкоўвацца на працу. Праз месяц ён ужо ажаніўся і з’ехаў жыць у Літву.

А аднойчы ў вёску завітала маладая жанчына з гадавалым хлопчыкам, якая ішла вуліцай і пытала, дзе жыве Аляксандра Паўлаўна. І ніхто не мог адказаць ёй, пакуль не прамовіла яна слова Цыліндра...

...Цыліндра разгублена глядзела на пасведчанне аб шлюбе свайго сына і нараджэнні свайго ўнука. Перад ёй сядзелі нявестка і ўнук, якіх сын пакінуў, і пра якіх яна нічога не ведала.

...Выгнаўшы золкім ранкам карову на пашу, яна вярнулася дамоў і прылегла крыху адпачыць. У суседнім пакоі, дзе спалі госці, пачуўся плач дзіцяці, які доўга не супакойваўся. Жанчына паднялася, і зайшла ў пакой. Дзіця было адно. На стале ляжалі яго дакументы і ...пачка грошай. Нявестка знікла...

Сын прыслаў адказ на ліст маці, дзе, указаўшы адрас былой жонкі, раіў падаць на яе ў суд. Цыліндра доўга плакала. Потым кінула пісьмо ў печку...

Хлопчык рос, знешне вельмі падобным і на дзеда, і на бацьку, які амаль не казаў вачэй.

А калі і прыязджаў, то бацькоўскіх пачуццяў не выказваў. Наадварот, папракаў маці, што не паслухалася некалі яго.

Праўда, Цыліндру радавала тое, што падабенства хлопчыка з тымі было толькі знешне. Не па гадах памяркоўны, дарослы, сур’ёзны, дзіцем ён быў толькі тады, калі прасіў адпусціць яго на байкі да Баравіка. Яна адказвала:”Ідзі. Баравік не толькі байкі бае. Ён душу выхоўвае”.

...Калі ўзнялася над Беларуссю злая зорка Чарнобыля, моцна забруджаная вёска адышла да тых гаротных населенных пунктаў, жыхары якіх мелі права на адсяленне. Унук Цыліндрын, які ў той час жыў і працаваў у Мінску, адразу ж забраў яе да сябе. Перш, чым сесць у машыну, яна акінула вокам аколіцу. У вачах яе адлюстроўваліся і боль развітання, і шчасце ад таго, што жыццё, як ні біла, як ні мучыла, а ўсё ж дало ёй хоць адно надзейнае мужчынскае плячо....

# Анфіса Дубянецкая



*Анфіса Рыгораўна Дубянецкая нарадзілася 10 красавіка 1952 года ў в. Бобравічы Іўеўскага раёна. Закончыла Бобравіцкую сярэднюю школу ў 1969 годзе, паступіла ў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча на аддзяленне дашкольнага выхавання. Завочна закончыла БДУ па спецыяльнасці беларуская мова і літаратура. Працяглы час працавала ў аддзеле адукацыі метадыстам па дашкольнаму выхаванню.*

*Вершы пачала друкаваць з 1983 года ў раённай газеце "Іўеўскі край".*

*Памерла ў 1996 годзе.*

## На больничном ложе

Здесь поют соловьи
О весне, о любви...
Здесь на райскую жизнь моя схожа.
Отчего же испуг?
Что вот стало так вдруг
Моим милым больничное ложе?

Ненавижу болезнь,
Как вонючую плесень,
Уверяю: в ней нету виновника,
Но мечта ещё есть:
Спеть свою чудо-песнь,
Изодрав грудь шипами терновника.

## Пальма

Пахілілася за поўнач — не заплюшчыць вочы...
Дождж гарохам б'ецца ў шыбіны вакна,
Вые вецер, мокры клён шапоча...
Стогне Пальма — аж гудзе сцяна.
Не дае спакою ўчарашні вечар,
Сын мой, плачучы, прыбег з падворка:
— Мама! Ў Пальмы ўкралі дзетак!
Што рабіць? — і плача-плача горка.
Выбегла я з дому, глянула і бачу:
Пальма мітусіцца, бедная дрыжыць,
Камяні з зямліцы выдзіраюць лапы,
То завые нема й замаўчыць,
Акружылі дзеці, у вачах іх — сполах:
— Вунь адтуль, — паказваюць, — прыйшлі...
Шыць ім шапкі трэба, во як!.. —
І з вачэй дзіцячых слёзы пацяклі.
— Пальма, Пальмачка, — паклікала ласкава.
Глянула мне ў вочы, позірк адвяла.
Ах, каб гэтую нядолю знала,
Я б шчанят схавала, не дала.
Стогне Пальма, стогн ляціць у нікуды.
Дождж гарохам б'ецца ў шыбіны вакна.
Забруяцца ўранні ціхія брады.
Стогне Пальма — аж гудзе сцяна...

## Пахнет ложью

Пахнет тревожно: пахнет ложью,
Грустью, осенью сырой
Будь со мною осторожен,
Если можешь, успокой.

Я нуждаюсь в утешеньи,
Не таи секрет, скажи,
Не напрасны ли сомненья?
Не живу ль во тьме и лжи?

Мне нужна не ложь, а правда —
Только в этом мой покой.
Я уйду, коль скажешь: «Надо»,
Всё равно уже изгой.

Дверь закрыть смогу так тихо,
Как открыл, входя, испуг...
Не дари мне лжи и лиха,
Поступи со мной, как друг..

## Как ты там?..

Серебрит берёзы иней по утрам,
Я бреду под небом синим...
Как ты там?..
Вспоминаю твои руки, взгляд огня...
Без тебя тоска и скука,
Не прожить и дня.
Ах, скорей бы вьюгу, холод мне испить —
Отрезвят и нам помогут всё забыть.

## Я любимой быть хотела

Осень... Ветер нервно дышит,
Злится, жёлтый лист гоня.
Хоть кричи, а он не слышит,
Что и я, как он, одна.

Что и я дышу неровно,
Что в душе моей озноб,
Ощущаю себя, словно
Лист, что ветер, злясь, метёт.

Почему не удержалась?
Дунул — с веточки слетела.
Поспешила к тебе — каюсь,
Я любимой быть хотела...

## Калитка

Это ненормально, это пытка —
Другом оставаться мне для всех.
Не могу — открой калитку,
Пусть мне вслед раздастся дикий смех.

Это ненормально, это пытка —
Взглядом провожать с окна...
Я прошу: открой калитку,
Оставаться не хочу одна.

Это ненормально, это пытка —
Видеть тебя рядом с ней...
Милый мой, открой калитку,
Мне направо, а тебе левей.

Это ненормально, это пытка —
Вспоминать весну и хмель...
Ты за мной закрой калитку,
Замолчи, моя свирель!

# Еўдакія Журавель



*Еўдакія Цітаўна Журавель нарадзілася 15 сакавіка 1940 года ў в. Макараўка Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. Пасля заканчэння школы ў 1958 годзе працавала піянерважатай Вялікасельскай, Капцёўскай сярэдніх школ ў Гродзенскай вобласці. Закончыла Гродзенскае культасветвучылішча ў 1964 годзе, працавала метадыстам Жалудоцкага ГДК Шчучынскага раёна, затым інспектарам аддзела культуры Іўеўскага райвыканкама. Вершы пісала ўсё жыццё. Друкавалася ў часопісе "Гаспадыня", раённай газеце "Іўеўскі край". На яе вершы напісаны песні для фальклорных калектываў раёна.*

*Памерла ў 2005 годзе.*

## Про бабушку

У меня есть бабушка
Старенькая очень.
Приглашаем в город,
А она не хочет.

Говорит, в деревне
Ей легко и просто,
И дома красивей
Маленького роста.

— Жить здесь интересно, —
Отвечает нам,
— Ведь живой будильник
Будит по утрам.

Поросёнок Васька
До чего ж хорош:
Толстенький, крикливый,
В город не возьмёшь.

А корова Лыска
Молочко даёт.
Ей в деревне лучше,
В город не пойдёт.

Если рано утром
По лесу пойдёшь,
То грибов корзинку
Мигом наберёшь.

Долго обсуждался
Трудный ведь вопрос,
Но недавно папа
Бабушку привёз.

Много с ней ходили
И пойдём опять.
Я ей обещала
Город показать.

## Вот так лужа

Мама мне купила
Новые сапожки,
Даже если дождик,
Не промочишь ножки.

Но, смотри, по лужам
Не ходи, Иришка,
Можешь поскользнуться,
Упадёшь, малышка.

Только мама скрылась
Там, за поворотом,
Я скорее к лужам,
Бегаю с охотой.

Неужели мамы
Знают наперёд,
Где и как их дочка
Улицей идёт.

Прихожу и сразу
Папе говорю:
Там такая лужа...
Думала, пройду.

Оказалось, — яма
Очень глубока
И на пол с сапожек
Полилась вода.

***

Я когда-то стихи писала,
Я когда-то имела друзей,
Я когда-то как все мечтала
О хорошей судьбе своей.

Я когда-то и песни пела,
И плясала не хуже других.
От себя иногда убегала,
От невзгод и проблем земных.

Я когда-то косить умела,
Я когда-то колола дрова,
Я за плугом ходила смело
И деревья сажала я.

Не боялась любой работы:
Нас к труду приучали сполна.
А теперь другие заботы,
По иному и жизнь пошла.

## Встреча

Скажи мне ласковое слово
И посмотри в мои глаза.
Случайно встретились мы снова,
А как кружится голова.

Скажи мне ласковое слово,
Согрей дыханием своим.
Как будто молоды мы снова
И ты не стал совсем чужим.

Скажи мне ласковое слово,
Я прошлым больше не живу.
Понять тебя пытаюсь снова,
Услышать голос твой хочу.

Скажи мне ласковое слово,
Налей себе бокал вина.
Пускай завидуют мне снова
Кого замучила тоска.

Поговори со мною, милый,
Найди красивые слова.
Возможно, ты такой счастливый,
Я двадцать лет уже вдова.

Скажи мне ласковое слово,
Присядь со мною у огня.
Я буду жить надеждой снова
Что кто-то любит и меня.

## О, Неман мой

Люблю луну, ночное небо
И тихий, нежный ветра стон,
Поля, засеянные хлебом,
А за горой цветущий лён.

Люблю луга и запах сена,
Садов бушующих метель.
Люблю и осень непременно,
Весну и первую капель.

Люблю грозу в начале мая,
Берёзы праздничный наряд.
Ну как прожить, не замечая
В огромном небе звездопад.

Люблю почувствовать прохладу
И свежий воздух у реки.
Считаю это за награду,
Как запах сваренной ухи.

О, Неман мой, позволь признаться
В любви к тебе за красоту.
Я не устану любоваться
Ковром цветущим за версту.

О, Неман мой, в стихах и в песне
Тебя мы славили не раз.
Беречь природу надо вместе:
Мы для тебя, а ты для нас.

## Я всё люблю

Люблю, когда летят снежинки,
Стоит зима, искрится снег.
И станут белыми тропинки.
Остановить бы стрелок бег.

Люблю, когда весна приходит,
Цветут сады и воздух чист.
Берёзка с дубом хороводит,
Играет песню гармонист.

И лето жаркое люблю я:
Стоит прохлада у воды.
Палитра месяца июля
Поёт, звенит на все лады.

Наступит осень золотая,
Созреют яблоки в саду.
И птицы, мимо пролетая,
Возьмут с собой мою беду.

Люблю рассвет, ночное небо,
Я всё люблю пока живу.
А в поле выйду – запах хлеба,
Колосья гнутся на ветру.

Какое счастье жить на свете,
Любить, трудиться и мечтать.
Желаю мира, всей планете
Пошли Всевышний благодать.

Творцу хвала за всё земное,
За жизнь, подаренную мне.
Прошу простить за всё плохое,
Я низко кланяюсь тебе.

## З Новым годам!

Ляцяць блакітныя сняжынкі
І снегу гурбы намяло.
Дрыжаць ад холаду галінкі.
І лес маўчыць, і сціхла ўсё.

А гэта снежань крочыць полем,
Засыпаў сцежкі і двары,
Яго пара – і як ніколі
Не запалохаць дзетвары.

Няхай мароз і вецер зліцца,
На горках гульні, радасць, смех!
А лягу спаць і мне прысніцца
Цукерак розных цэлы мех.

І мары здзейсняцца, я знаю,
Пад Новы год бывае так.
Я падарункі атрымаю.
Бо Дзед Мароз на ўсё мастак.

Мы цэлы год чакаем свята
І вось наступіць Новы год.
Хай зажывуць усе багата,
Пад елкай водзяць карагод.

# Родная вёска

Павольна Нёман коціць свае хвалі,
Маўкліва сосны стромкія стаяць.
І дзесьці там, у неабсяжнай далі
Буслы дадому з выраю ляцяць.

Вось так і я спяшаюся дахаты,
Дзе б ні была, а цягне родны кут.
Маіх сяброў і сваякоў багата,
І першае каханне маё тут.

Прыпеў:

Морына — родная вёска мая,
Морына — вельмі люблю цябе я.
Колькі прыгожых дзяўчат тут жыве,
Гэткай красы ты не знойдзеш нідзе.

Вось бачу зноў я вузкую сцяжынку,
Якой хадзіла к берагу ракі.
Сустрэла сінявокую дзяўчынку,
Калі збірала ў полі васількі.

Я быццам бы душой памаладзела.
І успаміны хмаркай праплылі.
Пад гэтай вось бярозкаю сядзела,
У Морыне пусціла карані.

Прыпеў.

Няхай жа свеціць зорачка надзеі,
Пяюць дзяўчаты песні пра любоў.
Прадбачу толькі добрыя падзеі,
Жадаю табе, вёска, добрых сноў.

Якая ж ты прыгожая вясною,
Калі сады цвітуць і пахне бэз.
Я змілавана гэткай дабрынёю,
І рэхам адгукнецца стары лес.

Прыпеў.

# Алег Ігліцкі



*Алег Міхайлавіч Ігліцкі нарадзіўся ў в. Морына Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. У 1975 годзе закончыў Морынскую сярэднюю школу, працаваў рабочым на розных прадпрыемствах, затым карэспандэнтам раённай газеты. Завочна закончыў Мінскі інстытут культуры, Беларускі дзяржаўны універсітэт імя М.Танка. Доўгі час працаваў дырэктарам Морынскага Дома культуры, затым перайшоў на педагагічную працу.*

*Алег Ігліцкі захапляецца паэзіяй з юнацкіх гадоў. Друкуецца ў газетах “Чырвоная змена”, “Культура”, “Іўеўскі край”.*

## Іўе

Ушыркі раздаліся гарады —
Равеснікі тваіх сівых вякоў,
А ты ўсё маладзееш, як заўжды,
Мястэчка ў светлай сіні васількоў.

І ты спазнаеш пабрацімаў лёс:
Вунь колькі на ўскраі камяніц!
Забудзеш цішыню і шум бяроз,
Абшар лугоў, пах малака з дайніц.

За блескам новых вокнаў, ліхтароў
Адно хачу я: толькі не растраць
Руплівых гандляроў, гаспадароў,
Хто без зямлі не можа працаваць.

Будзь горадам, але навек пакінь,
Не дай знікаць, бо ў тваіх вачах
З крыніц Івенкі  б’е жывая сінь,
І памяць наша ў сівых курганах.

Над быстраю Івенкаю стаю,
З глыбінь вякоў жыцця струменіць ніць.
Я вечнасці імкненне пазнаю
Сярод старых і новых камяніц.

## Бацькаўшчына

Па-над Морынам сіні дымок
Ранак лёгкай кудзеляю ўе.
Пад нагамі звініць паграмок —
Добра босым нагам у траве.
Колка, росна да вёскі ісці
Ад шашы праз разгалісты бор,
Але што прыямней у жыцці,
Чым вось гэты бяскрайні прастор.

## Беларусі

Ёсць зямля, а на ёй ёсць такія мясціны!..
Аддзяляй нас, хоць вочы ад іх завяжы,
Мы ўзнімемся ўвысь і ўклінімся ў статак бусліны,
Каб да іх прыляцець і ўбачыць, як Нёман бяжыць.
Нас не вабіць чужая зямля,
Нас не маняць чужыя багацці,
Бо такое багацце не кожнаму дадзена мець:
Хлеб ды соль, смех ды песні ў кожнай хаце,
Лён ды жыта шуміць, там дзе войны гулялі ды смерць.

# Гартаюць нас Колас з Купалам

Зямля Беларусі, ты нас узгадавала
Пяшчотай матулі і бацькавай ласкай.
Нам Коласа словы, нам песні Купалы
Адкрыліся ўслед за бабулінай казкай.

Гучаць пранікнёна над лёгкай спакусай,
Нам тымі, хто краем сваім пагарджае,
Хто лічыць на словах сябе беларусам,
І песні на словы чужыя спявае.

Чужое ніколі душу не ўскалыша,
Не дасць для руплівай працы натхнення.
На мове чужой і пясняр не напіша,
І дуб не цвіце пры засохлых карэннях.

Шануйма ж спадчыну продкаў святую,
Каб мова штодзённай вялікасцю стала.
Наш дух малады, беларускі гартаюць
Айчыны два волаты – Колас з Купалам.

# Надвечар

Надвечар нізка да зямлі
Туману бель смугой лягла.
І коні быццам паплылі
Ў краіну вечнага цяпла.
Там дрэмлюць шэрыя стагі.
Там зоркі Нёмну б'юць паклон.
Чапляе месяц да дугі
Празрыстых вод крыштальны звон.
Ён не дае ніяк заснуць
Ля бухты дрэвам векапомным.
Сюды прыйшоў і я ўдыхнуць
Кастра начнога сіні дым.

# Воблакі

Куды вы, бэзавыя воблакі?
Няўжо вам хочацца расстацца,
Няўжо завуць вас грому водгукі,
Грыбным дажджом пара суняцца.
Няўжо так рана вы паспрэчылі
З люстэркам мокрага балотца,
Дзе косы жоўтыя развесілі
Бярозкі на заходзе сонца.
За вамі ў небе чырвань сцелецца,
Паветра стыне звонкім рэхам.
А мне ў асенні дзень не верыцца, —
На сэрцы леташняя ўцеха.

# Світанак над Іўем

Над краем лясістым, над краем азёрным,
У росных лугах ціха ночка знікае.
Ля рэчкі Івенкі, пад россыпам зорным,
Світанак у Іўі з табой сустракаем.

Вадой наталяемся з чыстай крыніцы,
Тут шэпчуцца травы, тут спеў жаўруковы,
Тут песня народная з сэрцаў бруіцца,
У народзе жыве беларуская мова.

Зямля цёплым ранкам ад сонца сагрэта,
Дзень новы вітае абуджаны горад.
Квітней наша Іўе ў песнях паэтаў,
У новых будоўлях юначы твой погляд!

Тут люба ўсё і душою сагрэта,
Знаёмае, блізкае вабіць з дзяцінства:
І вежы касцёла, і мячэць з мінарэтам.
Іўеўчане заўжды мацавалі адзінства.

Адклікнецца звон праваслаўнай званіцы,
Чакаюць здалёку гасцей сінагогі.
Пра Іўе сяброўскае нельга забыцца,
І горад завуць і шляхі, і дарогі.

Сустрэнемся тут на Купалле з табою
Ля млына старога, Івенкі вірлівай.
Закружаць вянкі, паплывуць над вадою,
Каб мары збываліся доляй шчаслівай.

# Суседкі

*(Апавяданне)*

Набліжаючыся да дома, Ганна Янкоўская ля варот Дрынеўскіх сустрэла Магрэту.

— Вечар добры! — стомлена павітала яе суседка.

— Нешта і ты сёння ўходжваешся позна?

— А няхай яе, з гэтай гаспадаркай!.. — адазвалася Магрэта і таксама павіталася. — А ці ж толькі сёння так я? Кажнюткі божы вечар. Адна ўсе ды адна раблю. А ён толькі сабе папівае, каб яго смала спіла!..Ты ведаеш, бутэлячку націранння прыгатавала была, і тое сёння, каб яго халера,вытрубіў. У хляве была, не згледзела. Ляжыць, як цэп, п'яны, каб ён даў бог ды да гары злёг!..

— Сплюнь тры разы, — замахала рукамі Ганна. — А што ўжо мне казаць? Мой не менш жлукціць за твайго. Нікому не прызнаюся – сорам, але, як няма яму чаго піць, то гуталіну , во!, есць і цэлую ноч потым нешта ўсё гаворыць-гаворыць... А сёння на ранку праснуўся і кажа: "Ганулька, сніў, што мяне бабы мылі: значыць, хутка мне капут". А я яму: "Цябе і шлягаю не заб'еш, — кажу, — ты гэтай жа гары мо цыстэрну ўжо выцадзіў, прасмярд наскрозь. Жыў будзеш, халера цябе не возьме!"

— Яно гэтак, мілая мая. Добрыя людзі, вунь, не могуць ад хваробаў адкарастацца, а алкаголікаў нічога не бярэ, не прыстае.

— У іх адна немач — дзе дастаць выпіць, як той рубель спаткаваць на бутэльку. Добра, што цукру па кілі ўсяго сталі выдзяляць. Можа гэтыя самагоншчыкі прыціхнуць каплю?

— Далібог, добра, Магрэтачка. Хоць таго варэння ўжо не зварыш, але, далібог, добра!

А Магрэта Дрынеўская працягвала:

— У тую нядзельку, чуеш, у сына свайго ў Мінску была. Ледзь данесла дзве сумкі ўсяго. Яек, сала, паўкумпяка, варэнняў усялякіх і першачку бутэлачку. Тысячу рублёў яшчэ. Яны, значыцца, кватэру атрымалі...

— Ой, як добра! Выгода ж ім ужо будзе.

— Ага, і прыехала я ў горад. Пытаюся ў аднаго мужчыны, якім аўтобусам да сына даехаць, а мне чалавек кажа:"Бабушка, вам в метро надо". Дабралася ў гэтае метро, села ехаць – то рукі і ногі закалаціліся. Думаю сабе: зараз як рухне што, то і пойдзе ўсё пад зямлю, да таго пекла. А мне то ўсё адно, а там жа ўсе маладзенькія едуць. Красак — ні на адным ліцэ.

— А што ж думаеш? І на работу, і з работы — усё пад зямлёй. Сонейка мо раз у год бачаць. Я чула, мілая ты мая, што ўжо і дамы пад зямлёй будаваць пачнуць.

— Можа быць. У гару колькі ж можна лезці? Вунь, майму Жэньку аж на дванаццатым паверсе далі кватэру. Дык мяне адна там жанчына ўсадзіла ў, як яго, ліфт і кажа:"Едзь здарова". Еду, еду, галава закруцілася, баюся — сумкі пудовыя, адарвецца возьме гэты ліфт і мне — блінец. Адным словам, скажу табе: гэты горад — цэлая ерунда. Пазалазяць на гэтыя дванаццатыя паверхі і сядзяць без жаднага клопату. Толькі пісьмо на пісьмо пішуць:" Мамка, ці хутка каляду будзеш калоць? Ці назбірала ягадаў? Ці ўсаліліся паляндвічкі?"

— А што ж яшчэ ім, Магрэтачка, рабіць — згадзілася Ганна Янкоўская і з гэтым. — Яны сабе час свой адбылі на заводзе, ды вольныя . Скажу табе, што думаю: мужыкі ў тым горадзе гультаі, але і бабы там разбэшчаныя. Паехала я да свайго Славіка, дык ён, прыходжу, падлогу мые. А нявестка — на канапе разлегшыся. Я і кажу: "Валя, уставай, хаця б талеркі ды шклянкі памый". А яна: "Мама, вы не волнуйтесь, Слава все сам сделает. Я его приучила ко всякой работе". Адным словам, заваліла майму хлопцу рукі. А я яму казала: "Сынок, не жаніся на гарадской, яна да працы не прывучаная, бяры дзеўку з вёскі, то жыць будзеш". А ён адказаў: "Мама, я яе люблю!" Во, што з вялікай любові выходзіць.

— Праўда-праўда, маладзёж распусная пайшла, — адчуваючы задавальненне, што і яна не горш за суседку ведае гарадскія праблемы, загаварыла Ганна. — І ты ж толькі нікому не кажы. Цімоха Канцавога нявестка курыць, ва ўсю пштэліць!

— Сплюнь тры разы... Яна ж, кажуць, нейкая вучаная.

— Далібог! Каб я з гэтага месца не сыйшла. Такія вучаныя яны й кураць. Без жаднай работы, вядома ж. Іду я сабе раз да рэчкі, а яна ляжыць голая на посцілцы і дым слупам над ёю...

— Ціха, яна мусіць па музыцы вучаная?

— Сціхні ты, якая яе гэта музыка! Грае нешта там сабе і то, кажуць, той струмент яе машынай возяць. Вот, роспуст нейкі, ды ўсё!

— Ганна, а хіба ж цяпер граюць так, як некалі граў Сымон Гудзень? Як рэзне, бывала, на гармоніку, то нізашто не ўстаіш... А як, скажы, спявалі! Як вяселле чыё было, то аж хата разлягалася. А цяпер усе хочуць, каб музыканты весялілі.

— Ды якое там іх вяселле? У Груньκі Дарохі гралі нейкія барадатыя, дык цэлая нэндза. Я кажу ім: "Хлопцы, досыць вам на людзей сон наганяць, урэжце што-небудзь вясёленькае". А яны грохатам аглушылі і адказваюць: "Ты, тётка, не понимаешь: это металл".

— Цяпер усе за гэтым металам загнаныя — і маладыя, і старыя некатарыя, не паймеш. А ім яек, сала-мяса ў горад як не завязеш, то й да металу ахвота прападзе.

— Ага. А ці добра нясуцца твае куры?

— Вот, так сабе. Дзве нечага здохлі. Пэўна, удабрэння якога наеліся.

— Наеліся – наеліся! Каб яго халера з нашым брыгадзірам. Гэтак ужо верне гэтага ўдабрэння...

— Ой, Ганна! Цялушка паляцела... Пайду ў хлеў заганяць. Яшчэ чорт занясе куды.

— І я ўжо пайду. Заганяй у хлеў. Можа п'яніца дзе мой прабудзіўся. Яшчэ стане шукаць, каб апахмяліцца, ды атруты якой нап'ецца, — гэтых слоў Ганны Янкоўскай Магрэта Дрынеўская, мабыць, ужо і не чула. Цялушка зашлапацела па быльніку, і Магрэта падалася за ёю.



# Юрый Камягін

*Юрый Уладзіміравіч Камягін нарадзіўся 20 мая 1963 года. У 1980 годзе закончыў Іўеўскую сярэднюю школу, затым – Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы. Працаваў карэспандэнтам абласнога радыё, настаўнікам.*

*З 1975 года супрацоўнічае з раённай газетай "Іўеўскі край". Быў удзельнікам 1-й Беларускай нарады маладых крытыкаў у 1984 годзе. Друкаваўся ў часопісе "Референдум" (г. Масква), газеце "Русская мысль" (г.Парыж). Супрацоўнічае з расійскай "Літаратурнай газетай". Піша вершы, апавяданні і іншую прозу.*

****

Долог иль краток с тобою наш век?
Сколько судьбою отложено?
Помню, с ладони дымящийся снег
Ела ты, словно мороженое.

****

Мне по ночам и холодно, и страшно.
Скрипит усталый, опустевший дом.
Зрачок звезды, уже давно угасшей,
Все светит, светит над моим окном.

****

Вторая осень… Я один.
А время ничего не стерло.
Сентябрьский горьковатый дым
Вдруг перехватывает горло.

Иду я, листьями шурша.
А сердце тише, тише бьется.
Я знаю, что твоя душа
Сюда уж больше не вернется.

Ты там, над небом голубым.
Ты там, за рощей золотою.
Вторая осень. Горький дым.
Мы не увидимся с тобою.

## Поход за самым дорогим

Я из дому пораньше убегу…
В лесной глуши я встречусь тет-а-тет…
…И лоскуток березовой коры
Я унесу, как самое святое.
*Н. Лисовская.*

Я из дома пораньше убегу,
Пока родители в рассветных снах витают,
И по заветной тропке на лугу
Пойду туда, где звезды утром тают.

В лесной глуши я встречусь тет-а-тет
С ним, дорогим, кто душу согревает.
И ласково шепну ему: «Привет».
А он меня, конечно же, узнает.

И снова я пойму в который раз,
Что в этом мире ничего не стою.
И самогон, отмерянный на глаз,
Я унесу, как самое святое.

****

Пускай дождливый день был грустен,
А кофе горек и невкусен.
Все ж было что-то в этом дне.
Недаром мимолётно-зыбкой
Я опален был в миг улыбкой.
Ты улыбнулась мне.

## Рэха

У грудзях маіх куля.
Я ўпаў на пясок.
Адзвінеў мой, матуля,
Малады галасок.

Неба грала блакітам,
Шчыравала жыццё.
А цяпер – воблакі там.
І яшчэ – небыццё.

Сорак першы. Пажары.
Танкі рэжуць палі.
Невыносным цяжарам
Я ляжу на зямлі.

****

Зноў бальнічная палата.
Доўгі дзень і цішыня.
Па начах мне сніцца хата.
Хата мроіцца штодня.

Гэта ж усё ў жыцці так проста,
Каб раней мне зразумець!
Шчасце – мець вясну і сосны,
Лета, восень, лісцяў медзь.

Усміхаюся дзяўчатам,
Колькі ў іх яшчэ надзей.
Дзень. Бальнічная палата.
Можа быць, апошні дзень.

****

Снова листья осенние жгут,
Даль ясна, как листок без помарок,
И свивается дым в сизый жгут,
И звучит молодецки гитара.

О, какие прозрачные дни!
Суматошные, светлые мысли.
Паутину тихонько рвани –
Полетишь с ней в неяркие выси.

Гаснет свет, как огарок свечи.
Листья. Шорох. Закат тихий. Осень.
Сядем, друг, мы с тобой, помолчим,
Лунный серп пока день не докосит.

## Лето на родине

Окно в комнате распахнуто настежь – и все равно жарко. Полуденный зной. Тишина такая, что каждый звук в ней обозначается очень четко, рельефно. Где-то внятно скрипнула калитка. Надрывно завывая, по дороге промчалась машина, подняв облако пыли. Кажется, я даже слышу, как скрипят песчинки, оседающие на землю. А это что? На улице, откуда ни возьмись, образовалась дружная компания поросят. Сквозь дырку в заборе просочились, что ли? И бегают, вольные, взрывая траву, похрюкивая и повизгивая. Да ведь словно говорят. Но на каком-то незнакомом языке. Или, наоборот, знакомом?

Осененный внезапной догадкой, я подхожу к книжной полке и достаю томик любимого мною Ивана Бунина. Ну, конечно, вот он, этот короткий рассказ мастера:

«Вышли поросята на вечернюю прогулку после ливня с бурей и в восхищенье остановились перед грязным, взволнованным прудом.

– Ах, какой прекрасный, вонючий пруд! – воскликнул передний.

И все прочие взвизгнули дружно:

– Oui! (что по-французски означает «Да» –Ю. К.)

Больше они ничего по-французски не знали».

Конечно, и эти поросята, увиденные мною на улице, радостно кричали: «Oui!». Да – солнцу, да – неожиданной прогулке, да – веселому времени молодости, которое так быстро проходит.



# Яўген Карпуць

*Яўген Вікенцьевіч Карпуць нарадзіўся 26 сакавіка 1938 года ў вёсцы Лабачы Іўеўскага раёна. Вучыўся ў Крылішскай пачатковай школе, затым ў Юрацішкаўскай СШ, якую закончыў у 1956 годзе. У 1958 годзе закончыў Гродзенскае культпрасветвучылішча, затым – служба ў арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў на асветніцкай ніве, сумяшчаючы працу з завочным навучаннем спачатку ў Маладзечанскім музычным вучылішчы, затым – у Маскоўскім дзяржаўным педінстытуце. З 1983 года доўгі час працаваў настаўнікам у СШ №2 г. Стаўбцы Мінскай вобласці, дзе выкладаў музыку, спевы і выяўленчае мастацтва. Зараз на заслужаным адпачынку. Піша вершы, байкі, песні. Друкуецца ў рэспубліканскім, абласным друку.*

***

У думках, быццам у аблоках,
Плыву над вёскай Лабачы –
То раптам нізка, то – высока...
І сняцца сны мне ўначы...

Вось тая вёсачка ля лесу,
Дзе землякі мае жывуць,
Дзе раніцою сваю месу
Зноў пеўні дружна запяюць.

Лячу ў вір маленства смела –
За працай бачу тых жанчын...
Плыву далей па травах спелых
Ля роднай вёскі Лабачы.

І што тут скажаш пра нягоды,
Пра быт вясковы, пра жыццё? –
Пульсуюць у такт самой прыродзе
Надзея, вера, пачуццё...

Аселі многія ўжо хаты,
Вясковых дзетак не відаць,
Рабочай сілы малавата,
Цымбалы з бубнам не звіняць.

А помніцца – як у Марылі
З акон, расчыненых наўсцяж,
Сямікаленныя кадрылі
Дарылі гучна свой пасаж.

Ніхто не скардзіўся на долю –
Гучалі песні над сялом.
А заўтра – зноў з сярпамі ў полі...
(Тады камбайнаў менш было).

Ляцяць гады, Той час далёкі
Заўжды дыханнем сцерагу.
Дзядзькі, дзяды, што з нашай вёскі
Пра вас забыцца не магу.

У гэтых вобразах знаёмых
Мне адкрываўся цэлы свет.
Глядзеў на ўсё я ўлюблёна –
Як майстраваў калісьці дзед.

Прыносіў кожны дзень абновы,
Вязаў мне лёс вузлы свае.
З жыццёвых нітачак асновы
Сцяжынкі першыя мае.

Тут наша маці ў крузе вечным
Наш род у дзецях берагла,
І з калыханкаю сардэчнай
У свет нас казачны вяла.

Я прасяваў праз сваё сіта
Ўсе справы, думкі землякоў.
І вельмі добрых, працавітых
Адчуў суседзяў ды бацькоў.

Тут мялі лён і кросны ткалі...
І бог, як кажуць, усіх сцярог.
Прыгожа крыж так убіралі,
Які стаяў каля дарог.

Дарог і сцежак было многа
Якраз ля вёскі Лабачы.
Цяпер яна забыта Богам,
Не змог яе я зберагчы.

****

Твой, Іўеўшчына, лёс – у плынях тых стагоддзяў,
Якія неслі ўжо вядомасць і прагрэс.
У тысяча пяцьсот шэсцьдзесят дзевятым годзе
Уздоўж тваіх дарог стаў расступацца лес.

З Нясвіжа ў Вільню – гэтым магістральным шляхам
Купцы блукалі, пілігрымы, шкаляры...
Яшчэ славяне. Тут, пад гэтым старажытным дахам
Сваімі ўзорамі ўпрыгожвалі муры.

Вякі прыносілі і смутныя падзеі:
Пакуты, беды ды разрухі ад вайны...
Але ў іўеўцаў заўжды жыла надзея
І супраць ворагаў змагаліся яны.

Змагаліся за праўду сілай хрысціянскай
І словам ад Сымона Буднага святым.
На фронце гінулі, на сцежках партызанскіх,
Там, дзе зямля гарэла, вёскі і масты.

Як быццам з нерваў выцягнуты струны –
Гучаць жалобна, там, дзе быў рэдут:
Юрацішкі і Бакшты, Ліпнішкі, Лаздуны...
Мясцін нямала легендарных знойдзеш тут.

Аб мужнасці герояў тут не забываюць,
Тут садзяць бульбу, сеюць жыта, лён, авёс...
Тут нізка над палеткамі буслы лятаюць, –
Прыносяць для людзей яны шчаслівы лёс.

Што ж дорыць Іўе ад вякоў наканаваных?
Святыя вежы, млын, фальварак, азярцо...
І ліпы ля дарог, пасаджаны старанна
Таленавітым, працавітым удальцом.

Рака Іўянка каля вольхачкаў струменіць,
Гаўя і бацька-Неман лашчаць берагі.
Нішто тваіх лясных багаццяў не заменіць
О, Іўеўшчына! Край наш любы. Дарагі!

## Іўе-гарадок

Дарогі роўныя, як струны,
Навокал стройныя лясы.
А мы ў Іўе праз Лаздуны –
Да гэтай дзіўнае красы.

Сустрэнем позірк той дзявочы
Пад гладдзю Іўеўскіх азёр...
Мы вельмі хочам, вельмі хочам
Паслухаць, як спявае хор.

Па гулкіх вуліцах мы крочым,
Кідаем позірк на дамы.
І, быццам бы, за намі сочаць
Сівыя вежы даўніны.

Мы тут ў Іўі сустракаем
Сваіх надзейнейшых сяброў.
Тут льецца песенька над краем,
І кружыць бусел зноў і зноў.

Восенню, вясной
Дзівімся табой –
Мо таму так часта Іўе сніцца.
Летам і зімою
Дзівімся табой
І ніяк не можам надзівіцца.

## Край бацькоўскі

Сенажаці і крыніцы,
Ля дарогі васількі...
Як жа нам не ганарыцца,
Калі край у нас такі.

Коціць Нёман срэбраводны
Свае хвалі ў далячынь.
Вабіць бераг нас лагодна –
Пасядзець ды адпачыць!

А ад Прыпяці да Сожа,
Ад Дняпра і да Дзвіны
Льюцца песні так прыгожа,
Рэхам поўняцца бары.

А ў небе над палямі
Дружна звоняць жаўрукі.
Карагодзім мы з сябрамі –
Вось, ён, край, у нас такі!

Ганарымся мы Радзімай,
Мовай, шчырасцю сваёй,
Працай, песняю любімай,
Гэтай роднаю зямлёй.

## Васількі

Любы наш край,
Прыгажосць тваю зноў прыгадаем –
Поле ды гай,
Дзе салоўка так звонка спявае,
Вабіць прастор,
Выгібаецца Нёман падковай,
Дзіўны ўзор
На ручнік зоркай лёг васільковай.
Сцежкі вядуць
Да крыніц, што бруяцца з дубровы.
Вечна жывуць
У нашым сэрцы матуліны словы.
Жыта і лён
Гладзіць вецер, як быццам рукамі.
Казачны сон...
Ён прыходзіць да нас з васількамі.
Васількі, васількі, васількі...
А наш лес незвычайны такі.
Прыгажосць мы з душой успрымаем,
З васількамі жывём і кахаем.
Васількі, васількі, васількі...
Шчасцем поўняцца нашы дзянькі,
Васільковаю песняй сагрэта
Уся цудоўная наша планета.

## Іўеўскі ранак

Зноў з Іўеўскім краем сустрэцца жадаю,
Хай нас пачакаюць усе справы - пытанні...
Тут новыя вершы нам жнівень складае,
Тут слёзы натхнення і крыж спадзяванняў.

Хай рэха гуляе ад Гаўі да Сожа,
Дзе граюць жалейкі, цымбалы, баяны...
Мы верым, што цяжкасці ўсе пераможам
У краі, дзе верасам пахнуць паляны.

Тут гнёзды буслоў ля азёр ды крыніцы –
Прыгожа і вольна ў Іўеўскім краі.
Палын, святаяннік растуць ля капліцы,
І мы памяркоўна завём гэта раем.

У светлых прамовах мы дзецям тлумачым –
Як край берагчы і азёр не забрудзіць,
Як птушак, звяроў бараніць, а – іначай
У Чырвоную кнігу ўпішуць іх людзі.

Вось гэта і ёсць даўгавечнае шчасце –
Каб шчыра ў сэрцы людскія глядзець,
Каб вуснамі зноў да крынічкі прыпасці
І Іўеўскі ранак ружовы сустрэць.

## Стары млын

Спеў салаўіны ў наваколлі,
На хвалях кветкавы вяночак...
Хоць млын стары не круціць кола, –
Ён тайну нейкую прарочыць.
Ключы гісторыя павярнула,
Млынамі памяць раскруціла.
Мы зноў у Іўе заглянулі,
І гэты кут, нам родны і мілы.
Святлом праходзяць успаміны –
Дапамагае млын у гэтым.
Ляцяць так хутка тут гадзіны
І асабліва для паэтаў.

## Іўеўскі вальс

Усміхнёмся... іскрынкамі свецяцца вочы.
Нас закружыць ізноў лёгкакрылы той вальс.
А бярозка, з фігураю стройнай дзявочай,
Са здзіўленнем як быццам паглядзіць на нас.

У Іўі вальс гучыць для нас
Пад ліпамі і клёнамі,
А мы з табой у гэты край
Такія ўлюбёныя.
А мы з табой, а мы з табой
Танцуем вальс.

Разам, разам яшчэ і яшчэ павяснуем...
Рой пачуццяў, ласкавых і шчырых тых слоў.
На світанку мы пошчак салоўкі пачуем
Ля крыніцы, дзе казачны бераг буслоў.

Як прыемна адчуць на душы асалоду
Ад кахання, што кліча ў нязведаны рай.
І, магчыма, ад музыкі вальса лагоднай
Закрасуе вясёлкамі Іўескі край.

## Зямля бацькоў

Зямля бацькоў – палі, лясы, крыніцы
Ды неба сінь, дзе звоніць сенажаць.
Там і ў снах старонка часта сніцца,
Дзе на рамонках любім пагадаць.
Бы птахі, паглядзім на наваколле,
Дзе нават днем пахмурным і дажджлівым
Адчуем сілу, радасць і прыволле,
Упэўненасць ліцыць сябе шчаслівым.
Прыемна бачыць кожную абнову,
Старых сяброў заўсёды сустракаць,
Адчуць у іх цудоўных, шчырых словах
Магчымасць марыць, верыць і кахаць.

## Бацькаўшчына

Родны дом: тут маці кросны ткала,
Бацька ж цэпам жыта малаціў.
Тут пяшчотна сонейка ласкала
Кут зямлі – той, што мяне ўзрасціў.
Тут грабільна я сціскаў рукамі,
Усміхаўся, гледзячы ў даль.
Словы развітання чуў ад мамы
“Хай жа абміне цябе бяда!”...
Вунь той лес і поле залатое,
І сцяжынка, што вядзе ў сад.
Хоць аднойчы глянуць бы на тое,
Што ўжо не вернецца назад.

## Край-цуд

Свой край сцярог я ад напасці,
Пра долю бацькаўшчыны дбаў.
Званілі тут званы аб шчасці,
Тут вершы першыя складаў.
Жалейкі голас, пах чабору,
І постаць стройная ў акне,
І гукі мовы зычным хорам
Калышуць чуласцю мяне.
Ад падарожжа аж знябыўся,
Але дні тыя адышлі,
Бо за цябе заўжды маліўся,
Куточак роднае зямлі.
Мы прытуліліся, як дзеці,
Да гэтых ніў і родных хат,
Дзе ласкавей нам сонца свеціць,
Дзе пладаносіць стары сад.
Сяброўства шчырая дарога
На бераг Нёмана вядзе.
Край-цуд надзелены ад Бога,
Не знойдзеш лепшага нідзе.

## Прынёманскі край

Дзе весела сонца на хвалях гуляе,
Чаруе спакоем сярэбраны плёс.
Прынёманскі бераг зямля дарагая,
Мы дзелім з табою жыццёвы наш лёс.
Тут вольныя ветры з дубровамі дружаць
І звонкія песні над Нёмнам плывуць.
Прынёманскі бераг прытулкам нам служыць –
Сюды нас дарогі заўсёды вядуць.
Мы сэрцам адданы сваёй Беларусі,
Прыгожаму краю азёр ды крыніц.
Прынёманскі бераг, дзе кружыцца бусел,
Заўжды ўратуем ад злых навальніц.
Нам светлыя думы жыццё навявае,
Дзе свецяцца травы бурштынамі рос.
Прынёманскі бераг – зямля дарагая,
Мы дзелім з табою жыццёвы наш лёс.

## Васільковыя прасторы

Куток зямлі, дзе нарадзіўся,
Хоць небагаты, але – свой!
Заўсёды ласкаю свяціўся
І нейкай зорнай цішынёй.
Тут васільковыя прасторы
І прыгажосці адкрыццё.
Тут на лугах расінкі-зоры
Чаруюць казкаю жыццё.
Пяшчоты большай мне не трэба,
Калі вяртаюся сюды.
Тут ля бяроз пад чыстым небам
З зязюляй палічу гады.
Душа не можа памыліцца,
Лёс адмярае нам дзянькі.
Але ніколі не забыцца
Пра цуд, што дорыць васількі.

# Алена Карпыза



*Алена Яўгеньеўна Карпыза нарадзілася ў 1968 годзе ў г. Чарняхоўску Калінінградскай вобласці. У 1979 годзе сям'я пераязджае ў в. Геранёны Іўеўскага раёна. У 1985 годзе закончыла Геранёнскую СШ, затым Чарняхоўскае педагагічнае вучылішча. Доўгі час працавала выхавацелем у дзіцячым садку. З 2010 года па цяперашні час працуе кіраўніком гуртка ў Геранёнскім філіяле Іўеўскага цэнтра рамёстваў. Вершы пачала пісаць у пачатковых класах. Друкавалася ў "Калининградском комсомольце", "Гродзенскай праўдзе", "Іўеўскім краі", часопісе "Пралеска". Піша вершы, маналогі, сцэнарыі святаў і тэатральных пастановак. У 2003 годзе ў зборніку песень Копа М.А."Жыццёвыя дарогі" былі змешчаны песні "Векавуха" і "Ой, здарылася бяда".*

## Игорёшка

Я присела у окошка.
Тихий летний вечерок.
Где-то вдалеке гармошка
Голосок свой подает.
Да, гармонь поёт певуче,
Но гитара ближе мне –
Паренёк черняво-жгучий
С ней гуляет при луне.

Игорь, Игорь, Игорёшка,
Поиграй ты нам немножко
На гитаре шестиструнной
Покажи высокий класс!
Игорь, Игорь, Игорёшка,
Щурит глазки, словно кошка,
И гитару нежно гладит,
Раззадоривая нас.

Почему ты не играешь?
Дай гитаре зазвучать!
Ты же столько песен знаешь,
Начинай скорей играть!
Я тоскую по гитаре,
Я грущу по волшебству,
Начинай же, слышишь, парень,
Песню задушевную.

Лишь коснулся он гитары,
Звуки поплыли волной,
Раздались в душе фанфары:
– Вот он – голос неземной!
А гитара то заплачет,
То как льдинка зазвенит,
То вдруг страстно иль печально
Кастаньетой застучит.

## Хлопец захацеў жаніцца

Хлопец захацеў жаніцца, маці ў сваты пасылаў
Да дзяўчынак-маладзіцаў, сам сядзеў, адказ чакаў.
Што за гора, за напасці: вось ужо ні год, ні два
Ну, не знойдзе маці шчасця для любімага дзіця.

То дзяўчына вельмі бледна – можа захварэла чым.
То сіротка, зусім бедна – няма ў людзі выйсці ў чым.
То сабакай  на ўсіх брэша, то крывая, то таўста,
То , як свінкі, спіну чэша каля кожнага слупа.

Ніяк хлопцу не жаніцца, нельга маці дагадзіць.
Так, відаць, што ён усё жыцце будзе ў хлопцах хадзіць.
Самастойных дзеўкі любяць, а не мамкіных сынкоў.
Вось таму і не дагодзяць маці, бо яна ж – свякроў.

## Черемуха

Цвела в саду черемуха душистая,
К себе цветами, запахом звала.
А отцвела – и стала неказистая,
Невестой будто вовсе не была.
Остались лишь одни воспоминания.
Цвет, словно снег, сошел – и нет его.
Как часто в нашей жизни за обманами,
Бывает, просто нету ничего.
Ах, как глупа была я, все надеялась,
И верила всему, что говорил.
Открылась правда – только мне не верилось,
Что ты со всеми так легко грешил.
Смотрю я на черёмуху бесцветную –
Мелькают темны ягоды в листве,
К себе они не манят и не требуют,
Как те цветы, любви былой уже.
Ах, ягода черемухи невзрачная,
И вязкая на вкус, и горечь есть.
Когда лишь ночь пройдет не брачная –
Вы вспомните, что есть девичья честь.
Так не спешите ягодой быть спелою,
Храните вы невинности цветы.
Весной черёмуха вновь станет белою,
Но вам так не дано весной цвести.

## Ромашки

Ромашки на лугу глазастые такие,
Они всю жизнь мою мне очень дорогие.
Бегу на луг смотреть, как белые сестрички
Для солнышка спешат раскрыть свои реснички.
На тонких стебельках качаются тихонько,
Ведь ветерок шальной ласкает их чуть только.
Он дунет – и они ожили, словно море,
Волна к волне спешит, гуляет на просторе.
Хочу я в море то войти и окунуться,
Хочу я от любви и счастья захлебнуться.
Хочу лежать среди глазастеньких ромашек,
Ведь для меня они во сто раз лучше, краше.
Ромашки на лугу реснички закрывают,
Не смотрят в темноту, а быстро засыпают.

## Дочь

У меня спросила дочь:
– Мама, чем тебе помочь?
Может быть помыть картошку,
С братом поиграть немножко?
Может быть полить цветы?
Знаю я – устала ты.
Я игрушки все сложу,
С полочек всю пыль сотру,
Быстренько я пылесосом
Сор с ковра весь соберу.
Убирала, протирала –
Не ленилась дочь моя,
Чтобы мама ей сказала:
– Я бы так и не смогла.

## Бюджет

Как-то раз спросила Нина:
– Мама, сколько стоит мыло
И стиральный порошок,
Паста, бритва, гребешок?
Сколько стоит нам квартира?
А на месяц сколько жира
И картошки надо нам,
Чтоб готовить по утрам?
Макароны, соль и спички,
И колготки для сестрички?
Все во сколько обойдется,
Если месяц жить придется?
Говорит ей мать в ответ:
– Как позволит нам бюджет.
Вновь вопросы на ответ:
– Что такое тот бюджет?
Может это грозный дядя,
Что командует не глядя?
Мама смотрит и смеется,
Видно, отвечать придется:
– Папа даст свою зарплату,
Мама даст свою зарплату –
Вот и будет наш бюджет,
Коль других доходов нет.

## Васильку

Голубой и неяркий в поле –
Ты головку свою наклонил.
И влюбилась в тебя я до боли.
Чем же сердце мое покорил?
Не своим ли доверчивым взглядом,
Не своим ли движеньем земным,
Не своим ли небесным нарядом,
Что зовем мы в душе дорогим?
Да я просто тебя полюбила
За твою красоту, доброту,
Что земля тебе подарила –
Вот за что тебя я так люблю.

# Генадзь Магільніцкі

*Генадзь Пятровіч Магільніцкі нарадзіўся 20 лютага 1947 года. Закончыў Мінскі інстытут фізкультуры, Гродзенскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт. Пасля службы ў арміі працаваў настаўнікам фізкультуры, гісторыі ў школах раёна, з 1992 па 2004 гады працаваў дырэктарам Ліпнішкаўскай СШ. У 2004 годзе пайшоў на заслужаны адпачынак.*

*Памёр ў 2011 годзе.*



## Мая Радзіма

Дзе б я не жыў, і чым бы не займаўся,
А вобраз брата, бабкі, бацькі, маці
У сэрцы моцна, цвёрда захаваўся,
Як быццам і цяпер яны ў хаце.

Вось плот схіліўся, нібыта ад болю,
І вокны ў хаце слёзна запацелі.
Адсюль мы спрабавалі ладзіць долю,
Гады, як птушкі ў вырай, праляцелі.

Тут босымі кароў у поле гналі,
Я помню “пастаўнік” і “воры”, “кланi”,
Тут пальцы ў кроў гуляючы збівалі,
У роднай вёсцы з назваю Сцігане.

Цяпер іду з канца ў канец паволі, –
Вось мур з камення даўні захаваўся –
Тут кукурузу часта мы палолі, –
У сад чужы – вось тут я “убіваўся”.

Памёр Владук, забыліся Антошку,
І Пякуроў і Брэйваў не відаць,
Маё гняздо, ты пасядзі хоць трошку,
Бо за цябе магу жыццё аддаць.

# Паэма аб Ліпнішках

Ужо мінула больш шасці стагоддзяў.
На беразе рачулкі Апіта
Мясцовы люд маёнтак там узводзіў,
На землі пан багаты завітаў.

Тут босымі нагамі гліну месяць
І цэглы ўкладаюць у сцяну,
Так кожны дзень, гадзін, напэўна, дзесяць,
Увосень, зімку, лета і вясну.

Праходзіць час, будуецца будынак
І шмат тут незнаёмых люду "дзіў" –
А колькі куфраў, мэблі, розных скрынак
Мясцовы пан сюды вось навазіў.

Парк ліпавы заклаў на першым часе
І дрэва вельмі добра прыжылося.
Задумка пану добра ўдалася
І Ліпнішкамі месца назвалося.

Лясы, балоты, пушчы, рэчка Гаўя
Прымусілі зрабіць такі абход,
І гэта месца стала шляхам даўнім
На Поўнач, Поўдзень, нават на Усход.

Амаль, што тры  стагоддзі землі нашы
Належылі да Кіеўскай Русі,
Лясы, азёры, выганы і пашы
Сваёй уладай Полацк запрасіў.

Гаштольдам, Пацам, Кейстутам ва ўладу
Па волі лёсу землі перайшлі,
І жыхары без войнаў і нападу
Паслушна ў падняволле ішлі.

І гетман Пац па волі каралеўства
Тут войска, артылерыю стварыў,
І моцнаю ўладай верхавенства
Павіннасці сялян агаварыў.

Чынаш з зямлі, пасыл у лес на грэблю,
Касіць, зграбаць, калі прыйшла пара,
Часам драўніну, часам ладзіць мэблю
І ўсё вазіць да панскага двара.

Па волі Аўгуста мястэчкам сталі звацца,
І герб "Пагоня" зразу атрымалі,
Пайшлі расці, бо сталі будавацца,
Зямлёю Безбародкі правіць сталі.

Час, звязаны з Айчыннаю вайною...
Уцёк, схаваўся быўшы канцлер польскі,
А захавалі права за сабою
Спачатку – В.Пуслоўскі, потым – Вольскі.

Ён сам караў сялян сваіх – пачвара.
Нядоімкі – не лепшая пара.
Ёсць месца, дзе збіраліся ахвяры,
Яно завецца "Катава гара".

А ў стагоддзі з лічбай васемнаццаць
Сын Вольскага з Парыжа шле праект, –
Пачаў  касцёл з камення будавацца,
Ажыццявіў ён бацькаў запавет.

Друкарню тут стварыў Пілсудскі Юзэф,
Быў партыі мясцовай кіраўнік.
А неўзабаве выйшаў першы нумар,
Ён проста называўся "Працаўнік".

І "Кайзеры" часова тут бывалі.
Я праўду гістарычную нясу.
А Ліпнішкі, хаця не ваявалі,
Увайшлі ў прыфрантавую паласу.

Пасля вайны Пілсудскі зноў з'явіўся,
Заставіў лёс яго вось тут спыніцца.
Мясцін, людзей знаёмых не забыўся
І школы распачаў ён будаўніцтва.

Надзелам панскім быў канец пакладзен
Падчас вайны Германіі і Польшчы,
Сялянскі камітэт на месцы складзен.
Здаецца, час прайшоў, зусім не горшы.

З'явіліся ў нас і камсамольцы,
У органах Вярхоўных прадстаўніцтва.
У войска адпраўлялі дабравольцаў,
Спадар Кузьма абраны ў кіраўніцтва.

І з новым курсам, сілай і натхненнем
Саветы падыйшлі да кіравання.
Народ валодаў вопытам, уменнем.
Быў час надзеі, веры, хваляванняў.

Аднак вайна парог пераступіла,
Фашысты-акупанты "рукі грэлі",
У час нашэсця гэтай змрочнай сілы
Два разы моцна Ліпнішкі гарэлі.

Вайна заўсёды людзям смерць прыносіць.
Разруха, голад, удовы і сіроты.
Хутчэй бацькоў вяртацца дзеці просяць,
Сыноў з слязьмі праводзяць за вароты.

А дваццаць восем воінаў заўзятых
На плошчы ліпнішкоўцы пахавалі.
Агнём нязгасным, водбліскам у хатах
Мы памяць аб мінулым захавалі.

Пакрыты дух даўніны воляй часу.
А ліпы ўсё цвітуць, як зацвіталі,
І лепшага раённага калгаса
Мы “Ліпнішкамі” правільна назвалі.

У навальніцу, сцюжу і паводку
Нам ліпы замшэлыя шумяць.
І шэпчуць нам зямлі далёкіх продкаў,
Даюць нашчадкам ісціну паняць.

Сама б хацела “Ліпаю” назвацца,
Чаму прыйшло такое ў галаву?
Не хочацца ад месца адрывацца,
Бо я таксама ў Ліпнішках жыву.

## Гімн школы

Мы ўсе беларусы, мы здольны падняцца
Сваім асабістым пачынам.
У ведах і працы мы будзем старацца
На славу любімай Айчыны.

Для творчасці нашай, імкненняў, находкі
Дадуць нам штуршок нашы веды,
Нам вас не забыць, паважаныя продкі,
І нам па плячу вашы беды.

Мы вучыліся, марылі пад сцягам адзіным
Мы самі ствараем дзяцінства
У славу народа, у славу Радзімы
У славу братэрства, адзінства.

Мы ўсе беларусы, мы здольны падняцца
Сваім асабістым пачынам.
У ведах і працы мы будзем старацца
На славу любімай Айчыны.



# Іосіф Масян

*Іосіф Іосіфавіч Масян нарадзіўся ў 1959 годзе ў в. Апіта Іўеўскага раёна, вучыўся ў Ліпнішкаўскай сярэдняй школе. Затым у Лідскім індустрыяльным тэхнікуме. У 1994 годзе закончыў журфак БДУ. Друкаваўся ў газетах “Звязда”, “Чырвоная змена”, “Знамя юности”, “Ніва”, часопісах “Родная прырода”, “Дом і сям’я” і іншых выданнях. Жыве і працуе ў Лідзе.*

## Першадрукар

Праз пыл летапісных лістоў,
Скрозь церні няўмольнага часу
Праравецца мінулае зноў
У сёняшні дзень. І адразу ж
Паўстане вачам, слаўны, Ён –
Скарына...
Ці помняць руіны
Вечныя крокі Скарыны,
Ці чуюць яны скрозь свой сон?
З аздобленых друку радкоў
Гучыць мілы голас Радзімы:
Многа ў мяне ёсць сыноў,
Ды з першых –
Францішак Скарына !

## На Вялікдзень

Вялікдзень – свята ачышчэння,
Свята сонца і вясны:
З пакалення ў пакаленне
Аднаўляюць нас яны.
Зноў ад ранку да касцёлаў
Мы спяшаем прычасціцца...
Молім Бога і анёлаў:
Хоць на міг з вышынь зірніце,
З-пад завоблачных нябёс
На зямлю. Тут – мора слёз...

****

Зыркія зоркі з касмічных вышынь
Льюць свае слёзы над намі...
Вандалам свой Край не пакінь,
Каб Матчыну Мову нагамі –
Нівы Святой не стапталі.

## Сцяна

Тварам – да змрочнай сцяны,
Тварам – да вечнае ночы.
Як жа баяцца яны
Бачыць ахвяр сваіх вочы.
Ад рук, забіваць ахвочых,
Зніклі Айчыны сыны
Тварам – да вечнае ночы,
Тварам – да змрочнай сцяны...

****

Ідуць гады. Растуць ахвяры
Часоў пякельнага пажару.
А зоркі клічуць на спатканне.
Здаецца, вось бы нам – туды!
Мо б там знайшлі выратаванне
Мы ад чарнобыльскай бяды...

## Каханай

Нам бязмерна светла і высока –
Мы гарым з табой, як на кастры!
Пакахалі – і з тае пары
Нам бязмерна светла і высока!
І няхай не страшаць нас вятры,
Што засыплюць прысакам глыбока:
Нам бязмерна светла і высока –
Мы гарым з табой, як на кастры!

## Трыялет

Устрапянуўся хор лясны
За ўзлётам пальцаў дырыжора,
Што нашы крыўды і раздоры –
Устрапянуўся хор лясны!
І ліра юнай Тэрпсіхоры
Разносіць музыку вясны...
Устрапянуўся хор лясны
За ўзлётам пальцаў дырыжора.

****

Той жанчыну дрэнна знае,
хто гатоў хваліць ва ўсім,
а хто вечна асуджае –
той не ведае зусім!

****

У бялёсым тумане нябачна
Радзімай бацькоўскай страхі...
Любая мама, прабач нас
За блуканне, за нашы грахі.
Як чакаў я такой вось сустрэчы
З роднай хатай старэнькіх бацькоў,
І абняўшы худзенькія плечы,
Пацалую за ласку, любоў
Мілы матчын твар. У дзяцінства
Зноў прыводзіць мяне пачуццё.
О, святая зямля мацярынства.
Ты надзея мая і жыццё.

****

О, як балюча за цябе –
Мая радзімая старонка!
Нейтрон раз'ятраны дзяўбе
Твае рабінавыя гронкі.
Навошта дзіўную красу
Знішчаем самі, як вар'яты?!
Жыжма змялела... Я прашу
Схаваць ад большых стратаў
Зямлю адзіную, адну.
Курганны край мой знакаміты!
Ты зноўку крочыш скрозь пакуты.
Стаю, самотай апавіты,
Ля жэрлаў масавай атруты...

## В деревне

Только солнце вершин коснется,
Я спешу по утрам за село,
Где ромашек – осколочков солнца –
Будто вьюгами, намело.
На лугу ветер свеж и чуток,
Луг, как солью, посыпан росой.
Терпко пахнут глаза незабудок
Солнцем, ливнями и грозой.
В вышине – васильковое небо,
Дали синью чуть-чуть дымят.
Как давно я в деревне не был,
О, как много не видел я!

****

Беларусь! Мне нічога не трэба.
Толькі, мілая, шчасна жыві.
І каб ведаць, што ў бохане хлеба
Ёсць часцінка бацькоўскай зямлі.

****

Я прыехаў сюды: да сардэчка Радзімы,
Дзе вобраз імклівай "Пагоні" ўваскрэс,
Дзе нясецца над Свіслаччу крык лебядзіны,
Якога й не сцішыць сталёвы прагрэс.
Я прыехаў сюды, каб спаткацца з мінулым,
На скрыжалях яго векавой цішыні.
Каб матуліным словам, дзівосным і чулым,
Цябе ўслаўляць ўсе астатнія дні.

****

Гінуць дрэвы...
Нябачна іх слёз.
Не губіце красы свайго краю!
Ды з дзівоснага стану бяроз
Хтось бязлітасна сукню здзірае.
І ляглі пад сякеру дубы,
Што яшчэ Каліноўскага помняць...
Толькі чорнага дыму клубы,
Толькі пні і ашмотачак промняў
На зыходзе аджыўшага дня,
Што згасае ў кроплях расы,
Як апошні ўздых зубраня,
Як апошняя песня красы.
Гінуць барсы, мядзведзі, бабры
Ад знішчальнай бязлітаснай зграі.
Рэха стрэлаў гучыць у бары...
Не губіце красы свайго краю!

## Жанчынам

Яна прыйшла – цудоўная часіна
Спаткання нашага з вясной.
І люба сёння кожная жанчына,
Хоць сэрца аддано адной.
Хачу да Вашых кінуць ног
Букеты з ружаў і ляўкояў.
Калі ж на свеце ёсць ты, Бог,
То дай ім шчасця і спакою.
Мужчыны хай асветляць шлях,
А не былі для слёз прычынай,
Сям'я на кволенькіх плячах –
Лёс незайздросны ў жанчыны.
Якое трэба мець цярпенне,
І колькі ж сілы трэба мець
Ім, каб з любоўю і натхненнем
Свет ускарміць і абагрэць.
Заўжды прыгожай і адзінай,
Загадкай вечнай быць для нас.
Са святам, мілыя жанчыны!
У думках хоць – цалую Вас.

## На Дзяды

Па алеях горада ўмёрлых,
Дзе час, здаецца, запаволіў бег,
Ты ідзеш у смутку светлым
Да знайшоўшых вечны тут начлег
Родных, блізкіх... І над іх магілай
Плывуць па небу белыя аблокі.
Можа, душы нашых продкаў мілых
Гэтак жа плывуць кудысь далёка...
І глядзяць на нас з той вышыні,
Дзе няма ні крыўдаў, ні раздораў.
Ды ад роднай, як бацькі, зямлі
І мы ж калісьці ўздымемся да зораў.
Але пакуль кахаю і жыву –
На Дзяды, у жалобе светлай,
Букецік з астраў зноў нясу
Па алеях горада ўмерлых...



# Генадзь Міронччык

*Генадзь Мікалаевіч Міронччык нарадзіўся ў 1962 годзе ў в. Бяжэмцы Іўеўскага раёна. У 1979 годзе закончыў Даўнарскую сярэднюю школу і паступіў у Мінскі інстытут культуры. Пасля заканчэння працаваў ва ўстановах культуры, а затым працяглы час у рэдакцыі раённай газеты "Іўеўскі край". Вершы пісаў з юнацтва. Друкаваўся ў абласным і раённым друку.*

*У цяперашні час не працуе.*

## Зоркі над Іўем

Чаруе заранкі агонь трапятлівы
Як хуткі і шчыры дзявочы пагляд.
У роднай старонцы, дзе ў квецені слівы,
Агністай вясёлкай ляціць зарапад.
Не зычу нікому ні гора, ні болю,
Прыму за сваю і чужую бяду.
І з лёгкай душою ў хвіліны спакою
Па вуліцах Іўя я ціха прайду.
Вунь зорка ўпала на помнік з граніту,
Плыве над зямлёй небасхіл, нібы дым.
"Ніхто не забыты! Нішто на забыта" –
Вось словы, што памяць у сэрцы маім.
Не зычу нікому ні гора, ні болю,
Прыму за сваю і чужую бяду.
І з лёгкай душою ў хвіліны спакою
Па вуліцах Іўя я ціха прайду.
У возеры ноччу купаецца поўня,
Страсаюць з галінак ракіты расу –
Я гэта ўбачыў, я гэта запомню,
Як водар жыцця праз гады пранясу.
Не зычу нікому ні гора. Ні болю,
Прыму за сваю і чужую бяду.
І з лёгкай душою ў хвіліны спакою
Па вуліцах Іўя я ціха прайду.

****

Пустуюць лугі і палеткі,
Ліст стылай кранууўся зямлі.
Вяргіні – апошнія кветкі –
З журбінкай ужо адцвілі.
Дождж ізноў распачаў калыханку –
Шматгалоссем дажджынак спявае.
...Лістападаўскім выцвілым ранкам
У вырай восень мая адлятае.

****

Я люблю уединенье.
Я смотрю на млечный путь,
Когда тягостны сомненья,
Когда сдавливает грудь.
Уезжаю, забывая,
Что не спрятаться в глуши,
В тишине лесного рая
От смятения души.
Город всё же гласом властным
Возвратиться позовет.
Жизнь покажется прекрасной,
Затем снова всё пройдет...
Где найти мне эти силы
Ты ответь, земля моя,
Чтоб остаться до могилы
В том селе, где вырос я.
Где до боли все знакомо
Так, что выразить нельзя,
И тепло родного дома,
И надежные друзья.

## Фронтовое письмо

Написал ты письмо, что тебя на войне не убили,
Что ты жив и здоров и готов снова в бой,
Но под Брянском в пути эшелон разбомбили,
Был почтовый вагон перемешан с золой.
Дома ждали вестей, мыслью жгучею жили,
Что вот-вот постучится в окно почтальон.
Но под Брянском в пути эшелон разбомбили,
Перемешан с золой был почтовый вагон.
То не сказка, не сон, а суровые были:
Видел ты, как в рассветной, простреляннои мгле
Письма в стаи собрались, в поднебесьи поплыли,
И от них становилось светлей на земле.
Сколько песен и тем в той войне отгорело,
Сколько писем солдатских домой не дошло.
Я молчать не могу – за живое задело
Обгоревшим крылом фронтовое письмо.

## Алёнушка

Из-за леса солнышко
Каждый день встаёт.
Девушка Алёнушка
За рекой живёт.

Ночью звёзды светятся
В речке серебром,
И волна-волшебница
В берег бьёт крылом.

Песня часто слышится,
Над рекой плывёт...
Вон — камыш колышется,
Месяц воду пьёт.

Где же ты, Алёнушка –
Девичья краса?
Укатилось солнышко
В дальние леса.

****

Уходит лето. Пробил час –
И на лугу не счесть стогов.
Не милости прошу у Вас,
Не отпущения грехов.

Прошу давно Вами забытой,
Но до сих пор во мне живой,
Такой доверчивой, открытой,
Что ни на есть любви земной.

Прошу ещё того рассвета,
Прошу ещё той теплоты
И счастья, спрятанного где-то
Среди душевной суеты.

Уходит лето. Осень скоро
На травы тихие взойдёт,
И клён, уснувший у забора,
На землю золото встряхнёт.

## Одиночество

Я жду давно. Ты не идёшь.
В твоё окно стучится дождь.
Повсюду дождь, повсюду дождь,
Где я живу, где ты живёшь.
Вчера опять сказала: «Нет!»
Уходишь спать, и гаснет свет.
Повсюду дождь, повсюду дождь,
Где я живу, где ты живёшь.

****

Годы долгие разлуки
Вместе не свести,
Подадим друг другу руки
И — счастливого пути...
Слёз не надо. Слёз не будет,
Будьте чистыми, глаза!
Может, там меня разбудит
Твоя тихая слеза.
Перегоны... Эшелоны...
Вслед звенящей тишине,
Незнакомые перроны
Поползут навстречу мне.
Не растают вслед за дымкой
Через времени мосты,
Как под шапкой-невидимкой,
Твои чистые черты.
Твои сердце, губы, руки
В том неведомом краю
В часы долгие разлуки
Будут память греть мою.
Их тепло, не растеряя,
Сохраню в своей груди,
Я вернусь, моя родная,
Я вернусь. Ты только жди...

****

Прикосновение... Оно бывает разным.
Одно мгновение и кажется всё праздным.
Одно мгновение, одно. Не много.
Судьбы решение и дальняя дорога.
Губами прикоснусь к твоим глазам однажды,
Как будто бы напьюсь, спасусь от жажды.
Прикосновение. Оно бывает нежным.
И откровение — всему начало.
Преодоление всего сначала.
Давайте находить источники живые,
Чтоб счастьем напоить сердца людские.

****

Как мне боль твою взять без остатка,
Как помочь, уберечь, спасти?
Есть ли к этой загадке отгадка,
Иль ответа опять не найти?
Лето снова сменяется осенью,
Листья, падая, тихо звенят.
Облака с угасающей просини
Непонятно и грустно глядят.
Как мне боль твою взять без остатка?..

****

Я тебя повстречал нежданно,
А над лесом горел закат.
Ты взглянула, открытой раной
Полыхнул твой пронзительный взгляд.
Подошла, мне на плечи вскинула
Руки снега белее белого,
И весенней водою сгинуло
Одиночество наше несмелое.
... Угасал, замирая, день,
Подаривший немало света,
И в вечернем закате сирень
Нам казалась надеждой рассвета.

****

Я вспомнил вновь тот край далёкий,
Где сосны звонкие стоят,
Где к солнцу тянутся осоки,
Под ветром травы шелестят.

Я вспомнил вновь огни заката
И нашу встречу на лугу,
Твои глаза, как два агата...
Костёр на тихом берегу.

В выси луна плыла над нами,
По небу звёзды разбрелись.
И мы с тобой, сплетясь руками,
Куда-то в светлое неслись...

****

Мне сказала недотрога:
«Уходи же, ради бога...»
Говорит, а сердце бьётся,
В глазах солнышко смеётся:
«Я приду опять».

Пусть шумит, поёт рябина,
Ненаглядная дивчина.
Сердцем май наш повстречать
Я приду опять.

Отзвенело трелью лето.
Ни ответа, ни привета:
Дымкой радужной рассвета
Улетела. Не догнать.

Что за дело, в чём причина?
Осыпается рябина.
Где же ты, моя дивчина?
Я пришёл опять.

# Галіна Нічыпаровіч

*Галіна Міхайлаўна Нічыпаровіч нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Грабава Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Пасля школы лёс закінуў на Уздзеншчыну, дзе жыве па сённяшні дзень. Больш трыццаці гадоў працавала паштальёнам.*

*Друкуецца ў раённай газеце. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, раённага літаратурнага аб'яднання "Нёманец" і абласнога клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца".*



## Цяпло роднага дома

Першыя крокі, першыя словы,
Першыя гукі роднае мовы
Ды павучанні матулі і таты –
Гэта і вабіць да роднае хаты.
Дзе засталіся мары, надзеі,
Першых пачуццяў далёкіх падзеі.
Вуснамі я прыпаду да крынічкі –
Б'ецца яшчэ тут струмень невялічкі.
Гэта крынічка дзіцячых жаданняў,
Сноў каляровых і першых прызнанняў.
Кожны куточак роднае хаты
Грэе бы рукі матулі і таты.

## Мая Белая Русь

Барвова-чырвоны ранак
Устае над Радзімай маёй.
Нясе асалоду світанак
І вабіць сваёй чысцінёй.
Дзе Нёман пяшчотна-лагодны,
Вярба пахілілася долу,
Жыве беларус тут свабодны –
На гэта не трэба дазволу.
За полем крынічка бруіцца,
І лотаць цвіце на балоце.
Я буду душою маліцца,
Каб дні не прайшлі ў самоце.
Край любы, табой ганаруся,
Нашу гэту веліч у сэрцы.
У любові я той прызнаюся.
Што Белаю Руссю завецца.

# Беларусь – азёрная старонка

Навальніца над зямлёю праляцела,
І маланка апаліла небакрай.
Абнавілася прырода і зазіхацела.
Родны кут, чароўны, светлы рай!
Неабсяжныя прасторы цешаць сэрца,
У палон забрала наваколле.
І куды б я ні паехала, здаецца,
Там няма такога вось раздолля.
Любы край – лясы, палі і рэкі.
Беларусь – азёрная старонка!
Зернем поўняцца твае засекі,
І пра гэта льецца песня звонка.

# Незабыўнае

Вайны жахлівыя карціны –
Не ў кніжках я пра іх чытала,
А па расказах таты знала
Тых страшных дзён аскал звярыны.
Кантузія, бамбёжкі, страты
І перадышкі між баямі,
Як вёрстамі вайны з байцамі
Ён крочыў дзень за днём дахаты.
І на вачах блішчалі слёзы,
Калі прыпамінаў сястрычку
(Дзве коскі, ростам невялічка) –
Яе хавалі ля бярозы.
Пад куляў свіст і кананаду
Ён поўз, паранены, паўсутак,
З-пад мін у яме быў прытулак,
А побач рваліся снарады.
Палітая крывёю паўшых,
Зямля стагнала, пасівела,
Яна ад гора аўдавела,
Уся ў крыжах чужых і нашых...
І я, маленькая дзяўчынка.
Са страху кулачкі сціскала,
У вочы тату пазірала,
А па шчацэ цякла слязінка.

# Салдат вайны

Разважнай стомленай хадою
Ішоў няспешна чалавек,
Бо за плячамі – доўгі век
І дум нямерана з тугою.
Спярша кіёчкам мераў сцежку,
Затым рабіў нясмела крок,
Нібы адцягваў ён знарок
Сустрэчу з сябрам на ўзмежку.
Спачыць спыніўся на хвіліну.
Даносіў вецер шум лістоты:
У шуме радасці й самоты
Было, бадай, напалавіну.
Ён памятае ліхалецце
Тае страшэннае вайны:
Ад вёскі толькі каміны
Ды дрэў абгаранае вецце.
Каля дубочка маладога
Трымаў рубеж тады салдат.
Ён кроку не зрабіў назад,
І, вось, сябруюць з часу тога.
Прайшлі гады. Рубцом крывавым
У сэрцы памяць шчэ жыве
Ды звонам медалёў плыве
Нам Перамога ў сорак пятым.

# Кот-хітрун

Бабулю ўсе пакінулі,
Бо скончаны канікулы.
Паехалі ўнукі,
Ім нельга без навукі.
Ды толькі коцік шэры,
Праціснуўшыся ў дзверы,
Ласкава замурлыкаў,
Бабулю ён паклікаў:
“З табою застаюся,
Я вёскі не баюся.
Дасі папіць, паесці.
А трэба, злаўлю мышку,
Залезу я на вышкі.
Ты не сумуй, не трэба
Лепш пакладзі мне хлеба,
Смятанкі, рыбкі, мяска.
Бабулька, калі ласка!”



# Антон Піліпчык



Антон Сямёнавіч Піліпчык нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Сухары Шчучынскага раёна.

Скончыў журфак БДУ і аддзяленне друку, радыё і тэлебачання Мінскай ВПШ.

Працаваў у рэдакцыях Шчучынскай, Астравецкай раённых газет, а з кастрычніка 1979 года па цяперашні час – у Іўеўскай "раёнцы" .

Друкаваліся вершы ў рэспубліканскіх, абласных і раённых газетах, штогодніку "Галасы", часопісе "Беларусь". У перыядычным друку змяшчаліся таксама гумарэскі і апавяданні. У прыватнасці, у газеце "Звязда" былі надрукаваны такія творы, як "Кампенсацыя" і "Амністыя", у газеце "Рэспубліка" – "Патрапаны "Масквіч", а ў альманаху "Вожык" – "Хведараў бізнес".

## Іўе

Старажытнае мястэчка...
Пляц гандлёвы, храмы, млын,
Серабрыстай стужкай рэчка
Ледзь бруіцца ўдалячынь.
Рукатворнае азерца
Ў хвалях песціць сонца дыск.
То журба ахопіць сэрца –
У неба ўзнёсся абеліск.
Вось і ўсё, здаецца, болей
Што б узрушыла – няма.
Як і ўсюды: крамы, школы,
І ларкоў прыватных цьма.
Як прыкмета дзён – навокал,
Дзе пустэльня век была,
Паўзнімаліся высока
Гмахі "царскага сяла"...
Іўе!.. Вулкаю наранку
Крочу рады і ўлюбёны –
У жыццё і ў іўяўчанку,
У каштаны, ліпы, клёны.
Хай жа новыя ў прасцягі
Над табой плывуць стагоддзі,
І заўжды красуй пад сцягам
Шчасця, годнасці і згоды!

## Горад Іўе

Старажытны горад Іўе,
Вулачкі, завулкі...
Тут мае завеі, ліўні,
Цёплыя прытулкі.
Тут мне міла-люба ўсё,
Сэрцу дарагое —
І рабін густы касцёр
Восеньскай парою;
І вясной чаромхі бель,
Цуда-птушкі пошчак;
І ў любы на тыдні дзень
З працьмай люду плошча;
І з гаючаю вадой
Дзіўная крыніца;
І азерца з дзетварой,
Прагнай весяліцца;
І высокі абеліск
З зоркаю барвовай;
І рыштункі на ўскраі
Новых забудоваў...
Тут мне сонечна, праменна,
Светла на душы...
Папусціў я тут карэнне
Моцна, назаўжды.

Іўеўшчына літаратурная

## Нёману

Я, відаць, не забуду ніколі
Сцежак, Нёман, к табе на парог –
Твой душою з маленства нявольнік,
І такім застануся, дасць бог.
Думкі ў хвалях свае тут люляю –
Ці я ў радасці, ці я ў журбе.
Беларусі маёй не ўяўляю,
Нёман-бацюхна, я без цябе.

## Іўеўчанка

Залоцяць дахі промні ранка –
На працу дзень усіх заве.
А мне насустрач – іўеўчанка,
Усмешкай сэрца саграе.
Шукаю ў водблеску заранка
Імя яе і не знаходжу.
Ах, іўеўчанка, іўеўчанка!
Як рад, што вулкай маёй ходзіш.
Дзень цэлы ў працы я згараю –
Работа ладзіцца, пяе.
А мо ля возера чакае
Дзесць іўеўчаначка мяне?
Прамень вясновага заранка –
Красуня з бантам у касе.
Ах, іўеўчанка, іўеўчанка!
Ты – мае мары й думкі ўсе.
Я разам з ёю да світанка
Ўсе ў небе зоркі палічу.
Мне стане жонкай іўеўчанка –
Я шчыра гэтага хачу.
Душа асветлена зіяннем
Вясёлкі ў ранішняй расе.
Ах, іўеўчанка, іўеўчанка!
Ты – мае мары й думкі ўсе.
...А час ляціць, дзяўчынку з бантам
Гушкаю к сонцу на руках.
Мая дачушка – іўеўчанка,
Расці на радасць, мой працяг!
Ах, іўеўчанка, іўеўчанка!
Ты – мае мары й думкі ўсе.
Імя – на водбліску заранка,
Сустрэнеш – дзівішся красе.

## Геранёны

Скажаш: “Геранёны”...
І – падхопяць гоні
Водгукі напеўныя туташніх бароў...
Жыгімонт, Барбара, зёлкі Бона варыць,
Каб у сына з сэрца вытравіць любоў...
Крочу Геранёнамі, у думках Гера з Нонаю,
Сёстры, закаханыя марна без надзей...
Падалося – стрэліся, ружамі ўзгарэліся
І сказалі ветліва: “Добры, пане, дзень”...
Тут паўсюль вітае даўніна сівая.
Вёска старажытная з маладымі снамі.
Песенькі народныя, танцы карагодныя
Чутны між касцельнымі бітымі званамі.
Славяць Геранёны вершамі Алёны...
Самародкі таленты ад пявунняў мам...
Усё наўкол абжытае, ўскрай жаўцее жытамі...
“Залатою зоркаю” ўквеціў вёску Баум...
Пакланюся нізка я зорцы абеліскавай...
Куля каб варожая болей тут не візгнула.
Хараство ўрачыстае каб хадой вячыстаю
Сіняй хваляй возера мне душу захліснула...

## О, Нёман-бацька...

Сівая плынь, высокі бераг...
З маленства вобраз дарагі.
Як і калісць, з надзеяй, верай
Імчу да любай мне ракі.
О, Нёман-бацька! Зноў, дай, кіну
На хвалі кветкавы вянок.
Святлом мо прыйдзе ва ўспаміны,
Каго кахаў, але не змог
Адкрыцца з тайнаю сваёю...
О, Нёман-бацька! То ж з тваіх
Глыбінь чарпалі даланёю
Лагоду й шчасце на дваіх...
Высокі бераг, плынь сівая...
Гады злятаюць і вякі.
А я – кахаю і чакаю
Сустрэчы з любай ля ракі.

## Іўе

Іўе. Звонкая крынічка.
Птахаў райскіх спевы ў вішняку.
Нібы каралева, маладзічка
Ў вузенькім завулку-тупіку…
Спее, дзе татары, арабіна,
Возера пагушквае плыўца…
Іўе – горад руж і кут палынны,
Гучная метафара жыцця…
Іўе! Мчу к табе любой парою,
У крылы шматабсяжныя твае,
І няхай нацятаю струною
Не смуткуе сэрца, а пяе.

## Беларусі

З першым, лагодным
матуліным словам,
з цяплом і пяшчотай
мазолістых рук,
з зыркім, жаданым
сонцам вясновым,
з песняй,
што ў высі
выводзіць жаўрук,
з гоманам родных
палёў і разлогаў,
з плёскатам ціхім
сінеючых рэк —
ты ў маё сэрца
ўвайшла назаўсёды
любай
і самай
найлепшай навек!

## Беларусь мая

Захапляе-заварожвае
Пушчаў, рэк, азёр зямля…
Ах, якая ты прыгожая,
Беларусь мая!
Між Літвою, Украінаю…
Для ўсіх нацый ты свая…
Ах, якая ты гасцінная,
Беларусь мая!
Дыхту ўсім давала ворагам —
Зблізку лезлі ці здаля…
Ты адвеку непакорная,
Беларусь мая!
Сваё месца між народамі
Ты пачэсна заняла…
Сёння — вольная, свабодная
Беларусь мая!
Ў садзе песня салаўіная…
Не стрымаць мне пачуцця…
Ты да болю сэрцу мілая,
Беларусь мая!
У бары зязюляй казана
Доля светлая твая…
Пра цябе шмат песен складзена,
Хай гучыць яшчэ й мая!

## Ісціна

Мае ўсе крокі па Зямлі —
дайсці да ісціны,
знайсці якую не змаглі,
аднойчы высніўшы.
Яна, як сонца
промень весні,
святла й цяпла —
каб колас рос…
Яна, бы гук
світальнай песні, —
кранальны аж да слёз.
Яна — адчайны бляск вачэй
І неадступных думак мроі.
Яна — бяссонніца начэй,
і боль — даўнішні,
незагойны…

Лірычная літаратурная

## Ля Немана

Накочваюць хвалі на бераг высокі,
Люляецца бор у люстэрку ракі.
Ў сцішаным плёсе між лісця асокі
Блукае яснюткіх нябёсаў блакіт.
О, бацюхна-Нёман! З маленства чаруеш
Красой непаўторнаю сэрца маё.
То коціш ты вольна, то ў скрусе віруеш
Між пушчаў дрымучых, жытнёвых палёў.
На шчасце, як колісь, з надзеяй кідаю
Ў імклівую плынь васількова вянок.
Прайшло колькі год, а я ўсё чакаю,
Каго так кахаў, а спаткацца не мог.
Бывае, часам вельмі трэба
Прачуцца ўсёй да тла душой,
Што самы мілы ўскрайчык неба —
Над хатай бацькавай старой.
Як сон — бясхмарны, сіні-сіні,
Бы ў жыце спелы васілёк...
Ускіну толькі ўвысь вачыма —
І ён мне бачыцца здалёк.

## Лета

Наліўся зернем каласок
за вёскаю на ўзгорку.
Густым грабеньчыкам лясок
счасаў у рэчку зорку.
Вясёлка пасмачкі ў ваду
адмыць ад пылу апусціла.
А рэшткі кропель на руку
мне хмарка нізкая скаціла...
Усе гэта — лета, ява й сны,
гаючы водар майго краю.
Тут здобіць Нёман шыр зямны,
і я валошкі тут збіраю...

## Вечарам

Вечар. У зорах нябёсы,
ветрык-свяжак мой аблашчвае твар.
Крочыцца лёгка. Прастор — безгалосы.
Хочацца ж казак, дзівосаў і чар.
Сцежка, ледзь бачная, змейкаю ўецца —
веру, вядзе мяне к сонцу і дню.
Песняю звонкаю поўніцца сэрца –
ёю, вазьму, ускалыхну цішыню...
Безліч адолею ў суцемках вёрстаў –
стану, мо, раптам я іншы душой?
Можа, на момант забудзецца ростань,
сэрца і сёння шчыміць ад якой?..
Ведаю: з іншым Яна. Не гукаю,
хоць зноў пачуццяў праз верх...
Любая, мілая і маладая
ўбачыцца ў снах. Сумны выспее верш...
... Вечар. У зорах нябёсы,
ветрык-свяжак мой аблашчвае твар.
Крочыцца лёгка. Прастор безгалосы.
Хочацца ж казак, дзівосаў і чар.

## Сцежкай

Сцежкай — тваёй і маёю калісьці —
зараз хаджу я штодня.
З крокам я кожным бліжэю да ісціны:
ёсць мы, і — нас ужо болей няма...
Ёсць мы ў вясне той, і з сонечных тоняў
п'ём не нап'ёмся вянчальных мелодый.
Нібыта пялёсткі, ў гуках іх тонем,
поўныя ціхай і светлай лагоды.
Вусны ўсміхаюцца, вочы іскрацца,
тахкаюць сэрцы два ўсхвалявана.
Смага адзінага — веры і шчасця...
Зведаць іх толькі не наканавана.
...Сцежкай — тваёй і маёю калісьці —
поўны ўспамінаў хаджу я штодня...
З крокам я кожным бліжэю да ісціны:
ёсць мы, і — нас ужо болей няма...

# Прапашчы Іван

Вятрыска шалёны на доме Івана
ўзлахмаціў, як пер'е на курыцы, дах.
Узлез на яго гаспадар раным-рана,
работы — святок, аж агортвае жах...
Глядзіць зверху ўніз — як вымер,
падворак.
"Дзе ж дзелася жонка?.. Мо, што б памагла?"
І раптам ён бачыць: крадком ад Ягора —
суседа праз вуліцу — трух-трух,
прыйшла...
Іван весь заззяў:
— Да часу, Марыська!.. А дзе жэ піла?
— Ай-вай!.. У Я-го-ра...
— Чаму жа дала?
— Прыстаў, чмель звінючы, нібыта смала...
Ніяк адкарастацца я не магла...
Ай-вай, маё ж гора!...
— Давай назад, скора...
Каб пілка ў мяне ўраз была пад рукою!
— Ага!.. Ты... пілой заклапочан...
пілою?!..
А мне, неразумнай, здалося... А мне...!?
Вісіць жа ў каморцы піла... на сцяне!
Я зараз... Я зараз, міленькі, падам!..
Прапаў бы зусім без мяне ты, Іван...
...Прад мужам Марыська ўжо так шчыравала!..
Ці ў чым было трэба, ці не — падсабляла...
У цэлае вёскі ва ўсіх на вачах
"сямейным падрадам" адноўлен быў мігам
вятрыскам няшчадна ўзлахмачаны дах...

Зрабіў той рамонт на вёску фурор.
Такое было яшчэ дзіва:
Расхвальваў за здольнасць суседа Ягор,
Марыську ж хваліў — асабліва...

# Амністыя...

У канторы, цьмянай, пракуранай, з адным усяго, ды і тым зашмальцованым, столікам і не лепшым крэслам, брыгадзір падвёў Алеся да вузенькага акенца і паказаў на шырокую за замурзанымі шыбкамі панараму наваколля.

— Зглядзеў вунь ферму? Адпрацоўваць свой дзень... як іх там, называеш?... грамадскіх аплатных работ пойдзеш туды. Вось-вось ля кармакухні павінен аб'явіцца цікавы малады чалавек. З пілою ён будзе... Парэжаце які пяток бярвенняў...

"Цікавага маладога чалавека" Алесю доўга чакаць не давялося.

— Хімік... Лёнікам мяне завуць, — падаў руку на знаёмства цыбаты, каротка пастрыжаны мужчына.

— Накіраванец службы занятасці, — сказаў, назваўшы сваё імя, не разумеючы, аднак, што канкрэтна азначае Лёнікава "хімік", Алесь.

А Лёнік не стаў марудзіць з выкананнем работы. Адразу занёс пілу на бервяно, якое Алесь яшчэ да яго прыходу прымасціў на іншых так, каб, пілуючы, асабліва не трэба было згінацца, і яны пачалі туды–сюды цягаць "Дружбу-2". Толькі ў драўніну піла угрызалася неахвотна.

— Тыр-р! — не вытрымаў Лёнік. — Ну яе к д'яблу! На той свет нас загоніць, — у ягоных руках аднекуль апынуліся пласкагубцы. Імі Лёнік пачаў спрытна расхіляць зубы пілы:

— Разгону яна ж амаль не мае. Гэтую яе хваробу я яшчэ ўчора прыгледзеў. З адным дзедам тут пілаваў. Ды палячыць не меў чым...

— А "хімік" — гэта... Ну, прафесія, спецыяльнасць?..

— Хімікамі, пара ведаць, называюць тых, хто на вольным пасяленні... Асуджаных, значыцца, — не хаваючы свайго здзіўлення няведаннем дзіваком-чалавекам агульнавядомага, патлумачыў Лёнік. Зрабіўшы невялічкую паўзу, ён прадоўжыў:

— Ты, Алесь, вось, у службе занятасці на ўліку стаіш. Скарацілі цябе, я так мяркую. Цяпер так модна пазбаўляцца ад непажаданых... А чым па сваім, так бы мовіць, статусе, скажы, лепш пачуваеш за мяне? Га?.. Табе гэтаксама трэба рэгулярна адзначацца, з накіраваннем хадзіць па арганізацыях і клянчыць, каб работу далі. Інакш грашовай дапамогі... Ды якой яе там!.. Як той кот наплакаў. Не ўбачыш...

Алесь толькі зыркнуў на Лёніка. А тым часам "хімік" ужо апрабаваў пілу на бервяне і падаў каманду:

— Ну, паехалі!.. Во, цяпер яна, зараза, перастане нас мэнчыць. Палезе, як у кашу...

"Дружба-2" і сапраўды зашахкала весялей, лягчэй. Папілавалі яны на кароценькія калодачкі адно бервяно, прыняліся рэзаць другое...

— Лёнік, прывітанне!.. Цябе і сёння запрэглі ў пільшчыкі–дрывасекі?..

Абодва яны павярнулі галовы ў той бок, адкуль данеслася звонкае жаночае "прывітанне!", і ўбачылі: вялізны вісячы замок на дзвярах адмыкае сімпатычная дзяўчына.

— Гэта Ларыска. Яна з даярак, але цяпер падмяняе захварэлую загадчыцу. А тут размяшчаецца кармакухня, пойла для цялят гатуюць. Для гэтага, вось, і патрэбны дровы, — напаўголаса пачаў уводзіць Алеся ў курс справы Лёнік. Ён раптам пакінуў пілу і накіраваўся ў памяшканне, дзверы ў якое былі ўжо расчынены насцеж.

"Ну, наклёўваецца любоў!", — падумалася грэшным чынам Алесю.

У дзвярным праёме кармакухні нельга было не заўважыць не надта высокую кадушку, напоўненую нечым белым. Што гэта малако, Алесь здагадаўся толькі тады, калі ўбачыў: яго напарнік па нарыхтоўцы дроў для фермы залпам выхлебаў "белага" аж тры кубкі.

— Можна лічыць, што я паснедаў, — сказаў, вярнуўшыся да пілы і выцершы рукавом курткі вусны, Лёнік. Яны зноў пачалі пілаваць.

— А не зашкодзіць? Кадушачка ж вунь якая...

— Брудная? А я і ўчора з яе піў. Нічога, нармальненька... Не бойся, не пройме... Маленькіх цялятак памыямі ж не пояць.

— Ну, а як усё ж да вольнага пасялення дажыўся? — без дыпламатыі запытаў Алесь.

— Думаю, што зусім не гэтак, як ты да свайго скарачэння..., — не трымаўся далікатнасці ў размове і Лёнік.

— А! — рэзка выдыхнуў ён. — Жонка ўпякла... Праўда, цяпер ужо — былая. Развёўся з нягодніцай...

— А не пагарачыўся?

— Не! О, не... Падумай, дружа... Пэўна ж, сам будзеш жанаты?..

Алесь кіўнуў галавою. Лёнік, разглядваючы ўважліва суразмоўцу, распаліўся:

— Даме свайго сэрца па лупсяках хоць разочак калі з'ездзіў? І што — адразу ў суд яна бегла? Га?.. — у Лёнікавым голасе задрыжэлі і абурэнне, і крыўда. — Я сваёй не хочучы таўкануў...

— Хто каго любіць, той таго і чубіць... — Алесь глянуў Лёніку ў твар — што на гэта ён скажа?

— Проста так выйшла... У сябра дзень нараджэння быў. Пасля работы засталіся трошкі адзначыць. Ну, і хапянуў я парадкам. Дамоў заяўляюся — яна і папёрла на мяне: "А ўжо нейкую сабе завёў!.." І на мяне з кулакамі. Я і адмахнуўся, нібы ад надакучлівай мухі. А яна, брыдота, што робіць? Га?.. Тут жа тэлефануе да сваёй маці: "Запіў, загуляў, позна прыцёгся, забівае, а-я-яй!..". Чорт ведама чаго набрахала. А тая — у міліцыю... І прышылі мне, а божачка ты мой!.. і тое, і гэта.... Надта ж старалася цешча... І я вось ужо гадок "адхімічыў"...

— Бач ты, як яно ў жыцці бывае?!.. — паспачуваў Лёніку напарнік.

— З усякім усё можа здарыцца, — разважыў ён. — У народзе нездарма ж кажуць: астрогу бойся, хваробы сцеражыся, торбы не цурайся...

— А нашчадкі вашы цяпер як?..

— Дзеці? Не даў Бог імі абзавесціся... Мы ж і двух гадоў не пажылі. Яна было зацяжарала, ды з нядобрымі справамі трапіла ў бальніцу... А! Нашых мужчынскіх мазгоў часам бывае, мусіць, мала, каб зразумець, што такое жанчына...

Некалькі калодак, але ўжо моўчкі, яны адпілавалі яшчэ. Нечакана заявіўся пасланец ад брыгадзіра і перадаў просьбу тэрмінова "перадыслакавацца" на суседнюю жывёлагадоўчую ферму — прыбыць, маўляў, у распараджэнне тамашняй загадчыцы, выпратаць з-пад маленькіх цялятак гной...

— Каб не мы, “хімікі”, то ў гэтай гаспадарцы, далібог, не было б каму рабіць… Свае да працы не ірвуцца. Ды і колькі тых працаздольных у вёсках цяпер засталося?!.. І тыя самагнёт ціснуць і без меры жлукцяць, — тлумачыў Лёнік па дарозе да новага месца работы Алесю. А неўзабаве “хіміка” ужо ледзь не абдымала загадчыца фермы — гэтак жанчына, вострая, як адразу звярнуў ўвагу Алесь, на язычок, узрадавалася прыбыццю ўпадабанага ёю, па ўсім было бачна, не сёння добрасумленнага надзейнага памочніка. Ды яшчэ ж і не аднаго!

— А хто будзе гэты чалавек? — палезла яна адразу ў роспыты. — Разам з табою таксама адбывае? Можа і ён сваю кралю адмалацiў?... Ха – ха – ха!..

Лёнік, канешне ж, зразумеў, у чый гародчык кіраўнік фермы шпурлянула каменьчык. Але не пакрыўдзіўся, смяяўся разам. Алесь маўчаў.

— Не! — сказаў Лёнік сваёй прыяцельцы. — Алесь тут ад “біржы працы”. Адшчыроўвае ўстаноўлены дзень, інакш , кажа, на хлеб і халодную ваду яму не дадуць…

— А!.. Значыцца, ці выкінштэйн яму зрабілі, ці, мо, па дурноце і сам у такі няроўны час работу кінуў. Але, пэўна ж, не без жанчыны абышлося…, — не ўгамоньвалася з падагульненнямі і высновамі загадчыца.

— Скарочаны! Проста скарочаны… — толькі і паспеў уставіць пра сябе Алесь. Загадчыца фермы, адчуўшы свой верх, і далей па словы ў кішэнь не лезла:

— А, відаць, не на цяжкай рабоце быў. Ручанькі–то — чысценькія. Не такія ўкачаныя, як у нас з табою, Лёнік! Нічога, зараз не лепшымі за нашы стануць… Бярэмце, мужычкі, вілы і айда са мной. Гнаятус — на палятус… Вось такая рабацёнка зачакалася вас…

Калі ўсё, што патрабавалася, “мужычкі”, зрабілі, Лёнік, перад тым, як разысціся па дамах, прызнаўся Алесю:

— Хоць, ведаеш, і брыдкавата будзе казаць, але…, — ён паказаў на разбухлае рукаво курткі. — Во! Спагадлівыя тутэйшыя жанчынкі–даярачкі літровую бутэлечку сырадою ўдружылі. Пракіпячу, з макаронай за мілую душу пойдзе… Павячэраю, значыцца, сёння таксама на халяву… На “хіміі”, каб ведаў, не кормяць. Сам сябе павінен харчам забяспечваць… А ў гэтым сельгаскааператыве, як з дня ў дзень ні шчыруй, на больш, як семдзесят тысёнцаў зарплаты ў месяц, не разлічвай… Мне ж яшчэ, браток, да глыбокай восені адбываць, — у вачах Лёніка заблішчэў сум.

— А можа, дасць Бог, меней. А раптам якая амністыя выйдзе?.. Заўсёды ж трэба спадзявацца на лепшае, — прарэагаваў на поўныя роспачы Лёнікавы словы Алесь.

— “Амнистия, амнистия… Меня судьба обчистила…”, — не то напяваць, не то проста дэкламаваць пачаў раптам узрушаны Лёнік. Алесь хацеў сказаць яму штосьці суцяшальнае, лагоднае на розвіт, але не паспеў. Ля самых іх — адкуль толькі і ўзяўся? — з візгам затармазіў беленькі “жыгулёнак”. З яго літаральна выкулілася і кінулася да Лёніка, аберуч абхапіла яго за шыю пекная кабетка.

— Вось ты куды забраўся!.. Ледзь-ледзь адшукала… Лёнічак, любы мой, дрэнна мне без цябе… Дурная была, мамку неразумную паслухала… Я ўжо вось год, як зусім не сплю па начах… Табе харчу прывезла, лепшага апранку прыхапіла… Смуткую, родненькі, дарагі!.. Чакаю-недачакаюся…

Жанчына ўткнулася тварам Лёніку ў грудзі, яе плечы сталі ўздрыгваць. Той, адною рукою тулячы яе да сябе, другую падаў Алесю на развітанне, пры гэтым загаварыў да яго амаль шэптам, мякка, але неяк і ганарова:

— Ну, вось, здаецца, і напрарочыў ты мне, Алеська, амністыю… Самую чаканую!.. Разумееш?.. Гэтая паненачка, думаю, ты ўжо здагадаўся, — мая тая самая непуцёвая … Ах і люблю ж я цябе!..

Апошнія Лёнікавы словы былі гучнымі, нібы ўдарылі ў звон, і адрасаваліся ўжо, канешне ж, не Алесю.

Алесь узяў кірунак дамоў.

Ідучы, дзе віхлявымі сцежкамі, дзе напрамкі цераз палеткі, у сваёй руцэ ён яшчэ доўга адчуваў нейкае асаблівае цяпло развітальнага поціску Лёнікавай. І ніяк не адставалі ад яго думкі пра гэтага зусім не дрэннага чалавека. Яго проста бязлітасна жорстка лупянуў лёс!.. “Меня судьба обчистила”, — згадалася з болем Лёнікава распеўнае дэкламаванне. Алесю раптам і вельмі захацелася, каб па гэтым зусім бяскрыўдным “хіміку” і сапраўды выйшла якая амністыя, каб паразумеўся ён са сваёю жонкай, а яшчэ — каб Бог даў ім шмат дзетак…

А неўзабаве Алесь падлавіў сябе ўжо на тым, што з-за адпрацаванага “дня грамадскіх аплатных работ” яму прыемна не меней. Будзе налічана грашовая дапамога!.. Няхай нават такая, як і выказаўся Лёнік — нібы той кот наплакаў. Але ж і ягоная адзіная, можа, ужо перастане, ледзь што, усяляк плявузгаць пра яго скарачэнне. А то, як той казаў, і днём і ноччу не сціхае: “А ты, мусіць, супраць начальства ішоў. Трэба ж было прыкілзваць язычок…”. “А ты, мусіць, не стараўся ў працы, лынды біў…”. “А ты, мусіць…”, “А ты, мусіць…” І хай Бог сцеражэ! Цяпер, бач, возьме таксама амнісціруе…

# Хведараў бізнес

Адзінокі вясковы пенсіянер Хведар Дылька не гібеў у нястачы, але і ў багацці не купаўся, а хацелася ж яму мецца шыкоўна, і чалавек зарэгціўся зрабіць бізнес... на сабаках.

– Некалі я ў пагранчасці служыў, кінолагам быў, – даводзіў ён суседу Міколу Ахрэмчыку, калі той здзівіўся паяўленню на падворку ў Дылькі адразу аж чатырох шчанюкоў. – Дрэсіраваць буду, абучаць і прадаваць... У мяне ў войску сабака не толькі след парушальніка граніцы ўмомант браў, імгненна адшукваў яго і валіў, як сноп, але і хадзіў на дзвюхлапах, вітаўся, як мы вось з табою, і пры гэтым толькі правую падаваў, папярэдне яе абцёршы...

– Вось табе на! – з усмехам выгукнуў Мікола.

Такой рэакцыяй суседа на сваю задумку і выбар "сваёй справы" Хведар, безумоўна ж, не задаволіўся.

– А ты не восьтабенакай! – сказаў. – Падумай, што потым запяеш, калі гэтыя цюлікі кончаць маю школку і будуць, нібы акрабаты ў цырку, выштукольвацца?.. Такога і сам захочаш мець. Апе я, знай, за так не аддам!... Толькі за "зялёненькія"...

– Ну-ну... Гадуй, дрэсіруй, устаўляй ім свой розум... Пэўна ж, насячэш "бабак"... Бізнес то нетрадыцыйны..., – у душы сусед, канешне ж, яшчэ вастрэй пасмяяўся з дзівака: "На старасць з глузду з'ехаў. На сабаках, ці бачыў ты, ён разбагацее... Каб ды ні так!..".

– І не сумнявайся..., – адстойваў свае Хведар. – Вунь адзін тут – чуў? – каўказскую аўчарачку сабе завёў. За колькі - ці ведаеш? Процьму баксаў убухаў... Аграмадны вальер стаўляў... Але ягоная псіна днём і ноччу за сеткай, як звар'яцелая, носіцца і на ўсіх і на ўсё гыр-р-р, ды гыр-р-р... А чаму? Не абучаная, нявыхаваная... То-та ж!.. А мае ж будуць вышкалераныя... Без каманды нават і не сапнуць...

– Ну-ну, дажыць бы і пабачыць... Асабліва, калі заграшывееш.., – завяршаў размову Ахрэмчык, усміхаючыся крыва.

Але ні хто іншы, як Мікола – дзіва ж, дом цераз вуліцу – неўзабаве ўжо з зайздрасцю цікаваў, як усякі са шчанюкоў, нібы той японскі робат, што толькі ні вырабляў перад Хведарам па ягоных загадах. Стрымгалоў нёс свайму гаспадару кіёк у зубах, які той кідаў чым найдалей, ці ўвогуле хаваў дзе-небудзь у садку; бясстрашна караскаўся па бярвенні, узнятым на слупы даволі высока над зямлёю; скакаў цераз перашкоду, нават, калі тая гарэла; хадзіў на задніх лапах і прытанцоўваў так сама, як і яго выхавацель, падаваў сапраўды правую для здароўкання лапу; клаўся каля чаго-небудзь, і – ні з месца, калі Хведар загадваў пільнаваць... "Кінолаг" – толькі так з гэтага часу і называў Ахрэмчык свайго суседа – аднойчы зазваў яго на свой "вучэбны палігончык" і папрасіў апрануць бурнос з доўгімі, аж да самай зямлі, рукавамі і з-за хлеўчука дацца наўцёк. Мікола не паспеў і колькі разоў прасеменіць нагамі, як пасля Дылькавай каманды "фас!" быў літаральна збіты на дол скочыўшым на плечы барбосікам. Хведар тады рэзка і ва ўсю моц крыкнуў "фу!", і "ганчак" разлёгся мірна з "затрыманым" Міколам побач, але на малейшы ягоны рух агрэсіўна бурчэў... Праз дзён колькі Дылька, зазірнуўшы да Ахрэмчыка ў жытло, прапанаваў:

– Мо, паціху звалачомся, сусед, да крамы?.. Піўка пап'ём... Я ж завінаваціўся табе за падмогу ў абучэнні цюцькаў. Ты ж гэтак аб зямлю бразнуўся!.. Я сёння, во, як раз пенсію атрымаў...

Ці ж хто адмовіцца ад дармовага!..

І туды, і назад на здзіў Міколу адзін з "чатырохногіх сяброў чалавека" у зубах нёс Хведараву авоську. Ну, да магазіна – хай сабе. Парожнюю ж. А дамоў – дык набічкаваную прадуктамі: хлебам, соллю, цукрам, макаронамі, крупамі, алеем... Як такое можа не ўразіць?

– Ну ты, сусед, і педагог! Самы што ні на ёсць прафесар!.. Бачу, сабачую псіхалогію і мову іхнюю ты сапраўды як мае быць спасцігнуў... Такі во груз валачэ!.. Як чорт добрую душу.., – Мікола ліслівіў Хведару. Яшчэ б, той у мроі аб будучым добрым навары ад пайшоўшага, як па маслу, сабакавыхавання замест дакляраванага піўка не пашкадаваў ладнай долі сваёй сціплай пенсіі і на дарагое "чарніла"...

З лёгкага языка Ахрэмчыка хутка ўся вёска ведала, якія разумныя, забаўныя растуць, прычым як на дражджах, у Хведара барбосы. Высокі імідж знешне звычайных дварнякаў імгненна аброс неверагоднымі размовамі. Напрыклад, што яны ў Дылькі ўжо ледзь ці не лыжкай з міскі сёрбаюць, і нават, як мядзведзі ў цырку, на веласіпедзе ездзяць, а таксама – венікамі падворак падмятаюць...

Калі са сваімі падапечнымі Хведар ладзіў чарговыя заняткі – настойліва замацоўваў, як сцвярджаў, рэфлексы і развіваў прыроджаныя інстынкты, – вароты і плот ад вуліцы былі літаральна ўвешаны дзецьмі. Бацькі, што наляталі гнаць сваіх вундэркіндаў вучыць урокі, і тыя, паразяўляўшы раты, затрымліваліся надоўга – забываліся часам, чаго і прыпёрліся...

Дачуўшыся пра паспяховую сабачую школку Дылькі, спецыяльна прыехаў паглядзець і старшыня мясцовага сельгаскааператыву, і аднаго прыткага цюцька ўсё-такі ўпадабаў сабе, загарэўся быў купіць у той жа момант, ды Хведар вырашыў не спяшаць, перш разабрацца з цаной – каб не прагадаць.

– Ведаеце, – сказаў, – зіма на носе, а я "звяругу" хацеў бы прыцерці і да паляўнічай справы... Зайцы, лісы, курапаткі, захочацца ж... Грунтоўна, трывала хай засвоіць ужо ўсю праграму. Каб потым было без збояў... Карацей, вясною старгуемся...

Зіма неўзабаве як пачалася, так і скончылася. Крыху люты пастрашыў маразамі і, як мае быць, ужо запахла вясною. Пасля ночы, неяк, Дылька адпірае ўваходныя дзверы дома, вызірквае на падворак – у будках, якія для сваіх выхаванцаў змайстраваў у стылі шанхайскіх пабудоў, нішто не варушыцца...?! Толькі матузкі, якія для сабак былі прывяззю, на ветрыку цялепкаюцца... "Ой-вой-вой! Скралі мой жывы ды ўжо паспелы да рэалізацыі тавар нейкія прахвосты!.." – жахнула маланкай у галаве. Неба яму быццам пацямнела. Сэрца сталі апякаць то холад, то полымя. "Ой-вой-вой! Накрыўся твой бізнес на барбосах, Хвядорка, медным тазам...", – з адчаю ўздыхнуў цяжка, аж прыплюшчыў павільгатнелыя вочы. Ды раптам пачуў – нешта вішчыць!.. Стаў шворыць вачамі па падворку – дзе і хто? Аж у самым аддаленым куточку сада згледзеў тых, з-за каго толькі што ледзь інфаркт не здарыўся. Ды яшчэ не адных убачыў. Калі прыблізіўся – аж рагатнуў: "нявеста", бачыш, жаніхоў зманіла!.. Злосць разабрала Хведара на прыблуду, схапіў ён кіёк і давай адганяць няпрошаную госцю. Ды тая аказалася не з палахлівага дзесятка – ашчэрылася. У салідарнасць з ёю свае клыкі паказалі, агучыўшы працяжнае, злоснае "гыр-р-р-р...", і ягоныя цюцькі... Баранілкай памахаў і на іх – горш зрабіў. Залётніца разлютавалася і зубамі ўчапілася за калошу штаноў, пачала тузаць. Хведар ні на жарт сумеўся: чаго добрага, усе разам нападуць – не абараніцца будзе, пакусаюць. Што ў такім выпадку трэба рабіць, як былы армейскі кінолаг, ён ведаў. Гэта ўпасці тварам уніз на зямлю і сцішыцца. Сабакі тады ўціхаміруцца і аддаляцца. Дылька так і зрабіў. Ляжыць, прыслухоўваецца, што ж тут будзе далей. Раптам адчуў – па ягоных плячах пацякло нешта цёпленькае... І яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ...

Пакуль дома потым пераапранаўся, злосна раз за разам сплёўваючы, і прыкідваў, як гэта вярнуць на свае месцы свавольнікаў, ад сабачага гурціка ў садзе і след прастыў. Кінуўся шукаць, матнуўся туды-сюды, паклікаў: "Шарык!..", "Бурык!..", "Рэкс!..", "Тузік!.." – дарэмна! Засмучанага, пазмрачнелага, сябе пачаў пасля заспакойваць: "Ат, куды яны дзенуцца – вернуцца...". Але мінула і гадзіна часу, і дзве, ноч надышла, новы дзень настаў – і ні слыху ні дыху. І тыдзень прайшоў, і месяц – тое ж.

Што не стала на падворку ў Дылькі хвалёных вучоных сабак – не засталося па-за ўвагай найперш суседа Ахрэмчыка.

– Няўжо гэта кіроўца сельгаскааператыву ўсіх чатырох купіў?.. Ты ж, здаецца, дакляроўваў яму на вясну?.. – прыжмурыўшыся, з хітраватай усмешкай, дапытваўся Мікола ў Хведара.

"Гіцаль, мо, што бачыў?.. Ці датумкаў?.. Ці проста так некага... з сябе корчыць?", – у няпэўнасці скрушна меркаваў Хведар.

– А ты, глянь, – мастак! – не сунімаўся Ахрэмчык. – Цішком такі тавар збыў, "зялёненькіх" насек мех і спакойненька сядзіш і маўчыш... А калі ж патэпаем на піўко?..

Дылька адказаў Міколу холадна, не таіўся, што не ў духу – каб той адчапіўся:

– Патэпаем!.. Хутка ўжо... Праз дзён колькі табе і мне паштарка пенсіі прынясе... Дык па рубліку скінемся ... І, можа, чаго і лепшага па расіначчы лыкнем...

Неўзабаве з атрыманых пенсій яны і сапраўды скінуліся на паўлітэрка "лепшай". А аб тым, што ў рэшце рэшт атрымалася з "бізнесу", Дылька перад суседам са шкадаваннем разважыў так:

– Бачыш, згубіцелька – банальная і зусім натуральная акалічнасць... Вясна неяк неўпрыкмет наскочыла, а я, недавярак, не пра ўсё падумаў...

– Во! Праўду рэжаш, – згаджаўся захмялелы Мікола.

– У гэткую пару, не сакрэт жа, сабак паўсюль – зграі, а камунальнікі толькі і чакаюць іх... , – адшукаў раптам вінаватых Хведар.

– Бо гэта іх хлеб! – паддакнуў сусед.

– Мая надзея, як ты, Ахрэмчык, трапаўся, заграшывець хутчэй за ўсё і ўцэліла пад мялу ачышчэння гарадоў і весяў ад бадзяжных жывёлін...

– Без пытанняў, так... Інакш, куды ж яны маглі падзецца, твае цюлікі-бедалакі?.. Каб былі дзе жывыя і на волі, то, як той казаў, ці цяпер ці ў чацвер дамоў усядна прыцэндалі б...

– Вярнуліся б, сто працэнтаў... Ім жа ў мяне – о-ё-ёй! – як жылося-былося! Быццам у раі... Я ім нічагусенькі, ты сам быў сведка таму, не шкадаваў...

– Нічога!.. Ды ты душу ўкладваў, не толькі ўсю пенсію... І такое недарэчнае фіяска?!.. Ай-яй!..

– Фіяска... Во! Дакладней не скажаш... Сапраўднае недарэчнае фіяска майго, як ты сказаў, нетрадыцыйнага бізнесу...

# Канстанцін Сіневіч



*Канстанцін Васільевіч Сіневіч нарадзіўся 17 верасня 1938 года ў в. Азяраны Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці ў сям'і селяніна. Працоўную дзейнасць пачаў у 1959 годзе рахункаводам хлебапрыёмнага пункта ў г.п. Наваельня Дзятлаўскага раёна. У 1967 годзе паступіў у БДУ. Пасля заканчэння працаваў на розных пасадах у Карэліцкай, Лідскай, Смаргонскай, Навагрудскай раённых газетах. З мая 1979 года па 1993 год – галоўны рэдактар Іўеўскай раённай газеты "Іўеўскі край".*

*Памёр у 1998 годзе.*

## Песня

Куды б я ні ездзіў, куды б ні хадзіў я,
Нямала прыйшлося пабачыць краін.
Маё дарагое, азёрнае Іўе –
Такі на планеце куточак адзін.

Дахаты вяртаюся, быццам відушчы.
І піша на матчынай мове рука:
«Дзень добры табе, Налібоцкая пушча!
Дазволь асвяжыцца, мой Нёман - рака".

Нібыта ў казцы, наўкол краявіды,
Якою дарогай не йдзі ці не едзь:
Ці з Морына – вёскі, ці з вёскі Дайліды,
Здалёку відаць і касцёл, і мячэць.

Чароўныя вабяць турыстаў мясціны,
А хлопцы спяшаюць красунь аглядаць,
Бо самай прыгожай і лепшай дзяўчыны
За морам не ўдасца парою спаткаць.

Жывуць у пасёлку харошыя людзі.
Адсюль мае дзеці ў навуку пайшлі.
Калі ўжо рукі скрыжую на грудзі,
Мяне пахавайце на гэтай зямлі.

Куды б я ні ездзіў, куды б ні хадзіў я,
Нямала прыйшлося дарог скалясіць.
Маё дарагое і блізкае Іўе,
Да скону з табой бедаваць мне і жыць.

## Это все любовь

Ты еще узнаешь эти муки,
Ты еще узнаешь эту боль,
Если руки есть не просто руки –
Это крылья под твоей судьбой.
Ты еще пройдешь мои дороги,
Ты еще узнаешь тяжесть их,
Если ноги есть не просто ноги,
А опора в жизни на двоих.
Ты еще полюбишь эти губы,
Ты еще услышишь их слова,
Если губы есть не просто губы –
Это правды жизни жернова.
Ты еще увидишь эти очи,
А увидеть побыстрей спеши,
Если очи есть не просто очи –
Эти очи – зеркало души.
Ты еще полюбишь это сердце,
Что клокочет пламенно в груди,
Если сердце есть не просто сердце,
А все то, что будет впереди.
Ты еще узнаешь эти муки,
Ты еще узнаешь эту боль,
Боль утраты, ревности, разлуки.
Это все вливается в любовь!

## Дача

Нарабіла жонка плачу:
“Пабудуй мне, – кажа ,– дачу.
Не патрэбен цёплы Крым –
Мы на дачы загарым”.
Будаваць то будаваць,
Але дзе чаго дастаць?
Стаў я ездзіць, стаў хадзіць,
Выпівох у бар вадзіць –
Выпіваюць, абяцаюць,
Хоць і шыш сваё што маюць.
Мой “удалы” падыход:
Аплаціўся цераз год:
Першы сябра даў мне дошкі,
А другі – цэменту трошкі,
Трэці – лес,
Чацвёрты – латы,
Даставаў участак пяты...
І сказалі: “Што маўчыш?
Стаў па новаму барыш!”
Першы выпіў два кілішкі,
А другі без перадышкі
Шклянкі тры паракуліў.
Вось дык піў!
Трэці сябра кажа: “Мне
Таго хопіць, што на дне!”
Ну, а дно было дзяжы,
Не кажы!
А чацвёрты – штурх у бок:
“Па Марусін паясок!”
Паяскоў тых не злічыць.
Ліць не ліць?!
І сядзіць , нібыта цвік.
А пасля пад стол
Кувырк!
Жонцы мову адняло.
Во было!
Шэпча мне:
“Што гэта значыць?”
Я ж кажу:
“Будуем дачу!..”

## Багацеем...

Да майго суседа Косці
Завіталі неяк госці,
У кватэру як зайшлі,
Дык рукамі развялі:
Ад сцяны і да сцяны
На падлозе дываны.
– Дзе дастаў такое ў хату,
Па знаёмству, ці па блату?
– Дываны, трумо таксама
Я купіў у сельскай краме.
– Там “прабіў” і гарнітуры? –
Задае пытанне Шура.
– А якой адменнай маркі!
Пэўна, не было без чаркі?
Дарагая вельмі мэбля,
Капітал які патрэбна!
Ну, няўжо з сваёй зарплаты
Стаў такі, браток, багаты?
Па пакоі госці шныраць,
Гаспадар гаворыць шчыра:
– Час вам, госцейкі, паснедаць,
Нашай закусі адведаць.
За сустрэчу – чарку можна.
Госці селі:
– Як заможна
Жывяце вы зараз тут!
Кім працуеш?
– Я – пастух,
– А Мальвіна чым занята?
– Я даю калгасны статак.
– І даўно?
– Дзевяты год.
– Сын наш Сцёпка – палявод.
– А дачка?
Пайшла ў навуку.
Не сядзім мы склаўшы рукі.
Доім, сеем, як і ўсе,
Багацеем пакрысе.

# Разышліся сцежкі

Я жыву
Пакуль у адзіноце.
За акном
Заснежыла зіма.
І рыфмую
Ў старым блакноце
Пра яе,
Якой са мной няма.

І не будзе –
Гэтак мне здаецца,
Хоць сходзі
За радай да шаптух.
Той агонь,
Што сграваў мне сэрца,
Назаўсёды
Ўдалечы патух.

Ці зіма,
Ці расцвітаюць вішні,
Ці курлыча
Клін тых журавоў...
Я пры шчасці
Апынуўся лішнім.
Мой цягнік
Навечна адыйшоў.

І стаю з цыгаркай
На стаянцы,
Сябра павітаўся:
"Ну, здароў!
Можа зробім
На хаду па шклянцы
За тваю
Няўдалую любоў?"

Селі мы
На каляёву шпалу,
І пакуль
Гудзелі цягнікі,
Выпілі
Па цэламу бакалу.
Што парадзіш,
Калі лёс такі...

Без пяшчоты, ласкі
І ўсмешкі,
Што злучае
Сэрцы маладых,
Недарэчна
Разыйшліся сцежкі,
Па якіх
Мы крочым ўдваіх.

# Позняя вернасць

Што было, таго
Вярнуць не проста,
Сэрца ные,
Нібы на бяду,
Ну, пакліч...
Праз разлучэння вёрсты
Я з надзеяй
Вернасці прыйду.
Прыпынюся
На тваёй алейцы
І паклічу
Ціха праз акно.
Можа, нашы,
Як калісці, сэрцы
Будуць зноўку
Стукаць як адно.
Калі ты не выйдзеш
З-за парога,
Тады я
Яго пераступлю.
Пацалую.
Мо, не будзеш строгай,
І скажу:
"А ўсё-такі люблю..."
І прабач
За позняе прызнанне.
Не чакала,
А яно ўсплыло.
Як шкада,
Што першае каханне
Кветкай-папараццю
Адцвіло...

# Прымак

(Фельетон)

*Пятніца*
Муж прыйшоў дамоў пад “мухай”,
Ледзь парог пераступіў,
Жонка мужу бэнц пад вуха:
– Ну, кажы, дзе доўга быў?
Дзе насёрбаўся без меры,
Нібы жаба, той гразі...
– Атрымаў сябрук кватэру,
На замочку запрасіў.
Жонка тупнула нагою:
– Цыц, да трох не гавары!
Калі хочаш жыць са мною,
Або – я, або – сябры!

*Субота*
Ён ляжыць у ложку, крэкча,
Галава ажно трашчыць.
А на кухні ўжо цешча
З самай раніцы шыпіць:
– Людзі, нібыта мурашкі,
Хто на дачу, хто ў гараж.
А ў нашага Івашкі
Ні кала і ні двара.
У другіх усё па модзе:
Футра, золата, крышталь,
А твая ў лапцях ходзіць,
На плячах адзін паркаль.

*Нядзеля*
Муж бярэ з цвіка бярданку:
На зайцоў сябры завуць.
– Ці хоць прыйдзеш сам да ранку,
Ці пад рукі прывядуць?
Паглядзіш, дык ў суседкі
Залаты мужык Сцяпан.
То цыруе ёй шкарпэткі,
То выпыльвае дыван.
Дэфіцыт праб’ е ў мястэчку.
Ёй пуцёўку на “юга”.
Ну, а ты – ні богу свечка
І ні чорту качарга.

*Панядзелак*
– Дзе знайсці майго прыблуду?
Муж у трубцы адказаў:
– Я сядзець на сходзе буду.
– Ах, каб ты ужо не ўстаў.
Без цябе там пабалбочуць,
Лепш звадзіў бы ў кіно.
Як у “храпа” граць захочуць,
Дык збіраюцца ў адно.
Як заваляць раптам справы,
Дык шумяць на ўвесь раён.
І няма на вас управы,
Не карае вас закон.

*Аўторак*
Муж занямог, тэмпературыць –
Запаленне, насмарк, грып.
Стаў прымаць ён працэдуры,
Зноў чуваць знаёмы скрып:
– Ранавата ты з’ явіўся,
Мусіць, выгналі ці не?
Ну, нарэшце дакаціўся,
Як нябожчык пасінеў.
Паляванне табе бокам,
Дасць бог, вылезе, павер.
Так і трэба абібокам,
Будзеш слухацца цяпер!

*Серада*
Палячыць яго хваробы
Заваліні сябрукі.
І прынеслі першай пробы
Барматухі два глякі.
Пачыналі піць па сто,
А калі пайшло з бакала,
Жонцы мову адняло,
Цешчу “скорая ” забрала.

*Чацвер*
На завод яна шыбуе
І заходзіць сходу ў цэх:
– Муж мой дома не начуе...
А у цэху моцны смех:
– Ён у доме адпачынку,
Ранкам сеў на самалёт.
– Раз ён мне – такую свінку –
Я таксама на курорт.
А за гэта не дарую,
Атрымае па баку:
Пры народзе адлупцую,
А ў хаце датаўку.
Вось дык перабудаваўся,
Бачна – ў іншыя бакі.
Хто яшчэ з такім не знаўся,
Дык бярыце ў прымакі.

Лірычная літаратурная



# Алена Смалянічэнка

*Алена Іванаўна Смалянічэнка нарадзілася ў в. Кудэйшы на Іўеўшчыне.*

*Скончыла Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Я.Купалы. Працавала ў Геранёнскай СШ педагогам-арганізатарам і настаўніцай сусветнай мастацкай культуры. Друкавалася ў часопісе "Бярозка", газетах "Іўеўскі край" і "Новая женщина", альманаху паэзіі "Голас надзеі 2008", выдадзенага ўпраўленнем адукацыі Гродзенскага аблвыканкама, усебеларускім літаратурна-мастацкім альманаху "Гоман", зборніках паэзіі "Подыхам адзіным" і "Паэзія 2011". Выдала дзве кніжачкі вершаў "Двадцать песен о любви" і "Прыязджайце ў Геранёны". Лаўрэат абласнога фестывалю "Поэзия – души движенье". На вершы А.Смалянічэнка Яўген Петрашэвіч і Яўген Карпуць напісалі 12 песень.*

## Восенькі настрой

Багровы сад, багровы жар,
Абгорнуты абшары туманамі,
Рыжэюць кветкі, як пажар,
Слязіцца - плача неба днямі.
Ельнік нас у грыбы запросіць,
Высцілае лісце для ўсіх дыван.
І закрылі неба просінь
Чародкі птушак і туман.
Юр'еў дзень прагоніць восень,
Валадарыць зімку просіць.

****

Ахінае вечар
Ласкавым спакоем,
Еду на сустрэчу,
Каб пабыць з табою.
Сонейка садзіцца,
Аблажылі цені.
Не нагаварыцца,
Дружа, нам й за дзень.
Разам прачытаем
Оду – гімн юнацтву.
Вер мне – успамінаю
Імя тваё часта.
Чараўніца - восень
Мне стрэчу прыносіць,
Мне радасць прыносіць.

# Зімовы вечар

Вельмі цяжка ветру ўзімку,
Бо няма яму прыпынку.
Вось знайшоў утульны домік
І залез нарэшце ў комін.
Заспяваў свае зноў песні
Аж да самага прадвесня
Дзеткам, тату, любай маці.
"Як жа міла ў гэтай хаце!"

****

Пайшла з жыцця зямнога маці,
І дзецям усім душа баліць...
Як пуста стала ў нашай хаце!
І печ халодная стаіць...
Глядзіць на нас усіх з партрэта
І завяшчае добра жыць...
Прыйшлі вясковыя кабеты,
Каб ёй малітву згаварыць.
Дастану я ручнік бялюткі,
Што мама ткала для сям'і.
І чую голас я ціхутка:
"Шчасліва, дачанька, жыві!"

****

Прыязджайце ў Геранёны
У нашу школу – казку й быль.
Тут і сад шуміць зялёны
І жыцця цікавы стыль.
Дабрынёю мы сагрэты,
Незабыўны ідзе ўрок.
Геранёнская планета –
Любы сэрцу наш куток.
Школай будзем ганарыцца
І сягоння, і заўжды
Шанаваць будзем традыцыі
Праз усе, усе гады.
І настаўнікаў урокі
Нам, як компас, у жыцці,
Робім першыя тут крокі,
Каб у будучыню ісці.

****

Я остаюсь, где дождь и туманы,
А ты улетаешь в солнечный край.
И не звони, и не шли телеграммы,
И встречи прошедшие не вспоминай.
А звонкое лето вновь возвратится,
Увидеться снова ты не спеши.
Новая песня не может сложиться
На старых развалинах храма.

****

Смотрит звездочка в окно,
Смотрит, усмехается.
Говорят, на Рождество
Сны  всегда сбываются.
Говорят, что в эту ночь
Девушкам-красавицам
Обязательно во сне
Суженый представится.
Я тихонько засыпаю,
Смотрит звёздочка в окно.
Кто приснится мне – не знаю
В эту ночь на Рождество.

****

Звенит звоночек по утрам:
«Вставай, уж солнышко взошло.
Поговорить так нужно нам,
Ведь мы не виделись давно!..»
Ловлю сердечные слова,
Пропал мой сладкий крепкий сон...
Пусть не молчит он никогда, –
Пускай звенит мой телефон.

****

Я хаджу ўлюбёна
У свае Геранёны,
Больш прыгожай я вёскі.
Не страчала нідзе.
Я люблю сінь нябёсаў
І сцежачку росную,
Што ўдаль нас вядзе.

Вось і ліпы наўкола,
Тут і родная школа
Сустракае дзяцей.
І сцяжыначка ў жыце...
Назаўжды не забыты
Позірк дзіўных вачэй.

Ты прыедзь у Геранёны,
Мой куточак зялёны.
Побач з замшчышчам стрэціш
І легенду, і быль
Каля мамінай хаты,
Дзе так кветак багата
Зноў зацвіў дзівасіл.

Так знаёмы сцяжыны,
Куст калючай ажыны
І вярба над вадой!
Не магу я напіцца
З той гаючай крыніцы,
Край цудоўны ты мой.

****

Бярозкі лісце жоўтае,
Асінка залатая...
Люблю я фарбы восені.
О, прыгажосць якая!

Гусцей туманы сцелюцца,
Маланкі не мільгаюць...
І песні пра вяселейка
Хай над зямлёй крыляюць.

А сны ўсе каляровыя,
І ў снах прыходзіш ты...
Ляцяць, ляцяць кляновыя
Ў маё акно лісты.

****

Пахнет осень хлебами,
Пахнет осень грибами
Да гречкой, да льном.
Пахнет ягодой спелой
Да  берёзкой белой,
Что растёт под окном.

Пахнет ветриком свежим,
Гладиолусом нежным,
Золотою листвой.
Пахнет утром морозным,
Птичьим криком тревожным,
Пахнет осень зимой.

****

Чараўніца-восень запрасіла ў школу,
Адчыніла дзверы ў навукі храм.
Радасныя дзеці з песняю вясёлай
Надарылі кветак дарагім гасцям.
Я жадаю шчасця дзеткам усім на свеце!..
Круцяць, круцяць глобус на ўроку дзеці.

****

Мне кажется: недавно  я  девчонкою
Дарила к празднику учителям цветы.
Промчалось детство сказкой, песней звонкою,
Исполнились мои заветные мечты.

И вот хожу я школьною тропинкою
Счастливая уж много лет подряд.
Встречает каждый раз в глазах с смешинкою
Мой боевой, мой красногалстучный отряд.

# Леанід Трафімчык



*Леанід Уладзіміравіч Трафімчык нарадзіўся ў 1933 годзе ў в. Трафімчыкі Шчучынскага раёна. У 1953 годзе закончыў Шчучынскую сярэднюю школу. У гэтым жа годзе паступіў у БДУ на юрыдычны факультэт. Пасля заканчэння працаваў у органах пракуратуры ў Архангельскай вобласці. Затым, пасля вяртання на радзіму, па рэкамендацыі Гродзенскага абкама партыі, пачаў працаваць юрыстам ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі Іўеўскага райвыканкама.*

*Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школьныя гады. У старэйшых класах быў рэдактарам насценнай газеты, членам юмарыстычнай газеты "Вілы ў бок".*

*Друкаваўся ў мясцовым друку.*

## Папараць-кветка

Ля гаючых крыніц, ля блакітных азёр
Я знайшоў сваю папараць-кветку,
Не мяняў я яе ні на які агонь,
А таксама калдуны ўсмешку.

Узнялася ты ўвысь вераніцай дабра,
Сэрца грэла пяшчотай і ласкай,
І не можа ніхто нашу мару забраць,
Што цвіце і расце як сон-казка.

Не губляй ты дары, Богам даны табе,
Асвяціся мне зоркай Вянерай,
Калі прыйдзе часіна, спусціся з нябес,
Ўскалыхні наша полымя-веру.

І нясі над зямлёй дарагі ўспамін,
Не давай яму тухнуць, знікаці,
Моцна буду чакаць хвалю добрых навін,
Каб з табою ізноў сустракацца.

Захавай цеплыню ты лагодных вачэй,
І усмешку вясновых пралесак,
І за сонца хай будзе твой позірк ярчэй,
Калі стрэну цябе на ўзлеску.

## Твоё сердце

Твоё сердце ещё не оттаяло,
Не привыкло оно и к теплу.
Не гонись за обманною славою –
Всё равно я туда не ступлю.

Не спеши на неверно свидание,
Где теряется взгляда тепло.
Знаю, счастье твоё в ожидании
Почему-то мечтой поросло.

Разбуди же надежду крылатую
И лети, куда хочет душа,
Может была ты даже распятой, –
Для меня ты всегда хороша.

Приближаются сумерки ночи,
Тихо шепчутся травы и лист,
Снятся часто родные мне очи,
Соловьиные трели, их свист.

Улетайте скорее сомнения,
С вами жить не всегда ведь легко,
Но не будешь ты, знаю, осмеянной,
За душевную близость, тепло.

Не таи же огнистые страсти,
На такие лишь только иди.
Это в нашем желаньи и власти –
Клятва верности век нас веди.

## Не скрывай

Не скрывай от меня своё прошлое,
Ничего от меня не таи,
Расскажи про любовь и про пошлое,
Всё, что видели очи твои.
Про надежды и жаркие ночи,
Про разлуку, печаль и тоску...
Твои милые, добрые очи
Предо мною стоят, лишь проснусь.
Мне так хочется знать всё до боли...
Обо всём, чем ты раньше жила.
Может шла ты порою без воли,
Мимо стежек родного села.
Я не мог позабыть наши встречи,
Плеск волны и таинственный вечер,
Поцелуй на тропинке лесной.
Нет конца, моя милая, чарам,
Небу божьему, зорным огням,
Не хочу чтобы у нас это крали,
Разнося по чужим закромам.
И в едино забьётся у нас сердце
И сольётся гармония чувств,
В наше счастье, родная, поверьте
И цветочную россыпь вокруг.

## Ты пойми

Мы на шумном перроне стояли,
Расставанья уж близился час.
Всё, что надо, друг другу сказали,
Но огонь нашей зорьки не гас.

Только что-то тревожило сердце,
Не хочу я разлуки с тобой!
Пусть дорога обоим нам стелется,
Как цветочная россыпь весной.

А с лица твоего улыбка слетела,
И в глаза залетела тоска.
Вечерело. Кругом уж темнело,
Ветер тучи куда-то таскал.

Верю счастью я душ окрылённых,
И терпенью горячих сердец.
Нет сильнее желаний влюблённых,
Освятить их заветный венец.

Ты пойми, дорогая подруга,
Будет встреча у нас не одна.
Не помеха нам снежная вьюга,
Если счастья дорога видна!

К нам вернутся горячи объятья,
Нежных слов изумрудная вязь.
Я не верю в чертей и проклятья,
А в твою лишь волшебную власть.

За прощанием будет свидание,
Может быть не одно и не два,
Оправдается наше желание,
Что сойдёмся с тобой навсегда.

## На распутье

Опять я стою на распутье,
Стою и не знаю дорог,
Как трудно бывает вернуться
К тому, что так сильно берёг.

Проходят дожди, снегопады,
Холодные ветры с пургой,
Но, вместе, как раньше, не сядем,
Покрывшись морозною мглой.

Напрасно надежда искрится,
Как выси небесной звезда,
Придётся нам всё же смириться
Не будет тех встреч никогда.

Горячие встречи и речи
Уносятся мимо и прочь,
Но вспомнятся смуглые плечи,
Волшебная тёмная ночь.

Прощаются воды и поле,
И вдаль улетала мечта,
Баюкала песня о воле
И что-то хотела сказать.

Но где, за каким поворотом,
И с болью забытой тоски,
С большим али маленьким сроком
Разбудишь ты веры ростки.

## Мроі

Не патрэбны багацце і грошы,
Жэмчуг, золата, плацін, алмаз.
Захацеў я цяпла твайго трошкі,
Каб сагрэцца ў жыцці ім хоць раз.

Надаеў мне сцюдзёністы вецер,
Яго шалыя песні ўначы.
Дзе ж ты, доля мая чалавеча,
Куды можна цяпер уцячы?

Скрыжаванні, пуціны, дарогі
Захавай ты, асенняя мжа,
Ўжо не цешаць мяне перамогі –
А на сэрцы самота і жаль.

І заплакала восень дажджамі,
Ў вырай птушкі ляцяць чарадой.
Стань ты госцяй у сэрцы жаданай,
Абудзі самы лепшы настрой.

Я сумую даўно без пяшчоты,
Сагравальны дзе позірк вачэй?
Ці ж насустрач ка мне ты пакрочыш,
Каб пакут пазабыцца хутчэй.

## Я забыл...

Я забыл, что такое ровесники,
Я забыл, что такое любовь...
Что-то сердце грустит, мне невесело,
Не бурлит и не греется кровь.

Ты ушла далеко, в даль заоблачную...
Надо мною лишь зори горят –
Я любил ведь тебя непорочную –
Мне плевать, что о том говорят.

Пролетели года непохожие
Ни на ветер, пургу, ураган.
К кому сердце твоё приворожено?
Кому песни поёшь, океан?

Я отдал ведь тебе года лучшие,
Всё, чем была прекрасна душа,
Отчего же теперь всё так рушится,
Почему ты уходишь спеша.

## Ты молчишь

Мне сегодня тебя не хватает...
Позабытый сегодня тобой,
Одиноко тоскливо страдаю,
Поражённый молчаньем родной.

Ты забыла сиреневу вьюгу,
Поцелуев горячих пору.
Может быть мне хотелось подругу
Хоть раз в жизни найти наяву.

Рассыпаются милые грёзы,
Наступает холодный туман...
Как красивы вы, девичьи слёзы,
Как красив ты бываешь, обман.

Только сердце порой холодеет,
Только больно бывает душе.
Неумолимо лишь волос седеет
На голове и виске.

Ты молчишь, запорошена вьюгой,
Оторванная далью вёрст,
Знать, не можешь ты быть мне подругой,
Хранить верность, мечту и любовь.

Без прощанья с тобой разойдёмся,
Без пожатья руки и надежд,
К встречам нашим былым не вернёмся,
Обойдёт нас печальная весть.



# Яніна Халява

*Яніна Іосіфаўна Халява нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Вігушкі Іўеўскага раёна. У 1968 годзе закончыла Вігушскую васьмігадовую школу. Два гады вучылася ў Іўеўскай сярэдняй школе, якую закончыла ў 1970 годзе. У гэтым годзе паступіла ў Мінскі тэхналагічны тэхнікум швейнай вытворчасці. Працавала ў Доме быта тэхнолагам. Зараз знаходзіцца на пенсіі. Друкуецца ў раённай газеце.*

## О, край дзяцінства, родны край!

Няма на свеце прыгажэй
Чым той куточак краю мілы,
Дзе нарадзіўся між людзей,
Дзе набіраў жыццёвай сілы.
Няма на свеце прыгажэй
Бяроз і елачак зялёных,
З якімі разам падрастаў,
З якім змалку быў знаёмы.
Няма на свеце прыгажэй
Тых васількоў і тых рамонкаў.
З якіх вяночкі мы вілі
І спявалі ў лузе звонка-звонка.
Няма на свеце прыгажэй
Крынічак тых і тых рачулак,
Дзе ў спёку летняю парой
Дзяцьмі знаходзілі прытулак.
Няма на свеце прыгажэй
Сцяжынак тых і тых дарожак.
Якія носяць успамін –
Сляды дзіцячых нашых ножак.
Няма на свеце прыгажэй
Тых песень маміных вясковых,
Якія сталі мне ў жыцці
І промнем свету, і асновай.
Няма мілейшай за цябе,
Зямелька родная, святая.
Хачу, каб красавала ты.
Бяды і гора каб не знала.
О, край дзяцінства, родны край!
Цудоўны, як квяцісты май.
Шукаю я найлепшых слоў,
Каб выказаць к табе любоў.

# Зямля святая

Зямля святая нашай вёскі,
Святыя постаці бярозкаў,
Якія з крыжам побач сталі.
Ад злога вёску ратавалі.
Усё святое – ад пачатку,
Нават з чаго пачаць, не знаю,
У сябе патрошкі запытаю,
Падумаю, паразважаю...
Святыя людзі там жылі,
Усё, што мелі, берaглі.
І Бога вельмі шанавалі,
З ім клаліся і ўставалі.
Святы алешнічак з черомхай,
З крынічкамі і салаўямі,
Святы бярэзнічак ля Ганьці,
Што Жагунісінаю звалі.
О, хатка Ганьціна святая.
Дзе вечарыначкі скакалі.
Дзе бавілі свой час найлепшы,
І хлопцаў лепшых выглядалі.
Ты варта, каб не раз успомніць
Усе прыгоды маладосці,
І дзякаваць табе і Богу,
Там было месца весялосці...
Святыя ўзгорачкі і ямкі,
Магілачкі з людзьмі святымі,
І я там пехамі хадзіла,
Была святою паміж імі.
...Нядзельку гэтак там чакалі,
Мялі чысцютка, вымяталі
Падворкі, вулічку, рышточкі –
Каменьчыкі аж танцавалі.
У святы, хораша ўбраўшысь,
Выходзілі з сваіх варот,
Збіралісь разам, гаварылі –
Жыццё сваё, як ёсць, любілі.
Не плакалі, але спявалі,
Усіх добрым словам спатыкалі.
...Хачу, хачу туды пайсці,
Каб для душы спакой знайсці.

Хачу пабачыць тыя хаткі,
Якія там ідуць парадкі.
Хоць ведаю, што вельмі мала
Людзей у вёсцы засталося.
Усё ж мо ўбачу рэшткі тога,
Такога сэрцу дарагога
І наймілейшага, святога.
Дарожкі тыя каля вёскі,
Што ў свет вялікі і малы
Ўсіх з дзвярэй сваіх вялі...
Ці засталіся там яны,
Чые цяпер там ходзяць ножкі?..
Лаза і грэбелька,
Лашчына й Каменна балота,
Вас помню я і ўспамінаю,
Вас часта ў думках ўваскрасаю.
І там хаджу, і там блукаю,
Святыя месцы майго краю.
Святыя мама мая й тата,
Святая ў вёсцы наша хата.
Святая родная зямля,
З табою неразлучна я.
Лясочкі родныя мае –
Святыя назвы вашы мне!
Культуры, Хвойнікі, Дзялянка,
Барозны і Вяліка Поле –
Усё знаёмае да болю.
Пайду, паеду туды зноў,
Няхай мая заходзіць броў,
Няхай душа мая ачнецца,
Бо там часцінка майго сэрца.
Калі б я мела грошай шмат,
То наняла б майстроў найлепшых,
Каб там капліцку збудавалі
На ўзгорачку ўскрай сяла –
Няхай бы святасць там жыла.
Яшчэ б бярозкаў насадзіла,
Каб вырас там вясёлы гай,
Каб святасць між людзей хадзіла
І каб давала добрай сілы.

# У Вёсачцы

Дзень добры, вёсачка мая,
Дзень добры, куст язьміну ў цвеце,
Мне так хацелася сюды,
Да вас, найлепшыя на свеце.
Мой любы, родны куст язьміну,
Які ж ты сёння ўрачысты,
Святочным дожджыкам абмыты,
Стаіш, як промень успаміну?
Такі пахучы, свежы, чысты.
Дазволь сябе пацалаваць,
Дазволь да кветак прытуліцца,
Дазволь букет з сябе нарваць,
Дазволь красой тваёй упіцца.
Даўно не бачыла цябе,
Даўно не была ў сваёй вёсцы,
А ты ж такім прыгожым стаў
Ва ўбранні светлым, чыстым, боскім.
(Як бы чакаў мяне ў госці).
Прыехала я, сустракай,
Бо больш ніхто тут не чакае,
А можа ты й чакаў мяне
(Вось толькі хто пра тое знае?).
Дзень добры, людзі, лес і травы,
Я вельмі рада бачыць вас.
Параспытаць пра вашы справы
У такі няпросты гэты час.
Ніхто жыццём не пахваліўся,
Ды й вельмі скардзіцца не стаў,
Яно ідзе прывычным ходам
І мае свой вясковы “ўстаў”.
Бывай жа, вёсачка, бывай,
Дасць Бог, зноў некалі прыеду,
Зноў мы сустрэнемся з табой,
І ціха завядзём бяседу.
Я доўга-доўга буду думаць
Пра ўсё, убачанае тут.
І буду сніць, і не забуду
Мой родны, мілы сэрцу кут.

Лірычная літаратурная

## Трэба жыць

Калі здаровы ты і моцны,
Калі нічога не баліць,
Ты думаеш, што так і трэба:
А як жа йначай – трэба жыць.
Калі ж хвароба прыпляцецца
І моцна ўсё табе баліць,
Тады і белы свет нямілы,
Ды што паробіш – трэба жыць.
А калі раптам, як гром з неба.
Бяда аднекуль наляціць,
Ты молішся, ты церпіш – трэба.
Бо і з бядою трэба жыць.
Калі ж цябе пад ногі топчуць,
Ад крыўды ўсё ў душы кіпіць,
Ты зноў маўчыш, долю трываеш.
Хоць вельмі цяжка – трэба жыць.
Калі ж зусім самотна стане,
Калі час плакаць, галасіць,
Ты вер, што лепшы дзень настане,
Чакай і ведай – трэба жыць!

## Дзеткам пра сняжынкі

Ціха-ціхенька – ціхутка
Кружацца сняжыначкі.
Долу падаюць нячутна
Лёгкія пушыначкі.
Белай коўдрачкай накрыюць
Зямельку-маці,
Каб ёй цёпленька было
Ўсю зімачку спаці.
А як выспіцца ў цяпле
Карміцелька-маці,
То здаровенькаю зможа
Вясною ўставаці.

## Гімн бэзу

Бэзу пах у маі,
Ты мне найдарожшы,
Бо з дзяцінства моцна
Ў душу маю ўросшы.

Пад акенцам хаты
Нашай у Вігушках
З самага дзяцінства
Хваляваў мне душу.

Кожны год букеты
З бэзу я збірала,
А як адцвітаў ты –
Моцна шкадавала.

Ты мне быў найлепшы
І найпрыгажэйшы,
Такім застанешся
Аж да смерці, вечна.

Бэзу пах у маі,
Прызнацца я мушу,
Раніш, як раней ты,
Хворую ўжо душу.

Гады пралятаюць,
Жыццё пераменна,
Толькі пах твой, бэзе.
Хвалюе нязменна.

****

Няма нічога прыгажэй
За яблынь цвет бела-ружовы,
Хто захапляўся ім вясной –
Знімаў з сябе жыцця аковы.
У захапленні тым прыгожым
Лаўлю сябе на думцы той,
Што пакуль сад вясной цвіце,
І я раблюся маладой.



# Валянціна Чвалава-Салановіч

*Валянціна Мікалаеўна Чвалава-Салановіч нарадзілася 16 мая 1952 года ў вёсцы Заберазь Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Любоў да паэзіі прывіў бацька, настаўнік рускай мовы і літаратуры – Салановіч Мікалай Іванавіч. Маці, Вольга Сцяпанаўна, бібліятэкар, перадала дачцы сваё захапленне народнай творчасцю. Закончыла Мінскі дзяржаўны інстытут імя А.М.Горкага. Працавала музычным кіраўніком дзіцячага садка ў в. Бярозкі.*

*Зараз Валянціна Мікалаеўна працуе выхавальнікам і музычным кіраўніком у Лукаўскай школе-інтэрнаце. Наведвае літаратурнае аб’яднанне “Пралеска” пры Гомельскай раённай бібліятэцы. Замужам, гадуе двух сыноў.*

*Друкавалася ў абласных і рэспубліканскіх газетах і часопісах.*

## Заберезь

Как живешь, моя деревня?
Тебя часто вспоминаю...
В небо тянутся деревья,
Их там солнышко ласкает.
И колодец, где водица,
Жажду мигом утоляет,
Из земли родной струится
Чистотою охмеляет.
А теперь ты постарела
И разрушены домишки...
Удержать все ж не сумела
Ни девчонок, ни мальчишек.
Словно птицы улетели,
Им в деревне нету пары
Песни новые запели
На асфальте под гитару.
Ноет и болит сердечко...
Верю я – деревня встанет:
Не погаснет в храме свечка,
Куст сирени не завянет.

## Радзіма

Прысніліся мне зноў мясціны,
Дзе я, бы кветка, узрасла,
І сэрца цесняць успаміны:
Даўно ўжо дома не была.
Даўно ўжо, выпархнуўшы птахай,
Гняздо наседзела не там,
Пры горадзе, дзе толькі гмахі,
І сэрца рвецца папалам.
Прайсці па родных тых прасторах,
Да рэчкі Іслач завітаць,
Дзе сцелецца дыван мурожны,
Дзе сосны велічна стаяць.
Там рдзеюць ягады суніцы,
І смачна пахне чабарок,
Там елкі, нібы маладзіцы,
Уецца сцежкі паясок.
Прайдуся, не хаваю слёзы:
Другая рэчка тут бяжыць.
Бяроза, рэчанька Бяроза,
Над ёю Заберазь стаіць.
Масток, за ім і вёска Бакшты,
Там школа. Вельмі шмат гадоў
Сцяжынцы, што бяжыць ля хаты
Сярод разгалістых кустоў.
Да болю родныя мясціны!
Сумую. Як не сумаваць?
Часцінка роднае краіны...
Хутчэй бы дома пабываць!

# Маці

Дазволь, матуля, да цябе мне прытуліцца,
Бо ты, як тая чыстая крыніца.
Дазволь мне твае рукі цалаваць.
Рукам пашаны песню праспяваць.
Дазволь абняць цябе, параіцца з табою.
Спраўлялася ты з горам і з бядою.
Бабуля добрая і добрая ты жонка,
А твае вочы – мудрасці скарбонка.
Хай радасць напаўняе твае грудзі,
Цябе любіць і шанаваць мы будзем.

# Пляткары

А ў вёсцы пляткары
Ад змяркання да зары
Днямі плёткі свае ткуць,
Жыцця людзям не даюць.
Размаўляе маладзіца:
“Людзі, як тут не дзівіцца?
Ходзіць Віктар да Галіны,
Сёння быў на імянінах.
Разышліся на зарэ,
Але ж замуж не бярэ”
А другая ў бок таўхае,
“А Рыгор, хоць мае толк,
Паглядае не ў той бок.
Ён пры жонцы і не раз
Люду запрашаў на вальс”.
Ды знайшлася маладзіца,
Што не хоча з ёй змірыцца:
“Ты б, Наталля, не брахала,
Пра свайго лепш расказала.
Твой не толькі патанцуе,
Каго хоча й пацалуе”.
А ў вёсцы пляткары
Ад змяркання да зары
Днямі плёткі свае ткуць,
Жыць спакойна не даюць.



# Аляксандр Шлык

*Аляксандр Аляксандравіч Шлык нарадзіўся 27 студзеня 1946 года ў в.Вяліка Малая Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Яшчэ будучы вучнем сярэдняй школы, пачаў пісаць вершы. Пасля школы з адзнакай закончыў Пружанскі сельскагаспадарчы тэхнікум па спецыяльнасці агранамія, але ўсё жыццё прысвяціў журналістыцы. Працаваў на розных пасадах у раённых газетах, апошні час – у газеце "Гўеўскі край" у аддзеле сельскага жыцця. Вершы друкаваліся ў абласным і раённым друку.*

*Памёр у 2006 годзе.*

****

Мне хорошо бродить в лугах.
Как люстры, росы светятся,
Косой любимой в облаках
Плывёт сверканье месяца.

В траве порхают ветерки
Зелёными стрекозами.
И, как портные, кулики
Кроят туман над плёсами.

И самолёт гудит у звёзд.
Летящих в бездну бешено.
...Как жаль, что это я приснил,
Лишь в декабре заснеженном.

****

Ты не верь, что сердце у меня
Твёрдое, холодное как камень –
В нём ручьи весенние звенят,
В нём лесов осенних пышет пламя.

Подойди и тронь его рукой–
И оно расскажет всё, что знает:
Как шуршат травинки над водой,
Как звезда на небе умирает.

И как будит ночью тишину
Шаловливый непоседа-ветер...
И как любит лишь тебя одну,
Самую красивую на свете.

## Этюд

Мороз — и тихо речка стынет,
И тучи край огнём горит,
И в роще у костра рябины
Погреться сели снегири.

## Последняя ночь августа

Теплятся сонные пруды
На краешке былого лета.
Звенит у розовой воды
Куст золотого бересклета.

И белый конь из родника
Пьёт звёздный свет, кося глазами.
Под телетайпный стук сверчка
Уходят в осень телеграммы.

****

Толкаясь у плетня лесов,
Где дня сгорает рыжий хворост,
Пасётся стадо облаков,
Жуя лучей последних поросль.

Полна заботами весны
И соловьиных песен звонких,
Спешит с подойником луны
К ним ночь, как женщина к бурёнкам.

****

Вечерами в улочках глухих
Мостовыми гулкими шагая,
Я читал тебе свои стихи,
Как большую тайну раскрывая.

Их любила слушать ты всегда
И просила написать поэму.
Написал бы, может, но тогда
Было б наших встреч короче время.

****

К ночлегу ветры пролетят
Вдоль пропылённой улочки.
Зовёт черёмуховый сад
Глазами белорусочки.

И я спешу на этот зов,
Охваченный волнением,
И долго слушаю, до зорь,
Травы земное пение.

Из чудо-родника весны,
Что изнутри весь светится,
Пью хмель звенящей тишины
Изящным блюдцем месяца.

И долго в поздние часы
Смотрю, как день рождается,
Как свет твоей льняной косы
С востока пробивается.

## В лесу

Пила визжала и звенела,
Взорвав лесную тишину,
Своим змеиным, гибким телом
Под корень резала сосну.
Стонало дерево от боли,
Застыв в безвыходной тоске,
Уже у смерти на приколе,
У жизни лишь на волоске.

## Размолвка

Парило чуть. Они шли рядом.
Молчали. Изредка она
Его окидывала взглядом
И шла горда, отрешена.

По крайней мере быть старалась
Она такой. И потому
Всё больше в стороне держалась,
Всё больше... нравилась ему.

****

Мы слушали кузнечика в траве,
Стояли неподвижно, руки в руки.
И таяли в прозрачной синеве
Совсем непримечательные звуки.

А он, кузнечик, нас не замечал –
То вдруг скрипел, откручивая гайки,
То что-то очень звонкое ковал
На наковальне крохотной лужайки.

****

Чего греха таить: и в нас
Не боги ведь живут, а черти.
И мечем мы огонь из глаз,
И презираем близость смерти.
Коль к нам с добром — и мы добры,
Но на жестокость — не жестоки.
Жизнь наша, что ни говори,
Сложна, как высших формул строки.
Мы ради истины идём
В огонь и бездну океанов.
Находим сложное в простом,
Простое в сложном, как ни странно...

****

Отливает густой позолотой,
Чуть дымясь, на закате река.
Вот кузнечик раскладывать ноты
Принялся на пюпитре листка.
Облаков шевелятся улитки
И куда-то плывут, не спеша.
И туманов тяжёлые слитки
На лугах и на плёсах лежат.
Наплывает приятная свежесть,
С нею — тихая песня девчат.
А над всем этим в звёздном безбрежье
Рассмотрел я забытый твой взгляд.

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# Іўеўшчына літаратурная

## Зборнік прозы і паэзіі

Укладальнікі:
**Бутурля** Лілія Лявонцьеўна,
**Завадская** Галіна Іванаўна,
**Жышко** Ірына Баляславаўна.
Адказны за выпуск: *С.А. Міранчык.*
Камп'ютэрны дызайн і вёрстка *Э. Макаль*
Карэктар *Р. Мусяка*

Падпісана да друку 03.06.2013.
Фармат 60х90 $^1/_8$. Папера мелаваная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 13. Ул. - выд. арк. 23,5.
Тыраж 500 экз. Заказ 3065.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Гродзенскае абласное ўнітарнае
паліграфічнае прадпрыемства «Гродзенская друкарня».

ЛИ № 02330/0552822 ад 08.04.2009.
ЛП № 02330/0552745 ад 25.02.2009.

Вул. Паліграфістаў, 4, 230025, Гродна